Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 25 жніўня 1989 г. № 34 (3496) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ

## ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

**Пад час выбараў народных дэпутатаў СССР гэтая рубрыка рэгулярна з'яўлялася на старонках «ЛіМа». Мы вырашылі вярнуцца да яе і цяпер, калі рэспубліка стаіць на парозе выбараў народных дэпутатаў мясцовых органаў улады. Апублікаваныя днямі праекты законаў «Аб выбарах народных дэпутатаў БССР» і «Аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў» выклікалі значную цікавасць грамадскасці рэспублікі. Сёння мы друкуем першыя водгукі аб прапанаваных для абмеркавання законапраектаў.**

□

**Прачытаў** апублікаваны праект Закона аб выбарах у народныя дэпутаты БССР. Прачытаў і прыйшоў да высновы, што ён паўтарае памылкі Закона аб выбарах народных дэпутатаў СССР. Зноў засталася палачка-выручалачка бюракратычнага апарату — акруговыя перадвыбарчыя сходы, з дапамогай якіх ён спадзяецца адсеяць найбольш прагрэсіўных, незалежных па сваіх поглядах, радыкальных кандыдатаў у дэпутаты. Акружныя перадвыбарчыя сходы, дзе фактычна адфільтроўваюцца лепшыя людзі, трэба адмяніць.

Канечне, лепш было б не выбіраць дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, але, здаецца мне, улады пакуль што на гэта не пойдуць...

І апошняе. Зноў мяркуюцца «выбары без выбару». Ва ўсякім разе, такое дапускаецца. Так што ўжо цяпер можна сказаць, хто з кіраўнічых работнікаў будзе дэпутатам.

**І. ЛОБАЧ,**
**рабочы.**

□

**Закон** аб выбарах народных дэпутатаў БССР трэба змяніць у бок яго дэмакратызацыі, а іменна: выбары павінны быць прамымі і альтэрнатыўнымі для ўсіх дэпутатаў без выключэння; выбары ад грамадскіх арганізацый павінны праводзіцца толькі праз тэрытарыяльныя акругі; акруговыя сходы павінны быць адменены.

Лічым, што гэта можна зрабіць наступным чынам. Усіх кандыдатаў у дэпутаты, вылучаных абавязкова на агульных сходах калектываў, рэгістраваць па месцы вылучэння ў той колькасці, у якой яны будуць рэкамендаваны. Пасля першага тура ўсеагульнага тайнага галасавання ў спісах трэба пакінуць не менш як два (у выпадку роўнай колькасці галасоў — 3-4) кандыдаты, якія набралі найбольшую колькасць галасоў. Другі, вырашальны тур галасавання па большасці галасоў выяўляе народнага абранніка.

**Выпіска з пастановы сходу працоўнага калектыву цэха № 211 Мінскага завода вылічальнай тэхнікі. Старшыня сходу — Б. ШЭДЗЬ, сакратар — В. ЦЫТРОН.**

□

**Мне здаецца,** што ў праекце законаў БССР аб выбарах народных дэпутатаў нямала заган, як і ў Законе аб выбарах народных дэпутатаў СССР. Асабіста ў мяне, пры знаёмстве з праектамі, узніклі вось якія пытанні. Хто будзе прызначаць ці выбіраць старшынь выбарчых камісій? Якая колькасць выбаршчыкаў павінна прысутнічаць на сходзе па месцы жыхарства, каб выбарчая камісія зарэгістравала вылучаных на іх кандыдатаў? Ці можа працоўны калектыў (або калектыў студэнтаў), у якім не больш за 25 чалавек, вылучаць свайго кандыдата?

У сувязі з тым, што апублікаваныя праекты законаў не ўлічваюць яўных памылак, якія выявіліся ў ходзе правядзення выбараў народных дэпутатаў СССР, і што ў сім-тым яны не адпавядаюць духу перабудовы і дэмакратызацыі нашага грамадства, а таксама ўлічваючы магчымасць разгортвання на старонках рэспубліканскіх газет кампаніі па «ўсенародным» адабрэнні гэтых праектаў, прапаную: правесці ў рэспубліцы шырокае дэмакратычнае абмеркаванне законапраектаў з тым, каб кожны мог выказаць з

(Працяг на стар. 2).



**Выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, якія займаліся на курсах пры Мінскім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, мелі некалькі сустрэч з пісьменнікамі. Ніл Гілевіч, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, расказаў пра накірунак дзейнасці ТБМ, падзяліўся ўражаннямі аб рабоце нядаўняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Вядомы даследчык гісторыі, аўтар кнігі «Старажытная Беларусь», што прыйшла да чытача дзякуючы часопісу «Маладосць», і зборніка «Па слядах аднаго міфа», выпушчанага выдавецтвам «Навука і тэхніка», Мікола Ермаловіч гаварыў аб сваёй працы, аб стане гістарычнай навукі ў рэспубліцы.**

**Плённа працуе ў галіне гістарычнай прозы Вольга Іпатава. У час сустрэчы з настаўнікамі яна закранала надзённыя пытанні зберажэння нацыянальнай памяці, гаварыла аб адраджэнні беларускага народа.**

**Шмат пытанняў задалі педагогі народнаму пісьменніку БССР Івану Шамякіну, творчасць якога добра вядома і настаўнікам, і школьнікам. Нам было цікава даведацца, над чым працуе любімы пісьменнік, як ставіцца да з'яў і праблем сучаснага жыцця.**

**Усе гэтыя сустрэчы наладзіла Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.**

**М. МАЦЮКЕВІЧ,**
**настаўніца СШ № 11 г. Салігорска.**

Іван Шамякін гутарыць з настаўнікамі.

Фота Ул. КРУКА.

## У НУМАРЫ:

ларусы ў Латвіі». Дырэктар музея Клара Радзыня, адкрываючы выстаўку, адзначыла даўнюю супольнасць беларусаў і латышоў. І сапраўды: выстаўленыя экспанаты — перыёдыка, прадукцыя беларускага выдавецтва і іншае — самі сведкі таго дэмакратычнага сужыцця, якое не сварыла народы, а дапамагала выяўляць адметнасць, уздымаць дух кожнай нацыі. К. Радзыня падзякавала сваім памочнікам — старшаму навуковаму супрацоўніку музея Аніце Мартынсонэ, мастаку Вячку Целешу, сябру беларускага культурнага таварыства «Світанак», за магчымасць убачыць і ацаніць парытэты культурна-асветнай дзейнасці беларусаў у даваеннай Латвіі.

Ад сябе зазначу. 100-тысячнай грамадзе нашых суайчыннікаў у сённяшняй Латвіі не варта ламаць коп'і, чыё згуртаванне лепшае: «Раніца», да прыкладу, ці «Світанак»... Перад усімі адкрыта магчымасць, улічваючы самаахвярны вопыт папярэднікаў, ладзіць масты ўзаемаразумення. Многіх латвійскіх беларусаў бянтэжыць самае элементарнае патрабаванне перабудовы: ведаць сваю родную мову і мову дзяржавы, з якой чалавек паяднаў свой лёс.

Варожы звер — душэўная лянота — так і зырыць з амаль кожнага нацыянальнага канфлікту.

Гісторыя даводзіць, што недзе ў 1210 годзе паміж Полацкам і Рыгай быў заключаны «вечны мір». У 1686 г. «вечны мір» Рэч Паспалітая заключыла з Расіяй. Цяжка бывае ўберагчы непарушнасць пагадненняў, заключаных палітыкамі, валадарамі... А калі «вечны мір» між сабою заключаць нацыі, народы?

Учытваюся ў праект платформы КПСС. Так хочацца, каб пакутнае неба над нашай краінай прынесла ўсім нам прасвятленне, празарэнне. Анемічнаму, мне так хочацца азону мора. Тысячу гадоў шукае свайго мора мацярык з наканаваным Гісторыяй найменнем — Беларусь. Пакуль што маленькае мора варушыцца-ажывае толькі ўнутры гэтага імя.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

---

**дзейнасці вядуць раней ці пазней да сутыкненняў з міліцыяй, альбо да наўмысных ці ненаўмысных аварый узрастаючага маштабу...»**

**Тут міжволі схопішся за галаву. Якія сутыкненні з міліцыяй справакаваў Пазняк? Якія «наўмысныя ці ненаўмысныя аварыі ўзрастаючага маштабу» адбыліся па яго віне? Можа, І. Рыжкоў і В. Глушкоў маюць на ўвазе безразважныя дзеянні міліцыі ля Маскоўскіх могілак 30 кастрычніка 1988 года? Дык жа яны павінны ведаць, што нават міністр МУС СССР В. Бакацін у «Правде» прызнаў, што дзеянні міліцыі былі неадэкватнымі сацыяльнай небяспецы, якую ўяўляў мітынг. Нават і ён словам не абмовіўся аб тым, што гэта ганебная акцыя была кімсьці справакавана. Ці, можа, аўтары маюць на ўвазе той сакавіцкі выпадак (ужо сёлета), калі ўначы міліцыя ўварвалася ў будынак Саюза пісьменнікаў БССР і, прыкрываючыся *пошукам* неіснуючай бомбы, рэквізавала літаратуру БНФ? А аварыі? Ці не віноўнікамі чарнобыльскай трагедыі задумалі каментатары зрабіць лідэра БНФ? А мо і гібелі «Нахімава», і чыгуначнай катастрофы пад Уфой?**

**І. Рыжкоў і В. Глушкоў узялі на сябе ролю тлумачальнага слоўніка. Яны скрупулёзна і настойліва разжоўваюць чытачам, як дэбілам, паняцці слоў «рэліктавая», «Ачакаў», «Зімні», расказваюць баечкі пра гнілы слуп пры будаўніцтве драўлянага моста. Тлумачачы паняцце ўлады, ледзьве не дагаварыліся да таго, што «ўсялякая ўлада ад бога». Не абышлі і**

**(Працяг на стар. 15).**

---

**Перагартайце газетна-часопісныя камплекты недалёкіх застойных гадоў, і ў вас у вачах застракаціць ад незлічоных ініцыятыў, каштоўных пачынанняў, смелых эксперыментаў. А парадны бляск рапартаў-рэзалюцый, сумяціца вакол чарговага мудрага ўказа і пакуты творчасці пры распрацоўцы шматтомных мерапрыемстваў па яго рэалізацыі!**

*Перабудове—ідэі абнаўлення*

# СІНДРОМ ПАЎГАСПАДАРА

Для мяне тыя незабыўныя гады асацыіруюцца з наступным відовішчам: збоку ад цэнтральнай сядзібы саўгаса, сярод куч будаўнічага смецця, стаяць уздоўж раскалашмачанай дарогі вастраверхія цагляныя катэджы з пустымі вачніцамі аконных праёмаў. На ўскрайку мёртванароджанай вёскі заглух у буйных зарасніках крапівы вялізны падмуракманаліт. Некалі тут задумвалі пабудаваць дашкольны камбінат на 180 месцаў. Пасля таго, як выявілася, што больш за трыццаць дзяцей ва ўсёй акрузе днём з агнём не знойдзеш, будаўніцтва вырашылі «замарозіць». З новымі дамамі таксама выйшаў канфуз. Ахвотнікаў жыць у цесных, як манастырскія келлі, скрынках не аказалася, і занепакоены «захаваннем сацыялістычнай маёмасці» дырэктар распарадзіўся зняць дзвярныя палотны і «расшкліць» вокны. З нечае лёгкай рукі гэта каменнае бязлюддзе наракли Выселкамі.

Ну, а ў выніку чыёй неўтаймоўнай фантазіі з'явіліся гэтыя самыя Выселкі? Уяўленне малявала фігуру класічнага чыноўніка, а сустрэў чалавека, які пакідаў самае лепшае ўражанне — і малады, і адукаваны, і карэктна-дасціпны. І апрануты ультрасучасна — у ахайную джынсавую пару. На твары — ні ценю ўласцівай бюракрату іконнай паўжурбы-паўадлучанасці.. Наадварот, увесь свеціцца жаданнем пагаварыць з табой. І яшчэ: ездзіць не на «Волзе», а на сціпленькім «козліку», шматпакутніку мясцовага бездарожжа.

Падобна, сам ён адчуваў сябе даволі маладым для дырэктарскага сану, аднак вельмі стараўся быць падобным на загартаванага нягодамі гаспадарніка. Доўга гаварыў пра свае турботы — хранічны дэфіцыт кармоў і нізкія надоі, пра старэнне механізатарскага корпуса і недахоп рабочых рук, пра немач сельскай інфраструктуры і беднасць саўгаснай казны. На гэтым, апошнім, я — каюся, — і збіраўся злавіць яго. І ўжо прадчуваў цяжкае, няёмкае маўчанне ў адказ на маё пытанне. Бо што ні кажы, а выкінутыя на вецер грошы, выдаткаваныя на тое няўдалае будаўніцтва, — на яго сумленні.

Але ён не збянтэжыўся. Нават брывом не павёў. Толькі счакаў мінуту-другую, неяк вельмі няпэўна ўсміхнуўся і пайшоў у глухую абарону: падараванаму каню, маўляў, у зубы не глядзяць. Аказваецца, будаваліся Выселкі за кошт дзяржаўных капіталаўкладанняў і па волі вышэйстаячага начальства, якое лічыла гэта сваім укладам у справу пад'ёму сельскай гаспадаркі. І месца пад забудову выбірала яно ж, начальства. І выбрала, відаць, невыпадкова. За два кіламетры — аўтамагістраль. Па гэтай магістралі, здараецца, ездзіць начальства нават не абласнога — рэспубліканскага рангу. Дык вось, Выселкі сваёй раскошай, асабліва заўважнай на фоне патрыярхальнага выгляду пабудоў цэнтральнай сядзібы павінны былі перакананы яснавяльможных асоб, што яны не ў якой-небудзь замшэлай тмутаракані, а на самым што ні ёсць пярэднім краі прагрэсу. Хутка, аднак, мода на катэджы прайшла, і творчыя сілы мясцовай эліты цалкам захапіла новая, на гэты раз і сапраўды эпахальная ідэя — будаўніцтва комплексаў-гігантаў.

А якая яго, дырэктара, роля ў гэтай будаўнічай эпапеі?

— У выканаўцы ва ўсіх выпадках адна роля, — цярпліва растлумачыў ён. — Выконвай сваю партыю, ні на крок не адступаючы ад партытуры. Я быў выканаўцам. Нязначнай сошкай, калі хочаце.

Ой, *няпраўда!* Не радавым ён выканаўцам быў. Не нязначнай сошкай тым больш. Галоўным прарабам мёртвабудоўлі! Круціўся, як вавёрка ў коле, «выбіваў» матэрыялы, гаручае, тэхніку, тармасіў сумежнікаў, не даваў спакою самім будаўнікам, арганізоўваў штодзённую прыёмку работ.

Падумаць толькі, якія *тытанічныя намаганні затрачаны...* Не, не ўпустую, горш — на ўвасабленне відавочна абсурднай задумы! На тое, каб матэрыялізавалася, набыла параметры бачнай рэальнасці яшчэ адна бюракратычная хімера. Бо размаўляў жа ён з людзьмі, ведаў, не мог не ведаць, што ніхто з іх не збіраецца сяліцца ў гэтых каменна-шыферных казематах. Як ведаў і тое, што задуманы з размахам дзіцячы камбінат (назва якая! Ці не па аналогіі з прамкамбінатам?) не будзе запоўнены і на чвэрць «карыснай» плошчы. І ўсё ж такі будаваў...

У нетрах аўтарытарнай эканамічнай культуры спакваля выспеў, набраўся сілы асаблівы, не маючы аналага ў сусветнай практыцы тып работніка — паўгаспадара, паўмайстра.

Здаецца, лепш за іншых летапісцаў сучаснасці «вылічыў» гэты тып Алесь Жук у «Паляванні на апошняга жураўля». Памятаеце тамашняга калгаснага галаву? Арэ-сее ён і ўбірае ў недарэчныя дырэктыўныя тэрміны не таму, што тупы, безгаловы, дагодлівы. Наадварот, разумны, ашчадны, прагматычны, чуйна кан'юнктурны. І рапарты яго аб «сціслых тэрмінах» — не даніна беспрынцыповасці, а свайго роду ўзнос пад будучыя ўгнаенні, насенне, тэхніку і іншыя фандзіраваныя даброты.

Дык што ж уяўляе сабой феномен, імя якому Паўгаспадар?

«Каласальныя страты нясе наша эканоміка ад безгаспадарчасці», — часта чуем мы з высокіх трыбун. Ды хіба ж пушчаныя на вецер шматмільярдныя сумы — вынік элементарнай безгаспадарчасці? Хіба мільёны кубаметраў лесу (карэльскага, архангельскага, сібірскага і ўсякага іншага) гніюць па берагах і на дне сплаўных магістралей з-за памылак у параметрах разліковай лесасекі? А заводы штучнага бялка ў Кірышах і Скідзелі будаваліся па недаглядзе! А два мільёны «беспрацоўных» станкоў у металаапрацоўчых галінах — вынік нечай нераспарадчасці? А забруджванне чыстых вод на ўсёй прасторы Амура да Нёмана?

Не, хопіць! Давайце раз і назаўсёды адмовімся ад нашай звычкі называць рэчы не сваімі імёнамі. Давайце дакладна вызначым для сябе — што ёсць што.

Рэцыдывы безгаспадарчасці патэнцыяльна (у рознай ступені) закладзены ў любой эканамічнай мадэлі. У адваротным выпадку не было б банкрутаў. А калі яны ёсць нават сярод тых, хто не так даўно быў на вышыні, трэба думаць, што безгаспадарчасць — ад недамыслія. Недамысліе ж, як заўважыў яшчэ Радзішчаў, — ад таго, што «быць разумным заўсёды немагчыма». Расшыфраваўшы такім чынам генетычны код безгаспадарчасці, можна назваць яго асаблівыя прыкметы: слепа, прымітыўна, беспраграмна, непрадказальна. Але «каласальныя страты»... Даруйце, тут гіпотэза недамыслія зусім выключаецца! Сама сабой напрошваецца думка аб платформе дагматычна паслядоўнай, канцэптуальна вывeранай, на марнатраўства запраграмаванай. Якраз на такой платформе і сфарміраваўся паўгаспадар.

Прыгледзьцеся да яго ўважлівей — сапраўды трагічная фігура, уся сатканая з жахлівых парадоксаў. Па прыродзе сваёй, ды і па стылі паводзін — не марнатраўца: кожны рубель, кожны цвік лічыць, як сваю ўласнасць, — ён, тым не менш, скрозь аказваецца далучаным да ажыццяўлення праектаў, здольных пусціць на дно любую эканоміку. І ва ўпраўленчым дылетантызме яго не папракнеш, тым больш не папракнеш ў невуцтве — падкаваны, дзейнічае ва ўсеўзбраенні сучасных ведаў, — але, тым не менш, безагаворачна прымае да выканання дырэктывы, недарэчнасць якіх відаць нават дылетанту.

Дарэчы, ці не таму і сёння так упэўнена адчуваюць сябе ўсемагчымыя банапарты з галіновых штабоў, што ёсць на каго абаперціся? Ці не таму і яны, хросныя бацькі застою, так актыўна ўбіраюцца ў строі перабудоўшчыкаў і патрабуюць у звыклай, гадамі выпрацаванай манеры: «Укараняй гаспразлік, ф— руй арэнду!» Выходзіць, не бойся ніякіх эканамічных рычагоў? А мы ж спадзяваліся...

Збіраліся пакласці бюракрата *на лапаткі, а ён, хітры жук,* адразу сцяміў, што на дадзеным этапе перабудовы эканамічныя рычагі пагражаюць яго існаванню не болей, чым у свой час сталыпінскія «отрубы», скажам, пагражалі кулачнаму праву ўрадніка. Пакуль мы з вамі пакутліва разважалі, якой гасразліковай мадэлі аддаць перавагу, бюракрат узяў ды і перахапіў ініцыятыву. І ўжо ён вырашае, у якой з яго шматлікіх вотчын налічаць зарплату ад рубля нарматыўна чыстай прадукцыі, у якой — ад гасразліковага даходу, каго ашчасліўіць гарантаваным фондам аплаты працы, каго падвергнуць выпрабаваннем рызыкай.

Хочаце ведаць, як гэта робіцца, — пабывайце, напрыклад, у Гродзенскім прамыслова-будаўнічым аб'яднанні. Тамашнія прарабы перабудовы наладзіліся перавесці падпарадкаваны ім завод жалезабетонных канструкцый на арэндны падрад і прапанавалі дырэктару М. М. Карпізе (спачатку толькі яму) мадэль, якая нідзе, акрамя як у рытуальнай цішыні дэпартаменцкіх кулуараў, не магла нарадзіцца. У прыватнасці, кіраўніцтва аб'яднання дало зразумець, што ў новых умовах гаспадарання яно пакідае за сабой права ўстанаўліваць заводу нарматывы на свой погляд. Цяжка нават сказаць, чаго больш у такой пазіцыі — разліку на чыюсьці некампетэнтнасць ці ўласнай эканамічнай непісьменнасці. Арэндны падрад таму і называецца арэндным, што не прызнае ніякіх рэгламентуючых норм, дэкрэтаў зверху. Карпіза так прама і сказаў аб гэтым. *Мала таго,* Мікалай Мікалаевіч паставіў яшчэ і дадатковую ўмову: для спынення валюнтарысцкіх пачаткаў цяперашнія адносіны адміністрацыйнай падпарадкаванасці павінны быць заменены адносінамі эканамічнай узаемаадказнасці па прынцыпе «фірма (аб'яднанне) — падрадчык (завод)». Паколькі бакі да згоды не прыйшлі, апошняе слова аказалася за калектывам. Чарговай бюракратычнай задуме было сказана «не».

Так павялі сябе гродзенцы. *А вось іх лідскія калегі* з вытворчага аб'яднання «Будканструкцыя» падышлі да рэформы яўна непадрыхтаванымі. Журналісцкія шляхі-дарогі прывялі мяне сюды праз некалькі месяцаў пасля таго, як быў ажыццёўлены (у дырэктыўна-загадным парадку) перавод на гасразлік і самафінансаванне. Гаварыць на гэтую тэму давялося з многімі работнікамі амаль усіх катэгорый і рангаў — ад генеральнага дырэктара да брыгадзіра фармоўшчыкаў. І адусюль чулася: «Ну, які можа быць прыбытак пры нашым састарэлым абсталяванні? Нават калі мы нешта і зробім звыш плана, будаўнікі ўсё роўна не возьмуць. А тое, што застанецца на заводскім двары, цяпер не ўлічваецца». І — ні адзінай скаргі на моцна ўрэзаную самастойнасць, няспынную эскалацыю «ўказівак», накачак, запросаў, хоць, як стала вядома *пазней, апошнія адбіраюць* ва ўпраўленчага апарату не так ужо мала часу. Адно ва ўсіх наўме і на языку: абсталяванне, абсталяванне...

Думаеце, выпадкова? Зусім не! Дзесяцігоддзі суцэльнага дэкрэтавання прывучылі нас бачыць панацэю ад усіх нягод у распрацоўцы разнастайных тэхніка-арганізацыйных мерапрыемстваў. Ну навошта, здаецца, той жа «Будканструкцыі» ў пагоні за прыбыткам ставіць на прырошчванне аб'ёмаў прадукцыі! Ды яшчэ пры такім пагрозліва нізкім узроўні рэнтабельнасці большасці вырабаў, якія склаўся ў апошнія гады. Ці не лепш паступіць па-іншаму: асвойваць тыя ж аб'ёмы, але меншай колькасцю працуючых, з меншымі выдаткамі матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў, з ужываннем, нарэшце, нетрадыцыйных форм арганізацыі працы? Бо логіка новага эканамічнага курсу якраз у тым, каб прымусіць працаваць супрацьвыдаткавы механізм.

А што, дарэчы, думае пра ўсё гэта эканамічны апарат? Вось тут і высветліліся самыя сумныя абставіны: такога апарату ў аб'яднанні проста няма. За тры гады тут змяніліся тры галоўныя эканамісты. Апошняму па ліку спатрэбіцца яшчэ час, каб увайсці ў курс справы. А што спытаеш з радавога спецыяліста? Хіба што апаратыўныя дадзеныя. Хоць пасада завецца надзвычай гучна і адказна — інжынер-эканаміст.

**(Працяг на стар. 4).**

## Паэзія

**Ніл ГІЛЕВІЧ**



### Наконт дэмакратыі і дэмакратаў

О, якіх я ведаў дэмакратаў
У гады іх шумнай маладосці!
Кожны з іх ад сацыяльнай злосці
Клакатаў, нібы вулканны кратэр.

Дзе яны цяпер? Як лёс іх склаўся?
Як жывецца змагарам заўзятым?
Ці не змучаныя, як Хрыстос распяты,
У турботах аб рабочым класе?

Што вы! Мілыя мае! Пагляньце
На былых майстроў былой шуміхі:
Колькі ў іх паставах сытай пыхі!
Колькі ў іх абапал носа глянцу!

Для чаго пішу пра іх цяпер я?
А таму, што навастрыўшы рогі
І тапырачы сярдзіта пер'е,
Новыя вылазяць дэмагогі —

І крычаць з усіх трыбун, з экранаў,—
Так крычаць, што аж няма дзе дзецца...
Гэты род ніколі не звядзецца.
Бо не можа свет без... дэмакратаў.

### Ён і яны

Памяці М. І. ВАВІЛАВА

Бязглуздыя, яны знішчалі розум.
Бяздарныя, яны знішчалі талент.
Вучонага з сусветным дарам божым
Таптalі, білі ў сэрца капытамі.

А ён, ледзь апрытомнеўшы, спяшаўся
Ідзі запісаць, каб іх з-за кратаў
У свет пусцілі—для людскога шчасця...
Ён даастатку думаў лепш пра катаў.

Ён паміраў з надзеяй, што не згінуць
Яго апошніх творчых мук здабыткі,
Яго апошні клопат пра Радзіму...
Але яны спалілі тыя сшыткі.
Не прачытаўшы нават...

### Праўды ў іх не было

Праўды ў іх не было.
Не было!
Не было, бо і быць не магло.
А чаму?
А таму, што яшчэ пры жыцці,
Маладыя, у сорак ці з гакам,
Гарады — каб хутчэй ахрысціць
Сваім імем — хапалі наўзахап.
Векавыя імёны іх нішчылі
І на ўласныя перахрышчвалі.
Гэтым сказана ўсё.
У такіх —
Прагавітых і самаўлюбёных —
Марна праўду шукаць.
Для такіх —
Праўда ўся ў іх нікчэмных імёнах.

### Сон у бяссонніцу

Ну й сон мне прысніўся ў бяссонную
ноч!
Стаю на пагосце нібыта,
Бярозы і сосны, капліца наўзбоч,
Крыжы і каменныя пліты.

Нікога не бачу, ды чую кагось —
Хтось кліча-гукае штосілы:
«Гэй, дзе вы там?
Свінні прыйшлі на пагост
І рыюць святыя магілы!..»

Гляджу, сапраўды: між сасон і бяроз —
Арудуюць морды свіныя!
Дратуюць, драпежаць, паскудзяць
пагост
І рыюць магілы святыя!

Абураны я, ды няма чым прагнаць —
Ні пугі ніякай, ні кія.
А свінні свінячаць, сапуць і вішчаць —
І рыюць магілы святыя!..

Услед за няведама кім я тады
Гукаю таксама штосілы:
«Гэй, дзе вы там?
Свінні прыйшлі на клады
І рыюць святыя магілы!..»

Але старажы на мой крык не бягуць —
Напэўна, не чуюць, глухія...
І рохкаюць свінні, і гнюсна сапуць,
І рыюць магілы святыя...

Я ў прыступе крыўды апёрся на крыж,
А прыступ — няйначай смяротны...
«Ну, што з табой робіцца?
Зноў ты не спіш!..»
Ды гэта ўжо голас — мне родны...

### Апекуну ўсіх моў на зямлі — богу

Цябе маліў я дзесяць тысяч дзён —
І ўсё дарма!.. Відаць, і ты не цэніш
Моц мовы нашай... Бог! Ты думку
зменіш,
Як я малітву абярну ў праклён.

Ты чуў — на сотнях моў —
праклёнаў многа,
Ды той, якім, лягаючы ў труну,
Цябе я **нашай** мовай пракляну —
Ён страшны будзе нават і для Бога!

### Ганарыся, наследнік!

«Акоў паломаных жандар...»
Янка Купала, 1926.

Усё, што можаш ты сказаць
Пра мову мне, шаноўнываспан,—
Я знаю: слоў дарма не трać,
Хоць і не цэняць іх у вас там...

Які ты зычыш мове лёс —
Я не па словах спасцігаю,
А кожны дзень паўсюль і скрозь
На ўласнай скуры адчуваю.

Я нават ведаю, адкуль
Ідуць «любві» тваёй пачаткі:
Тут не гадай і не мяркуй —
Ад таткі роднага, ад таткі!

Яго, што ў свет цябе пусціў,
Купала знаў і перад тварам
Усёй планеты ахрысціў
«Акоў паломаных жандарам».

### Трывайма, браты!

Нас могуць
Зневажаць і абражаць,
Нас могуць
Не любіць і ненавідзець,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць:
У нас ёсць Нёман,
І Дзвіна,
І Свіцязь.

Нас могуць
Чорным брудам паліваць,
Культываваць бяспамяцтва,
Бяспраўе,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць:
У нас ёсць Полацк,
Тураў
І Заслаўе.

Нас могуць
Ачмураць і падкупляць,
Штодзень даваць
Цацанкі-абяцанкі,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць
Наказ Францішка,
Кастуся
І Янкі.

Нас могуць біць —
Аж да крывавых слёз,
Каб лёкаяў зрабіць
З ахвяраў здзеку,
Але мы мусім
Адстаяць свой лёс,
Каб ён для нас
Шчаслівы быў
Давеку.

Таму —
Трывайма, любыя браты!
Трывайма й верыма:
Нішто не спляміць
І не асіліць нашай праваты,
І нам яшчэ паслужыць
Наша памяць!

●

Божа ты мой, і ў вясковым застоллі —
Балбатуны, дэмагогі, фальшыўцы...
Дзе ж тыя словы, што родзяцца ў полі,
Што вырастаюць і спеюць на ніўцы?
Дзе тыя словы, што пахнуць, як колас,
І даланю табе грэюць, як зерне?
Дзе ты, сумлення народнага голас?
Хто цябе вытравіў? Хто цябе верне?..

### На судзілішчы тым...

На судзілішчы тым,
Што ўчынілі сляпцы,
Быў і голас зусім не сляпога,
А таго, што даваў
На кургане-капцы
Клятву імем братэрства святога.

Ён найлепей з усіх
Знаў у той грамадзе:
У адным вінаваты «падсудны»,
Што ніколі,
Ні разу,
Ні ў чым і нідзе
Не прадаў свой народ шматпакутны.

І застрэў
У «падсуднага» ў горле камяк,
Варухнуліся здрадліва губы
І адно прашапталі —
Нячутна, няўзнак:
«Як жа гэта ты, братачка любы?..»

«Вось дзе наша пагібель,
Халопы-рабы,
Па-за гэтым прычын не шукайце»,—
Так ён «суддзям» сказаў,
І ўцямнеў ад журбы,
Як над свежай магілаю маці.

Сто разоў ганьбаваны
Паклёпам-маной
За адданасць бацькоўскаму краю,
Ён суцешыцца мог
Толькі думкай адной,
Што стрывае і гэта, стрывае!..

Ён павінен трываць,—
І трываць да канца,
Каб ісці —
І ў хадзе не згінацца —
На святло, што калісьці
З кургана-капца
Ён убачыў вачыма юнацтва.

### Калі не апомнімся

Несвядомыя мухі
Ядуць мухамора на сподку.
Прагавіта —
Аж ножкамі смачна стрыгуць:
Так салодка!
Потым
Кожная робіцца вялай —
Як толькі наесца,
Адпаўзае і дохне паблізу,
Ці дохне на месцы...

А свядомыя людзі...
Свядомыя творцы прагрэсу
Шчодра сыпяць нітраты ў зямлю,
Каб былі і ў пасудзе,
Ды на рэчках крынічных,
Між вёсак,
Будуюць АЭСы...
Людзі, людзі!
Што з намі,
Калі не апомнімся,
Будзе?!..

# Сіндром паўгаспадара

(Пачатак на стар. 3).

НАДОБНЫЯ ПРЫКЛАДЫ можна прыводзіць яшчэ і яшчэ. Дык як жа будзе адчуваць сябе ў такой атмасферы бюракрат? Зразумела, на вышыні становішча. Ужо хто-хто, а бюракрат ведае: пакуль кіраванне эканамічнымі рычагамі знаходзіцца на дэпартаменцкім паверсе, новым вытворчым адносінам не бываць. І паўгаспадар з паўмайстрам і паўлідэрам могуць не баяцца беспрацоўя. І ніякія дзяржаўна-прававыя акты не саслабяць дыктату. Да таго ж, у саміх гэтых актах нямала блытаніны і супярэчнасцей, іх логіку часам немагчыма зразумець. Узяць хоць бы рэгламентацыю правоў і абавязкаў прадпрыемстваў і іх галіновых штабоў. У адным выпадку адказнасць за пастаўку спажыўцу неабходнай прадукцыі цалкам ускладаецца на калектывы вытворцаў (Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве), у іншым гэтае патрабаванне ( і таксама цалкам!) адрасуецца ўжо міністэрству, ведамству («Аб карэннай перабудове кіравання эканомікай». Зборнік дакументаў. М., Палітвыдат, 1988, с. 116).

Ці быў выпадак, каб якое-небудзь міністэрства, ведамства хоць бы рублём адказала за зрыў паставак, катастрафічнае падзенне якаснага ўзроўню вырабаў, вымыванне таннага асартыменту і іншыя смяротныя грахі? Яно не адказвае нават за непрадуманае, незбалансаванае размеркаванне дзяржаўнага заказу паміж падведамнымі прадпрыемствамі. Тым больш не даводзіцца гаварыць пра якія-небудзь абавязацельствы адносна спажыўца.

Ці не гэтай звязцы «бюракрат-паўгаспадар» мы і абавязаны тым, што наша эканоміка пазбавілася сацыяльных арыенціраў, а разам з імі і прыярытэтаў, неабходных для яе нармальнага функцыянавання? Бо гэта ж факт, што з «рэчы для нас» яна ператварылася ў «рэч у сабе» і выключна «для сябе». У гэтым сэнсе чалавечы фактар і сёння ўяўляецца з'явай хутчэй жаданай, чым сапраўднай.

Возьмем добра вядомы прыклад — эксперымент на Беларускай чыгунцы. Падлічана, што ў маштабах краіны ён дазволіў вызваліць 280 тысяч чалавек. Прадукцыйнасць галіны, такім чынам, узрасла. Ну, а што выйгралі мы, пасажыры? Нас сталі лепш карміць у станцыйных буфетах і рэстаранах? Правадніцы ў спальных вагонах больш не падсоўваюць рваныя прасціны, непрасушаныя навалкі? Не штурмуем мы білетныя касы? Не нэндзімся на далёкіх подступах да багажных аддзяленняў? Ды не, усё засталося так, як і было. Адзінае суцяшэнне —нам не стала горш. І для самой чыгункі выйгрыш уяўляецца вельмі ўмоўным, паколькі ў большасці выпадкаў скарачаліся не лішнія людзі, а вакантныя пасады. Дык чым жа, па сутнасці, такі эксперымент адрозніваецца ад навацый «добрага старога часу»?

Як бачыце, усемагутныя архімедавы рычагі маюць здольнасць паварочвацца ў любы бок, куды загадаюць рукі, якія ляжаць на пульце кіравання.

Цікава, што пазбавіцца ілюзій эканамічнага дэтэрмінізму сёння заклікаюць нас не гаспадарнікі-практыкі, а сама эканамічная навука. Цытую акадэміка Л. І. Абалкіна: «Складанасць усёй перабудовы абумоўлена тым, што змяненні ў эканамічным базісе не даюць аўтаматычных вынікаў, якія паляпшаюць сітуацыю. Гэтыя вынікі апасрэдаваны многімі з'явамі сацыяльнага жыцця, станам культуры і маралі. Адставанне і карозіі ў гэтых сферах дасягнулі каласальных памераў, і чым далей, тым болей мы будзем упірацца менавіта ў гэтыя сферы» («Звязда», № 2, 1989).

Пакуль на месцах «камандаваць парадам» будзе паўгаспадар, паўмайстар, паўлідэр, паскарэнне не наступіць. Часам чуюцца шкадаванні: да нас, маўляў, дэмакратыя яшчэ не дайшла. І ніколі, між іншым, не дойдзе. Таму што яна... не ходзіць. Дэмакратызацыя якраз і азначае барацьбу: шчырую, адкрытую, прынцыповую. Ленін неўзабаве пасля рэвалюцыі заклікаў працоўныя калектывы вучыцца «ваяваць за свае правы».

Навучымся — забяспечым перабудове годную будучыню, не — спынімся на паўперабудове.

**Ігар ГРАМЫХОЎ,**
**журналіст.**

г. Гродна.

# МЫ — НЕ ВЫКЛЮЧЭННЕ

### Палемічныя нататкі

**У апошні час на старонках беларускага друку з'явіліся шматлікія публікацыі, прысвечаныя нацыянальным праблемам, і ў прыватнасці, міжнацыянальным адносінам у рэспубліцы, стану беларускай мовы і іншым пытанням, якія хвалююць шырокія колы грамадства. Пасля застойнай зімы бурлівая паводка думак і меркаванняў нясе не толькі свежыя ідэі, але і рэшткі старых дагматычных канструкцый, якія імкнуцца прыстаць да берага сучаснасці і замацавацца на ім. Не-не ды і выплыве ў такіх публікацыях старая ідэя «зліцця нацый». ці, як пішуць у «Звяздзе» за 27 ліпеня г. г. кандыдат філасофскіх навук А. Дзмітрук і кандыдат гістарычных навук А. Тозік, «фарміравання безнацыянальнай чалавечай супольнасці». Этапам на шляху да гэтай мэты з'яўляюцца штучна сканструяваныя «шматсастаўныя нацыі», якія, паводле артыкула «Не толькі крытыкаваць...» (!) згаданых аўтараў, складаюцца «з шэрагу (іншы раз многіх) нацыянальнасцей». Адсюль ужо зусім блізка да брэжнеўскай «новай супольнасці людзей» і да «савецкай» нацыі. І аўтары робяць гэты апошні крок, прапануючы «прадставіць кожнаму грамадзяніну СССР права і магчымасць, вызначаючы сваю нацыянальнасць, сказаць: «савецкі». І пры гэтым спасылаюцца на прыклад Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі, дзе пры перапісах насельніцтва частка яе жыхароў запісалася як «югаслаў». Відаць, на думку аўтараў артыкула, гэта самая перадавая частка грамадскасці, сапраўдныя інтэрнацыяналісты. Аднак рэчаіснасць зусім іншая. У выніку праведзеных югаслаўскімі сацыёлагамі даследаванняў высветлілася, што часцей за ўсё «югаславамі» запісваліся найбольш адсталыя члены грамадства, людзі з комплексам нацыянальнай непаўнацэннасці (звычайна мігранты з іншых рэспублік, якія выконвалі найменш кваліфікаваную працу, сярод якіх было многа прадстаўнікоў цыганскай і албанскай нацыянальнасцей), або тыя, каму па розных меркаваннях не хацелася афішыраваць прыналежнасць да сваёй нацыі ў іншанацыянальнай рэспубліцы (ваенныя, функцыянеры, прыватныя гандляры і інш.). Што датычыць прыкладу ЗША, на які часта спасылаюцца іншыя аўтары, то ўжо даўно даведзена, што працэсы фарміравання адзінай нацыі ў гэтай пераважна «эмігранцкай» краіне зусім не супастаўляльныя з працэсамі, што адбываюцца ў нашай краіне, дзе пераважная большасць народаў жыве ў межах сваёй гістарычнай і этнічнай радзімы. Такім чынам, «права нацыянальна-этнічнай самаідэнтыфікацыі на ўзроўні агульнадзяржаўнай супольнасці», якога патрабуюць аўтары артыкула, у шматнацыянальнай дзяржаве будзе выкарыстана хутчэй за ўсё для разбурэння нацыянальных культур і моў нашых народаў, што ніяк не можа быць мэтай прагрэсу.**

**Захаванне разнастайнасці культур і моў — асноўнае патрабаванне экалагічнага мыслення ў гуманітарнай сферы, скіраванае ў першую чаргу на забеспячэнне духоўнай будучыні чалавецтва, таксама як захаванне разнастайнасці жыцця ў прыродзе з'яўляецца перадумовай устойлівага, бяспечнага стану біясферы і чалавека ў ёй. Тут дарэчы будзе працытаваць артыкул I «Дэкларацыі прынцыпаў міжнароднага культурнага супрацоўніцтва», прынятай у 1966 г. ЮНЕСКА, членам якой з'яўляецца і Беларуская ССР: «1. Кожная культура мае сваю годнасць і вартасць, якія трэба паважаць і захоўваць. 2. Развіццё ўласнай культуры з'яўляецца правам і абавязкам кожнага народа. 3. У іх багацці, разнастайнасці і ўзаемных уплывах, усе культуры з'яўляюцца часткай агульнага**

**(Працяг на стар. 12).**

*Наш духоўны свет: вытокі і абсягі*

# НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ І «НОВАЕ САСЛОЎЕ»

ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ матэрыялы, прысвечаныя праблеме псеўдакультуры, прыходжу да высновы, што часам аўтары ганьбяць не прычыны, а вынікі і іх праявы. Але давайце звернем увагу на тую ролю, якую адыгрывае народнае мастацтва пры ўсеагульнай бюракратызацыі жыцця. Бюракратыя — гэта саслоўе, прычым саслоўе эксплуатататарскае. Не будзем нагадваць усе яго рысы, адзначым толькі некаторыя — адгароджанасць ад астатняга грамадства колам сувязей і знаёмстваў, дзе дзейнічаюць свае нормы маралі, свой «кодэкс гонару», свае законы, сістэма заахвочванняў і пакаранняў. Арганізацыйна гэта было замацавана структурай наменклатуры. Эканамічны базіс, як адзначыў яшчэ К. Маркс, — уласнасць на дзяржаўную ўладу, якая дазваляе атрымліваць прывілеі пры атрыманні кватэры, размеркаванні прадметаў ужытку і прадуктаў харчавання праз спецмагазіны ці праз звычайны пошлы «блат», які з'яўляецца праявай выкарыстання службовага становішча ў карыслівых мэтах. Была (ды і ёсць у сапраўдны час) і свая «культура», але аб ёй гаворка пазней. Характэрнай рысай нашай айчыннай бюракратыі паслякастрычніцкага перыяду з'яўляецца тое, што яна прыкрывалася вучэннем Маркса, Энгельса, Леніна, ідэямі Кастрычніцкай рэвалюцыі, ідэямі сацыялізму, і меру шкоды, якую яна нанесла гэтым ідэям, дыскрэдытуючы іх у вачах суайчыннікаў, а таксама ў свядомасці сусветнай грамадскасці, — яшчэ патрэбна высветліць. Аднак у бюракратыі ўсіх часоў, народаў і сацыяльна-эканамічных фармацый ёсць адна характэрная рыса. Гэта страх перад народам і ліслівае з ім заігрыванне. Падзяліцца з народам эканамічнымі і палітычнымі прывілеямі бюракрат не можа — на ўсіх не хопіць! Культурнымі здабыткамі дзяліцца немагчыма за іх поўнай адсутнасцю. Застаецца прыкінуцца шчырым прыхільнікам народнай культуры, народнага мастацтва. Любы паважаючы сябе больш-менш чыстакроўны бюракрат абавязкова будзе лічыць ніжэй сваёй годнасці прызнаваць каштоўнасць чаго-небудзь іншага, акрамя народнага мастацтва ці класікі, у якіх ён часцей за ўсё не кеміць. У крайнім выпадку можна дапусціць, што хтосьці з суайчыннікаў альбо замежных аўтараў ці выканаўцаў, прызнаных ва ўсім свеце, сяго-таго варты, але ўсё роўна, ведаеце, гэта не тое, далёка не тое...

Такі выкрутас перад каштоўнасцямі народнай культуры не каштуе бюракрату анічога. Наадварот — гэта дае магчымасць адпачыць ад штодзённых змрочных клопатаў па захаванні свайго месца ля наменклатурнага карыта, па спробах адштурхнуць суседа ад зручнейшага месца, па актыўнай дзейнасці лапаткамі ў намаганнях расчысціць месца для бліжняга свайго.

Але гэтым выкрутасам адразу вырашаюцца тры задачы. Па-першае, бюракрат мае магчымасць зрабіць выгляд, што ён з народам, што ён зусім свой і нясе цяжкую сваю ношу дзеля іх, простых людзей, ён спіць і бачыць, як і што яшчэ зрабіць дзеля іх дабрабыту. Па-другое, гэта дае магчымасць проціпаставіць прафесійнае мастацтва народнаму, аб'явіць, што гэта яны, прафесіяналы, наўмысна разбураюць святое народнае мастацтва, адштурхоўваюць ад яго моладзь, падразаюць карані самабытнасці, гэта яны сваімі фармальнымі пошукамі заводзяць народ у тупік. Ату іх! Так бюракрат ставіць на месца творчую інтэлігенцыю, прыручае яе. Па-трэцяе, ёсць магчымасць накінуць аброць на саму народную культуру, а пры зручным выпадку і зацугляць яе, каб была больш паслухмянай. Чаму так? Таму, што бюракрат больш за ўсё баіцца культуры і мастацтва. Яны ніяк не хочуць улазіць у рамкі інструкцый і загадаў.

АДНОСІНЫ бюракрата да народнага мастацтва былі, ды і застаюцца дваістымі, як, дарэчы, і да прафесійнага. З аднаго боку, заігрыванне з ім, з другога — падпарадкаванне сваім мэтам. І калі ў прафесійным мастацтве ў выніку намаганняў бюракратыі з'яўляюцца творы, услаўляючыя «бацьку народаў», ці прысуджаецца Ленінская прэмія «трылогіі стагоддзя», з народным мастацтвам справа складаней. Але і тут ёсць выйсце. Знаходзяцца паэты, якія складаюць «народныя» вершы, пісьменнікі, якія складаюць «народныя» казкі, альбо, у горшым выпадку, перапрацоўваюць сапраўды народныя ў патрэбным напрамку, кампазітары, якія пішуць «народныя» песні, складальнікі зборнікаў прыказак і прымавак, якія ўключаюць і такі фальклор, як, «у калгасе жыць — заможным быць», і гэтак далей. Бюракрат падкормлівае кіраўнікоў культасветустаноў (але трымае іх у чорным целе, каб адчувалі дыстанцыю і зналі сваё месца) і кіраўнікоў самадзейных і прафесійных творчых калектываў; якія і ўключаюць у рэпертуар мілыя сэрцу бюракрата саматужныя «народныя творы», у выніку чаго сапраўднае народнае мастацтва амаль зусім выціскаецца. Колькі іх засталося, «апошніх з магікан», якія берагуць яшчэ рэшткі загубленай бюракратам народнай культуры? Колькі іх, энтузіястаў і знаўцаў народнага мастацтва, было знішчана альбо вымушана было змоўкнуць пад цяжарам абвінавачванняў у нацыяналізме ці спачуванні рэлігійным, дробнабуржуазным, патрыярхальным альбо іншым якім поглядам? І гэта працягвалася амаль да нашага часу, а сям-там практыкуецца і сёння кіраўнікамі культуры розных рангаў.

Зрэшты, моладзь вельмі чулая да ўсялякіх праяў фальшу ўжо ў сілу ўзроставых асаблівасцей. Да таго ж па прычыне свайго ўзросту, а больш за ўсё таму, што падлетак ці юнак уступае ў жыццё амаль зусім не падрыхтаваным эстэтычна, ён не можа адрозніць народнае мастацтва ад саматужных падробак пад яго. А паколькі ў жыццёвай практыцы — на розных урачыстасцях, святах ці якіх іншых мерапрыемствах,— моладзь сутыкаецца часцей за ўсё з падробкамі пад народнае мастацтва, яна яго актыўна не прымае, а заадно не ўспрымае і сапраўднае мастацтва. Але мастацтва — гэта форма грамадскай свядомасці, разлічаная пераважна на эмацыянальнае ўспрыманне, што і з'яўляецца адной з асаблівасцей юнацкага светапогляду. Таму юнацтва, не ўспрымаючы афіцыйнае мастацтва, афіцыйную культуру, шукае блізкае ім па светапогляду, ці стварае сваю, альтэрнатыўную субкультуру.

Але і гэта не галоўная прычына адыходу моладзі ад народнай культуры. Прыведзены вышэй фактар з'яўляецца пастаянна дзейным у класавым грамадстве і носіць дыялектычны характар. Ён, з другога боку, садзейнічае знаёмству з культурай другіх этнасаў, а таксама стымулюе мастацкі пошук і ўзнікненне новых плыняў, напрамкаў і школ. Гэты фактар не прыводзіць да амаль поўнага адрыву ад народнага мастацтва, народнай культуры.

Што ж прывяло нас да такога сумнага выніку? І ці назіралася гэта з'ява ў іншых краінах, у іншыя часы? Так. Гэта з'ява назіралася ў розных краінах, калі там адбываўся востры крызіс даверу да палітыкі кіруючых колаў грамадства.

Наша айчынная бюракратыя, якая выпеставала рашыдавых, адылавых, шчолакавых, чурбанавых, герояў растоўскай і шмат якіх іншых спраў, раскрытых і не раскрытых, мела тую асаблівасць, што афіцыйна падтрымлівала народнае мастацтва і карысталася ім, а больш тым, што яго замяняла і прапагандавалася як народнае. Моладзь адвяргае агідную мараль усёй гэтай хеўры, а заадно траціць веру і ў камуністычную мараль, у лепшым выпадку лічыць яе недасягальнай. Такім чынам наша айчынная бюракратыя ўсё зрабіла, каб скампраметаваць на нейкі час самы каштоўны набытак чалавецтва — камуністычную мараль. Частка моладзі, бачачы, што бюракраты розных рангаў і масцей толькі на словах ратуюць за высокую мараль, а на справе не прытрымліваюцца аніякіх маральных норм, акрамя законаў зграі, галоўным з якіх з'яўляецца закон дамініравання (гл. Акимушкин А. А. «Вопросы этологии». М., 1986), пачала сама гуртавацца ў зграі і спрабаваць жыць па яе законах.

Большасць моладзі з часам вяртаецца да нармальнага жыцця, частка, прайшоўшы «курс навучання» ў «зонах», распалася на тры групы — адны, як і большасць, вярнуліся да нармальнага жыцця, другія папоўнілі рады прафесійных злачынцаў, у якіх, аднак, дзейнічае свая мараль, трэція апусціліся на дно жыцця. З гэтай часткі моладзі рэкрутуюцца групы, розныя па сваёй накіраванасці, у тым ліку і фашыствуючыя. Многія з маладых кінуліся ў пошуках маралі ў мора розных філасофска-рэлігійных вучэнняў — ёга, крышнаізм, сінтаізм і г. д., нарэшце, хрысціянства ў розных сваіх праявах (ад праваслаўя да сектанцтва самага аскетычнага толку). Гэта адна з галоўных прычын росту рэлігійнасці сярод моладзі. На гэтай жа глебе ўзраслі розныя шарлатанскія групы і «прарокі-саматужнікі», якія скарысталі момант і добра пагрэлі рукі. Рэлігія з гонарам вытрымала гэты націск і яшчэ раз даказала, што можа выконваць грамадска-рэгуляцыйныя функцыі нават у наш час, прымусіла паглядзець на сябе другімі вачыма, прызнаць сваё права на існаванне.

Значная частка моладзі ўспрыняла «правілы гульні» бюракратаў, зрабіла выгляд, што верыць і давярае ім і занялася ўладкаваннем сваіх спраў, акуратна ходзячы на сходы, дзе трэба — пляскаючы ў ладкі, дзе трэба — цягнучы рукі ўгору, сістэматычна плацячы членскія ўзносы ў камсамольскую скарбонку і ў скарбонкі шматлікіх добраахвотных таварыстваў. Менавіта адсюль бюракратыя рэкрутуе папаўненне для сваіх радоў, адсюль паходзіць большасць шматлікіх дробных начальнікаў-выканаўцаў, а таксама большасць «творчых» і «навуковых» працаўнікоў, і ў гэтым слабасць нашай навукі і мастацтва.

Я мушу агаварыцца: артыкул носіць характар даследавання, ён не можа даць поўную характарыстыку з'явы, а толькі памячае асноўныя вузлы і сувязі. На самай справе ўсё неверагодна складаней, заблытаней, і малюнак наш — гэта шкілет, схема, але і ён можа праясніць сутнасць справы.

Мы ўжо падкрэслівалі, што моладзь, адвяргаючы мараль бюракратаў, а разам з ёй і маральныя нормы грамадства, адвяргае і бюракратычнае мастацтва і ўсё, што так ці інакш датычыць яго. Так за парогам успрымання аказваецца і народнае мастацтва, якое памылкова лічыцца атрыбутам бюракратычнага саслоўя. І моладзь цягнецца да таго, што здалёк зіхаціць, прывабна зззяе чароўнымі агеньчыкамі. Яна не разумее, што тое далёкае мастацтва, магчыма, яшчэ ў большай ступені абясцэнена. Так узнікла захапленне толькі рок-музыкай, толькі замежнымі фільмамі. Дарэчы, калі пісьменнікі выпусцілі ў свет забароненую раней літаратуру, а мастакі выставілі нявыстаўленыя карціны, то цікавасць да айчыннай літаратуры і мастацтва рэзка ўзрасла.

НЕ МАЮ ЖАДАННЯ кідацца ў спрэчкі наконт годнасці той ці іншай плыні ў мастацтве, лічу, што ўсе яны маюць права на існаванне, і нельга іх дзяліць на вышэйшыя і ніжэйшыя. Яны раўнацэнныя, толькі розныя. І ў кожнай з гэтых плыняў ёсць свае вяршыні і свае бездані. Ёсць 7-я сімфонія Шастаковіча, але ёсць і творы, напісаныя на словы трылогіі Л. І. Брэжнева. Ёсць выдатная музыка квартэта «Бітлз», але ёсць і эпігонскія падробкі, якія з'явіліся на ўзлёце славы гэтага ансамбля і якія не маюць аніякай мастацкай каштоўнасці. Не аб гэтым наша размова. Нам патрэбна выявіць прычыны масавага адмаўлення ад народнага мастацтва ў мінулым дзесяцігоддзі, а галоўная прычына, на наш погляд, акрэслена.

Выкарчаваць асноўную прычыну магчыма толькі намаганнямі ўсяго грамадства, толькі пазбавіўшы бюракрата палітычнай улады, чаго больш за ўсё бюракрат баіцца і супраць чаго будзе змагацца да апошняга, як ужо паказала сёлетняя перадвыбарчая кампанія.

**Сафрон ЖЛОБА,**
**выкладчык Брэсцкага педінстытута.**

# Анкета «ЛіМа»: слова крытыкам

**У мінулым нумары на пытанні «ЛіМа» адказвалі крытыкі І. Афанасьеў і Дз. Бугаёў. Працягваем друкаваць адказы на анкету.**

**1. Як суадносяцца, на вашу думку, узроўні сучаснай беларускай крытыкі і літаратуры?**

**2. Ці ёсць рэальныя падставы спадзявацца, што крытычная думка ў бліжэйшы час зробіць рывок у асэнсаванні літаратурнага працэсу?**

**3. Некаторыя пісьменнікі лічаць, што крытыкі — гэта ў пераважнай большасці людзі, якія не здолелі праявіць сябе ў іншых жанрах. Што вы думаеце на гэты конт?**

**4. «Я народжаны, каб называць рэчы іх імёнамі». Наколькі адпавядае пазіцыя сучаснай крытыкі і ваша асабіста гэтаму выслоўю В. Бялінскага?**



**Ірына БАГДАНОВІЧ**

## УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД АСОБЫ

Не стала б адлучаць крытыку ад літаратуры, бо гэта спецыфічны яе від, які жыве і развіваецца па сваіх законах. Крытыка — гэта як бы позірк літаратуры збоку на самую сябе, і пры адсутнасці такога «староннягa» позірку ўрэшце пакутуе тое, што мы прывыклі лічыць уласна літаратурай (паэзія, проза). Не сакрэт, што для многіх крытыка — гэта ўсяго толькі абслуга мастацкай творчасці, але мне думаецца, што ў гісторыі літаратуры і грамадства бываюць такія моманты, калі іменна крытыка (побач з паэзіяй), як, скажам, у «нашаніўскі» перыяд, адыгрывае ролю лідэра ў фарміраванні і развіцці свядомасці асобы і нацыянальнай самасвядомасці народа. З другога боку, лідэрства крытыкі можа мець негатыўныя і нават небяспечныя вынікі. Прыклад гэтаму — часы панавання сумнавядомай пралеткультаўскай крытыкі, што паспяхова вынішчала ўсё жывое ў літаратуры. І не толькі ў літаратуры... Таму казаць аб суадносінах узроўняў сучаснай крытыкі і мастацкай літаратуры можна, маючы на ўвазе прынамсі тры аспекты, якія характарызуюць крытыку: ацэнка мастацкага твора, яго асэнсаванне (інтэрпрэтацыя) і бачанне ў гісторыка-літаратурным кантэксце. Зразумела, што гэта складаная задача. Часцей у крытычных артыкулах і рэцэнзіях прысутнічае толькі першы элемент. Але ж і мастацкая творчасць далёка не заўсёды спакушае крытыка на шматмерны аналіз, дае магчымасць выйсці на яго. Нельга таксама абысці і тое, аб чым калісьці казаў В. Бялінскі: бягучая крытыка ні ў якім разе не можа быць доказам ісціны ў апошняй інстанцыі, яна каштоўная толькі як сведчанне сучаснікаў і заўсёды карэкціруецца Часам. Асабліва гэта істотна, калі ў грамадстве эстэтычныя ацэнкі твораў падмяняюцца ідэалагічнымі, або калі крытычная думка «арганізоўваецца», што не такая рэдкая з'ява ў нашым жыцці. Урэшце ж усё залежыць ад Асобы творцы.

Прагнозы ў літаратуры справа не толькі авантурыстычная, але і няўдзячная. І я не дужа ўпэўнена, што патрэбен сапраўды нейкі «рывок» у асэнсаванні літаратурнага працэсу. Мастацкая творчасць, як і крытыка, павінна развівацца натуральна, і ў першую чаргу іх натуральнаму развіццю не павінна замінаць ганебная, але трывала ўмацаваная ў нашым жыцці практыка «наглядчыцтва» над літаратурай, вызначэння мяжы праўды для яе, забароненасць пэўных тэм, імёнаў. У цэлым жа ўзнікненне крытыкі знамянуе сабой досыць высокі ўзровень духоўнага жыцця нацыі, сталасць яе літаратуры, бо там, дзе няма развітай літаратуры, не можа быць крытыкі. Для яе ўзнікнення павінна быць назапашана «поле». Пры недахопе крытычнага асэнсавання назапашанага лепшыя пісьменнікі свайго часу станавіліся таксама крытыкамі (гэта часткова адказ і на трэцяе пытанне), як Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, а ў нядаўні час Міхась Стральцоў. Тым не менш крытычны позірк пакідае маладаследаванымі цэлыя мацерыкі духоўнай культуры сучаснасці, як, скажам, творчасць Алеся Разанава, у асэнсаванні якой крытычнай думцы варта было б і паднапружыцца. Не ведаю, ці будзе называцца гэта «рыўком», але спадзяюся на ўдумлівы і сумленны аналіз літаратурнага працэсу ў будучых працах такіх крытыкаў, як Пятро Васючэнка, Сяргей Дубавец, Алесь Бяляцкі, Ганна Кісліцына.

Уяўленне пра крытыкаў як пра людзей, нягдольных праявіць сябе ў іншых жанрах літаратуры, здаецца мне абсурдным. Пры такім поглядзе літаратура фактычна падзяляецца не на жанры, а на касты. Уявім сабе вялізны мур, замак (старадаўні або сучасны), які ў прыцемку выглядае досыць непрыступна, але павабліва. Падыдзе адзін, адкалупне ад цагліны і будзе добра пастаўленым галасам з акцэнтамі ў патрэбных месцах вызвоньваць, што гэты надзвычайны мур збудаваны з самае лепшае цэглы ў свеце. Падыдзе другі, разруйнуе каменне, каб зазірнуць у сярэдзіну мура: дзе ж там самы запаветны ягоны пакойчык, пакойчык-скарбніца, куды сцягваюцца, як нітачкі, усе таямніцы адмысловага збудавання? І пакіне пасля сябе груды камянёў. Падыдзе трэці, ашчадна і нетаропка перабярэ мур па цаглінцы да самых сутарэнняў і складзе ўсё наноў амаль так, як было, толькі замак той засвеціцца знутры ўсімі сваімі па-



**Ігар ЖУК**

## САМАЎСВЕДАМЛЕННЕ КРЫТЫКІ

Сённяшні стан літаратуры — як адчуванне рэдкалесся: скрушна і вусцішна. Наваколле свеціцца «белымі плямамі», і іх не могуць захінуць ні паасобныя магутныя кроны, ні тым больш — сухастоіны. Вусцішна яшчэ і ад таго, што ў рэдкалессі найбольш прыкметна, як дрэвы падаюць, пакідаючы за сабой прагал, якога няма каму і запоўніць. Мележ... Макаёнак... Караткевіч... Бечык... Стральцоў...

Гаворка не пра тое, нібыта беларуская зямля сышлася талентамі. Гаворка пра тое, што пладаносны пласт яе няшчадна здэфармаваны і парушаны. Адна літаратурная крытыка тут змяніць штосьці істотна наўрад ці магла. Такое вось суаднясенне.

Суадносіцца могуць рэчы, якія знаходзяцца ў адной сістэме каардынат. А сённяшняе адставанне крытыкі, я сказаў бы лепш — яе грамадская непадрыхтаванасць была як быццам сацыяльна запраграмавана, закладзена ў цэлым шэрагу фактараў. Гэта, папершае, яўная паслабленасць (з прычыны вымусовай перарывістасці) традыцыі мастацкай крытыкі. Па-другое, адсутнасць у Беларусі ўсякае крытыкі ў самым шырокім сэнсе. У нас няма крытыкі грамадскай, крытыкі навуковай, крытыкі прыродазнаўчай і г. д. Па-трэцяе, непаўната агульных ведаў і ведаў літаратурна-мастацкага характару ў прыватнасці. Блізкая з гэтай прычына — некантактнасць з сусветнымі культурамі, з разнастайнымі філасофскімі сістэмамі і адметнымі сістэмамі светабачання. Чаму ў нас так рэдка пракідваюцца крытыкі - індывідуальнасці? Чаму блізняткі-меркаванні і блізняткі-артыкулы так лоўка і казённа падстрыгаюць і прычэсваюць і без таго не надта віхрастую літаратуру? А, відаць, таму, што бракуе індывідуальна - філасофскага пункту гледжання. Ёсць пакуль што агульная, адна на ўсіх дадзеная, а таму абсалютна безаблічная «філасофія». Далей — небагаты скарб адукаванасці. Уся сістэма навучання літаратуры ад школы і да ВНУ як знарок пабудавана так, каб родную літаратуру не толькі не ведалі, а яшчэ ў дадатак і не любілі. Нарэшце, слабасільная плошча крытычных аддзелаў перыядычных выданняў.

Прычынны рад можа быць дапоўнены ці аспрэчаны, пастаўлены ў іншай паслядоўнасці — гэта не так важна. За ўсім бачыцца іншае: мысленне наша ў масе сваёй аб'ектыўна не магло стаць крытычным. Не ў тым сэнсе, што не хапае радыкалізму ці раз'ятранай «жоўці». Яму не хапае універсальнай аналітычнасці. Мы надта аднабаковыя, каб выказаць меркаванне аб'ёмнае. Гэтая якасць, што вельмі істотна сказваецца і на агульным стане мастацкай літаратуры, але скрадваецца там дружным агульным напорам на тэму, у крытыцы праяўляецца ва ўсю, агаляючы грамадскую (а не прафесійную) запраграмаваную яе непадрыхтаванасць быць выразнікам усяго стану інтэлектуальнага развіцця грамадства.

Пераадоленне вышэйназваных, а магчыма, і больш глыбокіх прычын зможа паставіць на крыло перш за ўсё саму літаратуру. Ну, а крытыка?.. Яна недзе побач. Не крытыка прадпісвае законы літаратурнага развіцця, але яна вытлумачвае і спасцігае логіку літаратуры. Калі нам час—і знак пытання і прагненне ісціны, то чаму б і не паспадзявацца на рывок?..

У крытыкі, як і ў літаратуры, таксама павінна быць уласнае самаўсведамленне. Мы не вельмі шчыруем, каб зразумець нават тое, што зроблена дзеля гэтага самаўсведамлення, прынамсі, працамі М. Мушынскага, У. Конана. Факт канстатуем, не надта пранікаючы ў глыбіню факта.

Зрэшты, не вельмі рупімся зразумець і той момант, што з-за адсутнасці паўнаважнага ўсведамлення крытыкай яе самацэннасці ў нас і гаворкі быць не можа пра самастойнасць крытыка і крытыкі. Сама свядомасць тых літаратараў, якія працуюць у жанры крытыкі, не дыферэнцыравана, не вылучана ў цалкам самастойную галіну. Яна, свядомасць, настолькі яшчэ сінкрэтычная, што не можа вярнуцца творцам уласцівасцю, характэрнай толькі таму спецыфічнаму жанру. Вось чаму ў нас з большай логікай і верагоднасцю нараджаюцца тонкія «шматстаночнікі», як М. Стральцоў, —



**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

## САМАСВЯДОМАСЦЬ ЛІТАРАТУРЫ

У тым, як гучыць першае пытанне, я бачу пэўнае супрацьпастаўленне крытыкі і літаратуры. Калі ж кіравацца тою ісцінай, што крытыка ёсць самасвядомасць, самапазнанне літаратуры, дык убачым дыялектыку гэтых адносна самастойных галін мастацкае свядомасці. Выдатная белетрыстыка нараджае выдатную крытыку, якая часта становіцца разнавіднасцю белетрыстыкі. Возьмем, да прыкладу, прадмову Антона Навіны да другога выдання «Вянка». Пяць старонак машынапісу — а як многа сказана! Бо сам «Вянок», сама асоба Максіма Багдановіча натхняюць, будзяць думку. Што гэта так, мы пераканаемся яшчэ раз, калі ўспомнім «Загадку Багдановіча», напісаную Міхасём Стральцовым. Што гэта—крытыка, літаратуразнаўства, проза? Ёсць, праўда, сухаватая, менш вобразная, але багатая на думкі і назіранні крытыка. Успомнім працы Алеся Адамовіча аб творчасці Максіма Гарэцкага і Кузьмы Чорнага, Рыгора Бярозкіна — пра Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна.

Гэта як закон: творы выдатных пісьменнікаў стымулююць думку, абуджаюць пачуцці. У кожнай літаратуры мы бачым такую карціну: добры пісьменнік абавязкова знаходзіць добрага крытыка, інтэрпрэтатара і каментатара ягоных твораў.

Добры крытык — гэта асоба, надзеленая адчуваннем слова, стылю, асоба, якая сама валодае словам, мае свой стыль. Добрыя крытыкі сустракаюцца, мусіць, не часцей, чым добрыя белетрысты.

Не ведаю, ці пісаў калі-небудзь Ігар Дзядкоў вершы і прозу, але ягоныя артыкулы і рэцэнзіі вылучаюцца стылем, уражваюць густам. Глыбока паважаю Віктара Карамазава як апавядальніка. І мушу сказаць, што я не чытаў нічога лепшага аб творчасці Міхася Стральцова, як эсэ В. Карамазава ў лютаўскай кніжцы «Полымя» за 1987 год. Не забуду, з якім задавальненнем рэдагаваў эсэ Уладзіміра Калесніка «Час вызвалення» і «Абед у Таўлая»... Не думаю, што «не здолелі праявіць сябе ў іншых жанрах» Іван Мележ, глыбокі крытык, эсэіст Янка Брыль (успомніце кнігі «Роздум і слова», «Трохі пра вечнае»), Алесь Адамовіч, Міхась Тычына. Здаецца, няблага пішуць вершы і прозу маладыя Ірына Багдановіч, Пятро Васючэнка, Сяргей Дубавец. А дактары навук Мікола Арочка, Адам Мальдзіс? Кожны з іх паказаў, што валодае словам не горш за некаторых «чыстых» белетрыстаў.

Тэзіс «не здолелі праявіць сябе ў іншых жанрах», мяркую, паходзіць ад «пакрыўджаных» паэтаў і празаікаў.

Добра, калі крытыкі крытыкуюць кепскія кнігі. Але гэта няўдзячны занятак. Не таму, што ім пачынаюць псаваць нервы, а таму, што нязДару крытыкай не перайначыш, таленту яму не надасі. Няздары сярдуюць на крытыку і тады, калі яна іх не чапае. «Не заўважаюць!» Не ведаю, хоць адзін таленавіты празаічны твор, зборнік паэзіі, які б крытыка ўрэшце не заўважыла. Са свайго досведу крытыка і рэдактара зрабіў выснову: трэба дапамагаць талентам, папулярызаваць іх. А творцы шэрай плыні заўсёды знойдуць сабе «кішэньковага», як казаў Піліп Пестрак, папулярызатара. Надта ж умеюць гэтыя творцы гуртавацца, ствараць хаўрусы, учыняць звадкі...

«...называць рэчы іх імёнамі». Я рады, што летась і сёлета на старонках «Крыніцы» ўдалося надрукаваць паасобныя творы Алеся Гаруна, Андрэя Зязюлі, Ігната Канчэўскага, Макара Краўцова, Казіміра Сваяка, Фабіяна Шантыра, на чые імёны ў свой час было накладзена табу, што ўдалося вярнуць сёетое са спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа ды Змітрака Бядулі, што ўдалося надрукаваць артыкул пра Вацлава Ластоўскага, які я разглядаю як падрыхтоўчую работу да больш

коямі, і флігель падасца не такім ужо недарэчным у агульнай забудове... Але часам аказваецца, што цьмяна-непрыступныя муры зусім не замак, а звалка будаўнічых матэрыялаў або так-сяк скляпанае збудаванне, невядома для каго і невядома навошта... Усё залежыць ад Асобы творцы. У любым жанры.

У выслоўі Бялінскага я вылучаю прынамсі два моманты, істотныя для крытыкі ранейшай і сучаснай: тое, што пазіцыя яе павінна быць сумленнай, а крытэрыі ацэнкі — эстэтычнымі. Але мы часта ўсё ж збіваемся на прасталінейнасць у сваіх меркаваннях і прасталінейнасць выдаём за пазіцыю. А.фігуральныя выяўленні — за напрамкі ідэйнасці. Які сэнс ва ўсім нагавораным, калі слова неадэкватна паняццям? Гэта або свядомая мана, або элементарная недасведчанасць. І тое, і другое існуюць, прысутнічаюць. Але ж існуе яшчэ і іншае. Тое, што ў рэчы ёсць Імя і ёсць імёны, «субцітры», якія Імя суправаджаюць. Часам і часта гэтыя «субцітры» выдаюцца за Імя. Дарэчы, гэта ўласціва не толькі крытыцы і не толькі мастацкай творчасці. У гісторыі грамадства вядомы перыяды, калі можна перамаўляцца толькі пры дапамозе «субцітраў». Загана не гэта, а тое, што з часам такое перамаўленне становіцца звычным і пануе нават тады, калі за голаснае вымаўленне Імені не распінаюць.

час Бялінскага яшчэ не настаў. Розныя літаратары сучляняюцца ў адным. І гэтая сінкрэтычнасць мастацкай свядомасці, мастацкага мыслення служыць прыдатнаю глебай для ўяўлення, што крытык — няўдаліца ў іншых літаратурных жанрах. Нараджэнне крытыка — рэдкаснае з'явішча, фенаменальна рэдкаснае. Таму што —я зноў падкрэсліваю — гэта асобная сфера мыслення. Гэтую загадку разгадаць вельмі цяжка, але факт застаецца фактам: часцей і больш плённа «нараджаюцца» і паэты, і празаікі, і толькі адзінкі (часам, аж у стагоддзе)—крытыкі. Найчасцей крытыкамі становяцца, так бы мовіць, ад пяра. Слыху на слова можна навучыцца, можна адшліфаваць уласны ход разважанняў, можна развіваць і ўдасканальваць гэтыя якасці. Але гэта і будуць развітыя ці ўдасканаленыя **якасці**, а не прыроджаныя **ўласцівасці**, здольнасці да спасціжэння таямніц мастацтва.

Што ж датычыць сябе асабіста, дык я толькі магу прызнаць незалежную аб'ектыўнасць рэчаў у свеце. Назваць іх сваімі імёнамі, можа, пашчасціць каму-небудзь іншаму.

г. Гродна.

грунтоўнага нарыса жыцця і творчасці гэтай неардынарнай асобы. Вось як я разумею словы «...называць рэчы іх імёнамі».

«Я народжаны, каб называць рэчы іх імёнамі». Тут, думаю, Вісарыён Рыгоравіч выявіў уласцівае шмат каму з рускіх мастакоў і мысліцеляў месіянства. «Я народжаны» гучыць самаўпэўнена. Ці не тая самаўпэўненасць апанавала Бялінскага, калі ён ганіў Шаўчэнку і ўкраінскую мову? Не трэба ўпэўніваць самога сябе, што ты вяшчаеш ісціну ў апошняй інстанцыі.

Крытычная думка зробіць рывок у асэнсаванні літаратурнага працэсу тады, калі проза, паэзія, драматургія зробяць рывок у сваім развіцці. Давайце згадаем 50—60-я гады. Пакуль што я не бачу скачка. Пакуль ідзе колькаснае назапашванне, я акунуся ў гісторыю. Зараз самы час усвядоміць «прычыны нашых крыўд і бед». На кожным новым вітку развіцця грамадства трэба нанава асэнсоўваць мінуўшчыну. Не ведаю, ці хутка я звярнуся да сучаснага літаратурнага працэсу.

***Ліпеньскімі днямі ў сталіцы Беларусі сустрэліся два калегі, маладыя перакладчыкі, — госць з Беластоцкага краю, супрацоўнік рэдакцыі «Нівы» Ян Максімюк і «тутэйшы», рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Сяргей Шупа. Іх гутарку і прапануем чытачам «ЛіМа».***

*Сустрэчы, гутаркі*

# ШТО БАЧЫЦЦА З-ЗА ДЗЯРЖАЎНАЙ МЯЖЫ?

**Сяргей ШУПА.** Ян, скажы, што ты цяпер робіш у Мінску?

**Ян МАКСІМЮК.** Я прыехаў сюды з групай настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны ў ваш педагагічны інстытут на курсы павышэння кваліфікацыі.

**С. Ш.** То ты хіба намерыўся павысіць сваю кваліфікацыю ў валоданні беларускай мовай?

**Я. М.** Я прыехаў як кіраўнік групы, а кіраўніку ж неабавязкова павышаць кваліфікацыю: хопіць з яго, што ён кіраўнік. Дык вось, швэндаюся па Мінску, абліваюся потам у летняй спякоце і шукаю цікавы матэрыял у «Ніву».

**С. Ш.** Што новага чуваць на Беласточчыне? У нас, бадай, не ўсе ведаюць, што ёсць у Польшчы гэткая беларуская аўтаномія з цэнтрам у Беластоку, дзе гавораць па-беларуску (не тое, што тут), газета, радыё і ўсё такое...

**Я. М.** Што да аўтаноміі, дык упершыню беларусы заікнуліся пра яе адно мінулай восенню, на XI з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства, але развіваць гэтую тэму пакуль што не наважыліся. А чуць беларускую мову на беластоцкай вуліцы даводзіцца не часцей, чым у Мінску... Хаця апошнім часам яна загучала лозунгамі са сцен гарадскіх камяніц. Маю на ўвазе нашу выбарчую кампанію ў маі. Упершыню за сорак пяць гадоў існавання Народнай Польшчы беларусы вылучылі сваіх кандыдатаў на выбарах у польскі парламент.

**С. Ш.** Хто гэта — беларусы, хіба БГКТ?

**Я. М.** БГКТ далучылася да выбарчай кампаніі крыху пазней, саміх жа кандыдатаў вылучыў Беларускі клуб — нядаўна ўзнікшае палітычнае прадстаўніцтва беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У Сенат быў вылучаны кандыдатам пісьменнік Сакрат Яновіч, а ў Сейм — Яўген Мірановіч, гісторык і грамадскі дзеяч. Кампанія праводзілася пры дапамозе сяброў Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС) і сакратара БГКТ Віктара Стахвюка, які быў шэфам выбарчага штаба. Пра самыя выбары гаварыць зашмат не буду, бо ўсё будзе падрабязна выкладзена ў «Бюлетэні Беларускага клуба», які выйдзе ўвосень. Вынікі выбараў перавысілі нашыя спадзяванні. Мы, вядома, прайгралі, бо не былі падрыхтаваны ні псіхалагічна, ні арганізацыйна да гэтай палітычнай акцыі. Але мы заіснавалі як палітычная сіла — трэцяя ў рэгіёне побач з урадава-партыйнай кааліцыяй і «Салідарнасцю». Я ўпэўнены, што дзень 4 чэрвеня 1989 года (дзень выбараў) стаўся пераломным для беларусаў Беласточчыны. Быў зроблены той важны крок, які неабходны на шляху да ўсведамлення сябе народам: беластоцкія беларусы сталіся палітычным суб'ектам. Дарэчы, беларусы сярод усіх нацменшасцяў Польшчы былі адзіныя, хто вылучыў на выбары сваіх нацыянальных кандыдатаў і вёў выбарчую прапаганду на роднай мове. Нашым выбарчым лозунгам быў заклік: «Беларусы! Пра нашы справы будзем гаварыць самі». Выбары на Беласточчыне сталіся шокавай тэрапіяй як для нас саміх, гэтак і для палякаў. Але яна неабходная...

**С. Ш.** Пра БАС і БГКТ мы сёе-тое чулі і чыталі. А што такое Беларускі клуб, дык, пэўна, мала хто ведае.

**Я. М.** Так, бо пакуль што Клуб існуе як згуртаванне неафармальнае. Задача Клуба — асэнсоўванне палітычных падзей у Польшчы з беларускага пункту гледжання ды каардынацыя дзеянняў дзеля захавання тоеснасці і самабытнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў ПНР. Усё сведчыць, што праз чатыры гады, у час наступных выбараў, у краіне набудзе далейшае развіццё палітычны плюралізм, магчыма, узнікнуць новыя палітычныя групоўкі ці нават партыі. Дык вось, у такіх абставінах мэтаю Клуба ёсць стварэнне беларускай палітычнай арганізацыі дэмакратычнага кірунку.

**С. Ш.** На якую сацыяльную базу можа разлічваць такая арганізацыя? Ці маюць беластоцкія беларусы дастаткова палітычнай і нацыянальнай свядомасці, каб падтрымаць гэткі грамадскі пачын?

**Я. М.** Надзея перадусім на моладзь, на гарадскую моладзь. Васьмідзесятыя гады паказалі, што беларусы на Беласточчыне не звяліся. Наша «малое беларускае адраджэнне» пачалося ў 1981 годзе ў студэнцкім асяроддзі. Маю на ўвазе тагачасную спробу заснаваць беларускае студэнцкае згуртаванне, якая закончылася няўдачай, але дала імпульс да барацьбы. Адметнымі вехамі на шляху гэтае барацьбы сталіся «Сустрэчы», першы часопіс беларускага студэнцтва ў Польшчы (выходзіць з 1984 года). Першы з'езд беларускіх студэнтаў у Бельску (вясна 1987) і рэгістрацыя БАСу як арганізацыі агульнакраёвага абсягу (восень 1988). Можна сказаць, што БАС з'яўляецца авангардам беларускага адраджэння на Беласточчыне. Апошнім часам у плынь беларускага руху актыўна ўлілася моладзь з Праваслаўнага брацтва, якое гуртуе малады адраджэнцкі рух у Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. Гэта вельмі істотны факт, бо большасць беларусаў Беласточчыны ўсведамляе ў большай ступені сваю канфесійную адметнасць, чым адметнасць нацыянальную. Застаецца спадзявацца, што гэтыя дзве адраджэнцкія плыні — нацыянальная і рэлігійная — зліюцца ў адно рэчышча.

**С. Ш.** Думаю, усе беларусы тут шчыра падтрымаюць гэтае тваё спадзяванне. А як, дарэчы, бачыцца вам з-за дзяржаўнай мяжы нашае «вялікае беларускае адраджэнне»?

**Я. М.** Не магу гаварыць за ўсіх беластоцкіх беларусаў, але шмат хто прыглядаецца да гэтага адраджэння з надзеяй. Вам трэба ўсвядоміць, што беларускасць на Беласточчыне будзе мець перспектывы існавання і развіцця толькі тады, калі мы будзем адчуваць у Беларусі трывалую духоўную і маральную апору. Беларуская праблема ў Польшчы для палякаў, мякка кажучы, незразумелая. Бо для пераважнай большасці на ўсход ад Мастаўлян і Белавежы пачынаецца Расія. Беларусь — гэта для іх не болей, чым геаграфічна-адміністрацыйнае паняцце. Дык што ўжо казаць пра іхнія веды аб існаванні беларускай меншасці на Беласточчыне! Стагоддзямі рабілася ўсё, каб склаліся такія ўяўленні. Ці зменяцца з часам гэтыя ўяўленні — залежыць найперш ад вас. Ды мала таго, мусяць змяніцца і нашыя «ўнутрыбеларускія дачыненні». Маю на думцы шырэйшыя грамадска-культурныя кантакты жыхароў БССР з беларусамі ў Польшчы. Вось палякі, напрыклад, выдатна ўсведамляюць сабе значэнне сувязяў з суродзічамі па-за межамі Польшчы дзеля ўзбагачэння свае культуры і павышэння аўтарытэту дзяржавы ў свеце. Яны ў развіцці гэтых сувязяў маюць традыцыі і поспехі. Ім можна толькі пазайздросціць. І не здзіўляцца, што якраз культурна-грамадская актыўнасць палякаў на Літве, Беларусі ці Украіне мае такі дынамічны характар. Нам жа, беларусам, не хапае ці то смеласці, ці то элементарнага асэнсавання паняцця беларускага этнасу. Усё замыкаецца межамі рэспублікі. Беластоцкі беларус для большасці з вас тут у Мінску — гэта нейкі скасабочаны ў духоўных адносінах паляк. Агульна кажучы, такое ў нас на Беласточчыне склалася ўражанне. Вядома ж, апошнім часам нешта скранулася з месца. Да некаторых з вас трапляе беластоцкая «Ніва», можна пачытаць пра наша жыццё-быццё там, за мяжою, пра нешта даведацца, задумацца. Узніклі першыя кантакты на афіцыйным узроўні: паміж БГКТ і «Радзімай», паміж уладамі Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці. Але ўсё гэта з аглядкай, з асцярогай, каб, крый божа, чаго нечаканага не выйшла... Пра нармальныя сувязі, як і належыць цывілізаваным людзям, гаварыць пакуль што не даводзіцца. Дарэчы, чаму б не парупіцца аб стварэнні беларускага консульства ў Беластоку, накшталт польскага, што існуе ў Мінску? Важна ўсвядоміць, што такая непаўторная з'ява, як беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы, не павінна заставацца па-за ўвагаю ўрада рэспублікі. Ці ж трэба нам зноў і зноў паўтараць памылкі гісторыі, у якой наш народ шчодра дарыў суседзям сваіх сыноў і дачок, не патрабуючы за гэта нічога ўзамен?

Беларусы на Беласточчыне сваёй грамадска-культурнай актыўнасцю ўпісваюцца ў панараму агульнапольскага жыцця, дадаючы яму своеасаблівага каларыту, але ці ж трэба тут абгрунтоўваць, што тая актыўнасць прыносіць плён галоўным чынам на абшары беларускай культуры. Дык вось, ваш беларускі адраджэнцкі рух моцна падкрэслівае справу духоўнай еднасці ўсіх беларусаў, дзе б яны ні пражывалі. Гэта добрая зарука на будучыню, лепшую, як спадзяюся, але ў сучасны момант яшчэ дужа няпэўную...

**С. Ш.** Адчуваю шмат горычы ў тваіх словах...

**Я. М.** Справа не ў словах, а ў канкрэтным дзеянні. Каб не пустаслоўіць, прывяду адзін прыклад, звязаны з побытам групы нашых настаўнікаў тут, у Мінску. Магчыма, камусьці ён можа падацца занадта дробязным. Але для мяне ён знамянальны. Дык вось, кожны ўдзельнік курсаў атрымаў тут стыпендыю ў суме 150 рублёў (на месяц). За гэтыя грошы можна пракарміцца і нават на цукеркі і квас прыхаваць. У той жа час настаўнік фізікі, матэматыкі ці біялогіі, які прыязджае з Польшчы ў Савецкі Саюз на курсы павышэння кваліфікацыі, атрымлівае 250 рублёў. Няўжо патрэбы, скажам, настаўніка фізікі ажно настолькі большыя за патрэбы настаўніка беларускай мовы?

Перад выездам у Варшаве, у Цэнтры ўдасканалення настаўнікаў мне растлумачылі, што арганізацыя курсаў для настаўнікаў беларускай мовы адбываецца паводле іншых правілаў, чым для ўсіх астатніх. Кошты па ўтрыманні ўдзельнікаў гэтых курсаў бярэ на сябе Беларусь, так як, дарэчы, кошты па ўтрыманні настаўнікаў польскай мовы з Беларусі, што прыязджаюць у Польшчу, бярэ на сябе польскі ўрад. Я пацікавіўся, якую стыпендыю атрымліваюць савецкія настаўнікі ў Польшчы. Аказваецца, Міністэрства нацыянальнай адукацыі выплачвае кожнаму ўдзельніку ў залатоўках 17 рублёў на дзень. Нават улічваючы некаторую розніцу ў вартасці рубля ў вас і залатоўкі ў Польшчы, заўважым, што несуразмернасць у гэтых сумах атрымліваецца каласальная. У Мінску я даведаўся, што грошы на курсы беларускіх настаўнікаў размяркоўвае Дзяржаўны камітэт па народнай адукацыі ў Маскве, і тут, хоць ты плач, хоць ты смейся, нічога не зробіш.

Канечне, мы б сюды прыехалі нават і ў тым выпадку, калі б трэба было ўтрымлівацца за ўласныя грошы. Тым больш, што ў Мінскім педагагічным інстытуце прымаюць нас надзвычай сардэчна. Маю на ўвазе і апекуноў нашай групы, навуковых супрацоўнікаў інстытута Ірыну Мікалаеўну Саматыю і Мікалая Георгіевіча Яленскага, і ўсіх выкладчыкаў на курсах... Але вось там, на самай гары, на справу глядзяць інакш. Яшчэ раз падкрэслю: справа тут не ў грашах, а ў прынцыпе, у павазе да чалавека. Каб ён не адчуваў сябе ў параўнанні са сваімі калегамі, настаўнікамі іншых прадметаў, чалавекам ніжэйшай катэгорыі. Я адчуваў бы сябе брыдка перад настаўнікамі з Беласточчыны, калі б змаўчаў пра гэтую справу.

Дарэчы, я ўжо крыху прытаміўся гэтым сузіраннем беларускай нацыянальнай нядолі. Магчыма, табе будзе цікава пачуць пра нешта больш лёгкае. Напрыклад, як мне падаліся мінчанкі, або што я думаю пра часопіс «Политический собеседник»?

**С. Ш.** Разумею, што ты стаміўся. Але было б недаравальна, калі б пры гэтай нагодзе я не спытаўся пра тое, што хвалюе не аднаго мяне. Дык вось, апошняе пытанне: што з тваім перакладам «Уліса» на беларускую мову?

**Я. М.** Скажу коратка, каб не блытаць і так заблытаную справу. У наступным годзе ў «Даляглядах» будзе апублікаваны ўрывак перакладу, памерам прыблізна ў два друкаваныя аркушы. Закончыць пераклад поўнасцю я мяркую недзе да каляд наступнага года. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» ставіцца прыхільна да публікацыі перакладу асобнай кніжкай. Калі не здарыцца нічога непрадбачанага, то «Уліс» выйдзе кніжкаю ў 1992 годзе, на сямідзесятую гадавіну з часу публікацыі арыгінала.

*З паэтычнай пошты*

**Алесь ПІСАРЫК**



## З вамі— як з жывымі, гавару...

Памяці аднавяскоўца,
Старшыні ЦВК БССР
Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова

З'езд ідзе...
І — пільная ахова.
І абвостраныя слых і зрок.
Цэліцца
у сэрца Чарвякова
Верны варашылаўскі стралок.

Гулкі стрэл...
І патануў у дыме
Калідорчык вузкі і глухі.
І застылі вочы маладыя,
Поўныя адчаю і тугі...

І пайшла па свеце пагалоска:
Новы вораг выкрыўся — карай!
Ды слязой зайшлася наша вёска,
Ды журбой заліўся родны край.

Радыё ж хлуслiва потым скажа,
Што ён сам застрэліўся...
Шкада,
Што не хутка вузел той развяжа
Зломленая горам грамада,
Што слязу няўцешную глытае,
Вечнай праўды тоячы грамы...
Хто страляў —
Ніхто не запытае,
Бо народ —
Загнаны і нямы,

І грыміць балюча звон кайданны
Высланых навечна ў Салаўкі:
Засцілаюць снежныя бураны
Землякоў бяскрыжыя грудкі...

Хто віной таму,
Што іх імёны
Подласцю аблітыя былі?!
Міхасі, Алесі і Лявоны,
Вы —
Навек сыны сваёй зямлі;

Ажылі вы зноў пасля рэпрэсій...
З вамі —
Як з жывымі, гавару.
Вы ў народнай памяці ўваскрэслі,
Помніць вас і любіць
Беларусь!

●

Мо так адны мы, беларусы,
Нядбайна нішчым старыну:
То —
Курганы князёвы рушым,
То ў цэрквы —
Звозім збажыну...

Ваду з балотцаў смокчуць трубы,
А хто, скажыце, прыкмячаў,
Як паплавы сухія губіць
Густы быльнёг і малачай?

І ў мовы лёс палынна-горкі.
Змялела моўная рака,
І не пазнаць у час гаворкі
Ў сваёй жа вёсцы —
Земляка...

Мо ў тым —
Падлашчванне сляпое...
Але, даруйце,—перад кім,
Калі — Радзіма за табою?
Чаго ж баімся, землякі?

●

Што гэтак сэрца даймае?
Стыне калінавы звон.
Скошаны травы...
Гукае
Лету
Жніво наўздагон.

Вольна задыхалі грудзі
Зёлкамі...
Кругам — зямля...
Сэрца лагодзяць і студзяць
Звонкія крылы чмяля...

Стукае горача ў скроні.
Стому забыўшы, ляжу.
Хмарка нячутна зароніць
Лёгкі спакой у душу.

**Барыс САЧАНКА**

# ЗАПІСКІ АБ РАДЫЯЦЫІ

**О, Беларусь, мая шыпшына,**
**зялёны ліст, чырвоны цвет!**
**У ветры дзікім — не загінеш,**
**чарнобылем не зарасцеш.**
У. Дубоўка. 1926 г.

●

ІВАН Паўлавіч Мележ марыў напісаць раман пра вучоных-атамнікаў, іх незвычайную адказнасць перад чалавецтвам. Збіраў неабходную літаратуру, а каб паўней, аб'ёмней уявіць працу і жыццё вучоных, тыя праблемы, што іх хвалююць, сустракаўся, гутарыў з многімі. Смерць не дала пісьменніку здзейсніць задумы. Смерць уратавала і ад таго гора, якое перажылі ды перажываюць і цяпер яго землякі, увесь беларускі народ пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І вось каторы ўжо час не пакідае мяне думка, напамінае і напамінае аб сабе: «Няўжо ў Мележа было прадчуванне, адкуль найбольшае ліха чакае яго землякоў, усю Беларусь?» У мастакоў такое бывае... А Мележ быў мастак, вялікі нацыянальны мастак...

●

**У чэрвені 1963 г., плаваючы на цеплаходзе «Огонёк» па рэках Палесся, я ўпершыню ўбачыў Чарнобыль. У сваім дарожным дзённіку «Зямля маіх продкаў» я пісаў тады: «Вось і яшчэ адзін украінскі гарадок, адно з даўніх пасяленняў на Прыпяці — Чарнобыль. Тут міжволі прыгадаеш прымаўку — блізка відаць, ды далёка сігаць. Прайшло больш за паўгадзіны, як выплыў гэты гарадок на гарызонце і ўсё яшчэ стаіць на пагорку, на кручы, і з ракі, нават цяпер, нагадвае вялізны замак. Некалькі цэркваў з залатымі макаўкамі надаюць гораду старадаўні, вельмі нават старадаўні выгляд...».**

**Не думаў, не ўяўляў я, што тут, непадалёку ад Чарнобыля, праз нейкі час будзе збудавана атамная электрастанцыя, пасля аварыі якой гарадок гэты стане вядомы на ўвесь свет, увойдзе ў гісторыю як напамінак чалавецтву, што яго чакае, калі яно не прыкладзе намаганняў, не спыніць набліжэння атамнай катастрофы...**

●

У маёй роднай вёсцы Вялікі Бор, якая знаходзіцца ад Чарнобыля ўсяго за якую паўсотню кіламетраў, не ведалі да будаўніцтва атамнай электрастанцыі многіх хвароб. І раптам менавіта ад іх пачалі паміраць людзі...

Цяпер, пасля аварыі, не-не дый прыходзяць у галаву здагадкі: а ці не было радыеактыўных выкідаў і раней, толькі ў меншых дозах?.

●

**Маё запаветнае жаданне, нават як бы патрэба: пакінуць горад і вярнуцца ў сваю родную вёску, пажыць зноў там хоць некаторы час.**

**У другой палове красавіка 1986 г. я вызваліўся ад працы ў Саюзе пісьменнікаў і, што называецца, пачаў пакаваць чамаданы да ад'езду ў вёску. І таму як крушэнне планаў, катастрофу ўспрыняў паведамленне пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Першая мая думка была: «Няўжо не суджана збыцца маёй мары, няўжо аварыя навечна перакрэсліць мае планы?»**

●

Першыя афіцыйныя паведамленні пра аварыю не супакоілі мяне. Наадварот, насцярожылі, пасеялі яшчэ большы неспакой, трывогу. Чаму нацiск у паведамленнях робіцца не па самой аварыі, а на сродках масавай інфармацыі капіталістычных краін, якія нібыта перабольшваюць памеры бяды, паднялі антысавецкую істэрыю?

Уключыў замежнае радыё. Трэск, гуд — ні слова не разабраць. Праўда, натрапіў на перадачу па-польску... Уга, чаго нарабілася!.. Павысіўся радыяцыйны фон амаль ва ўсіх краінах Еўропы, радыеактыўныя ізатопы выпалі ў Швецыі, Заходняй Германіі, Канадзе... Няўжо бяда абмінула Беларусь?.. Наўрад... Тады... Чаму маўчым, чаму не папярэджваем насельніцтва аб небяспецы? Уключыў тэлевізар — на экране паказваюць, як у Брагінскім, Хойніцкім і Нараўлянскім раёнах — самых блізкіх да Чарнобыльскай АЭС — сеюць... Ці мы штосьці хаваем, дакладней, ад нас хаваюць, ці паны-капіталісты знарок паднялі вэрхал, каб чарговы раз збэсціць наш лад?..

●

**На Першамайскія святы — а іх аж чатыры дні — многія паехалі дадому, у свае вёскі. Можа, і мне паехаць? Цёпла ж, сонечна, як рэдка калі і ўлетку бывае. Але штосьці стрымала мяне, не ахвоціла ехаць. Відаць, тое, што збіраўся ж у вёску, да маці, братоў, надоўга, можа, нават на ўсё астатняе жыццё...**

●

Сустрэўся з тымі, хто пабываў на Першамайскія святы і ў Хойніках і ў Вялікім Боры. Усё там спакойна, ніякай трывогі. Сеюць, загараюць, п'юць малако, ядуць першую зяляніну — шчаўе, крапіву, цыбулю, часнок...

●

**Мінае дзень-два, і да мяне даходзяць чуткі, што з некалькіх раёнаў, у тым ліку і з Хойніцкага, пачалася эвакуацыя насельніцтва. Тэлефон мой не змаўкае — звоняць і звоняць землякі, што прыжыліся ў Мінску: ці не маю якіх-небудзь звестак з дому? Афіцыйныя асобы, з якімі сустрэўся, пацвердзілі: усё правільна, эвакуацыя ідзе. Але менавіта з якіх вёсак, куды каго вывозяць, ніхто пакуль што нічога пэўнага мне не кажа...**

●

Выпадкова напаткаў на вуліцы зямлячку. Яна плача — ездзіла на Першамайскія святы ў Баршчоўку, якая ад Чарнобыльскай АЭС усяго за некалькі кіламетраў, з двума дзецьмі. А калі пайшла праверыцца, дык выявілася: у яе самой і ў дзяцей «радыяцыя». І не малая... Адно, адно пытанне мучыць, хвалюе жанчыну: «Чаму нічога не паведамілі, не сказалі, што нельга туды ехаць, нельга там загараць, піць малако, есці шчаўе...»

Як магу, суцяшаю, супакойваю жанчыну. А сам думаю: колькі такіх жанчын, дзяцей? У Беларусі? На Украіне?..

●

**У Мінск прыехаў мой даўні сябра, вучоны-атамнік, што жыве і працуе ў Обнінску. Зайшоў да мяне, расказвае: пра аварыю ён пачуў, дакладней, здагадаўся назаўтра ж пасля таго, як яна здарылася. Адзін з яго супрацоўнікаў ездзіў у Маскву. А калі вярнуўся, прыборы, што ўстаноўлены пры ўваходзе ў лабараторыю, «не пусцілі» хлопца — зафіксавалі прысутнасць радыеактыўных ізатопаў. Давялося распранацца — радыеактыўнымі аказаліся штаны. Значыцца, калі ехаў супрацоўнік у электрычцы, хтосьці да яго дакрануўся «брудны» ці сеў ён на тое месца, дзе нехта «брудны» сядзеў. Пачуўшы пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС, мой сябра паехаў да бацькоў — яны таксама жывуць непадалёку ад маёй роднай вёскі.**

**Ён, мой сябра, і расказаў падрабязна, што здарылося там, на атамнай электрастанцыі пад Чарнобылем, чым яна, гэтая аварыя, небяспечная.**

**— Ніхто пакуль не ведае памеры бяды. Але вядома — выбух не быў ядзерным. Цвёрдыя часцінкі з актыўнай зоны рэактара — уран, плутоній і прадукты іх распаду раскіданы выбухам і разнесены ветрам на велізарнай плошчы. Працэс іх натуральнага радыеактыўнага распаду будзе працягвацца дзесяцігоддзі, бо чалавецтва яшчэ не навучылася кіраваць хуткасцю радыеактыўнага распаду. Сабраць гэтыя часцінкі таксама немагчыма. Таму яны праз ваду, яду, паветра будуць трапляць у чалавечы арганізм і рабіць сваю страшную знішчальную справу. А часцінак гэтых выпала, нават па няпоўных папярэдніх падліках, у некалькі разоў больш, чым пры атамных бамбардзіроўках Хірасімы і Нагасакі. І на першых парах найвялікшую небяспеку ўяўляюць радыеактыўныя ёд-131, цэзій-137, цэрый-144, стронцый-90, плутоній-239 і плутоній-240... Перыяд паўраспаду гэтых элементаў, за выключэннем ёду, даволі працяглы. І самае правільнае было б выселіць з забруджанай мясцовасці людзей і спыніць там усякую сельскагаспадарчую дзейнасць...**

●

Прачытаў у газеце «Правда», што ў час аварыі «вецер, на шчасце, дзьмуў не ў бок Кіева». Значыцца, на няшчасце, ён дзьмуў у бок маіх родных мясцін...

●

**Нарэшце, удалося пагаварыць па тэлефоне са сваёй вёскай. І нават з маці. Вёску нашу не высяляюць. Маці вясёлая. «У нас усё добра, не хвалюйся. Гэта з-за мяжы абы-што плявузгаюць, не вер ім». Ехаць да мяне, каб хоць на нейкі час пажыць, не збіраецца. «Лепш ты да мяне прыязджай, пажыві, як і абяцаў. У нас ужо ўсё паўзыходзіла, ды такое харошанькае.. І сады вельмі ж прыгожа цвілі, завязі да гібелі... Не бойся, прыязджай, гэта ў іншых вёсках пагана, а ў нас добра... Бог, кажуць, двойчы не карае вёску. Адзін раз пакараў, то і хопіць...»**

**Маці намякае на вайну, калі вёска наша была спалена фашыстамі, а нас, яе жыхароў, каго не расстралялі, не спалілі, вывезлі на чужыну, у рабства...**

●

Прыехаў з вёскі брат, Грыша. Расказаў пра эвакуацыю паўднёвых, бліжэйшых да Чарнобыля, вёсак — Масан, Баршчоўкі, Уласаў, Радзіна, Пагоннага, Аравіч, Дронек і інш. З нашага Вялікага Бору вывезлі дзяцей і цяжарных жанчын. Вёска без дзяцей — ціхая, глухая. Па полі, па лесе гойсаюць армейскія машыны, робяць замеры радыяцыі, бяруць на пробы зямлю. Забаранілі хадзіць у лес, піць малако, есці яйкі, шчаўе, цыбулю, наогул, усё, што расце.

— І як вы думаеце там далей жыць? — спытаў я.

— Я, як і некаторыя іншыя, сабраўся пакінуць вёску, — прызнаўся Грыша. — Запрашалі мяне ў адно месца, яшчэ да гэтай аварыі. Вось я і наведаўся туды...

— І што?

— Рукі нават ніхто не падае. Баяцца набрацца ад мяне радыяцыі. Уцякаюць, як ад заразнага...

●

**Сустрэўся з тымі, хто пабываў у забруджаных аварыяй раёнах. Настрой ва ўсіх панылы, змрочны. Памеры бяды невядомы. Нават медыкам забаранілі гаварыць што-небудзь пэўнае. Ды і прыбораў жа, як высветлілася, няма, каб усё па-сапраўднаму змераць. Знаёмыя ў адзін голас раяць — не едзь пакуль што туды... І маці не трымай там, забяры...**

●

На вакзале ў Мінску ўбачыў дзяцей — іх везлі ў вагонах з тых, забруджаных аварыяй, раёнаў. Стрыжаныя, нейкія чорныя, няшчасныя. Успомніў тыя эшалоны, што ішлі ў час вайны ў Нямеччыну, у адным з якіх ехаў туды і я...

●

**Да мяне на кватэру ўваліліся ледзь не ўсім аўтобусам аднавяскоўцы, якіх я не ведаю, але яны ведаюць мяне. Сумныя, разгубленыя. З размовы выявілася — іхнія жонкі і дзеці ў піянерскім лагеры пад Мінскам. Самі мужчыны дояць кароў, кормяць свіней, гатуюць есці, мыюць бялізну, прыбіраюць у хатах, полюць і акопваюць грады... Колькі так давядзецца жыць?**

**Дзецюкі топчуцца ў парозе, не ідуць далей на хату, хоць я і запрашаю.**

**— Чаму вы такія нясмелыя? — не вытрымліваю я.**

**— А ведаеце, — прызнаецца адзін з дзецюкоў, — баімося гэтай радыяцыяй і вас заразіць. Вунь калі нашых жонак і дзяцей прывезлі сюды пад Мінск, дык іх сустракалі ў процівагазах, з гумовымі пальчаткамі на руках... А вы ж...**

●

Так, радыяцыі ўсе баяцца, бо і не ведаюць, што гэта такое. Столькі ж трубілі пра «мірны атам», і раптам... Адзін мой знаёмы шафёр, каб не ехаць з начальнікам, якога пасылалі ў тыя пацярпелыя ад аварыі раёны, «захварэў» — злёг у бальніцу... Самі ж начальнікі, пабываўшы ў Хойніках, Нароўлі ці ў Брагіне, вывешваюць на балконах пінжакі, штаны, і тыя матляюцца там на вяроўках — «выветрываюцца» — па тыдню і болей.

Інфармацыі пра тое, што адбылося на атамнай электрастанцыі, у якой ступені і дзе забруджана Беларусь, няма ніякай. Таму і паўзуць па горадзе самыя неверагодныя чуткі — то што будуць у бліжэйшыя дні вывозіць з Мінска дзяцей, то што будуць эвакуіраваць увесь горад...

●

**Толькі ў вайну, мабыць, так прагна сачылі за зводкамі з фронту, як цяпер сочаць за паведамленнямі з Чарнобыля. Тон іх з кожным днём мяняецца. Адчуваецца, становішча там складанае, і ніхто не можа сказаць наперад, чым усё скончыцца... Ідзе ж напружанае, проста гераічнае змаганне па ўтаймаванні рэактара, які выйшаў з-пад улады чалавека. Будуецца саркафаг, — ён, як сцвярджаюць спецыялісты, на многія гады спыніць выкіды радыеактыўных ізатопаў, фактычна навечна пахавае ачаг бяды. Але калі, калі гэта будзе?..**

**Пра тое, што робіцца на Беларусі, інфармацыі няма ніякай. Хіба што газета «Правда» змясціла інтэрв'ю з некаторымі кіраўнікамі рэспублікі. Але канкрэтнага ў іх мала. «На змену перыяду эмоцый, — гаворыць кіраўнік рабочай групы па ліквідацыі аварыі, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР А. Пятроў, — прыйшоў час тэхнічна складанай, доўга-**

**тэрміновай, мэтанакіраванай і комплекснай працы. Галоўная яе мэта — не дапусціць адмоўнага ўплыву радыяцыі на здароўе людзей. У працэсе абследавання сутыкнуліся з нечаканасцямі. Выяўлены, напрыклад, чыстыя тэрыторыі ў 30-кіламетровай зоне і ў той жа час асобныя «брудныя плямы» за яе межамі. Такія «плямы» выяўлены». І ўсё. Як жа можна «не дапусціць адмоўнага ўплыву радыяцыі на здароўе людзей», калі не гаварыць ім, дзе тыя «брудныя плямы», не папярэджваць аб небяспецы. Міністр жа аховы здароўя БССР М. Саўчанка абвінавацію у тым самым інтэрв'ю кіраўнікоў гаспадарак і грамадзян, што яны ў першыя дні пасля аварыі, маўляў, «праявілі бяспечнасць і элементарную медыцынскую непісьменнасць». Цікава, дзе ў гэтыя дні быў сам міністр, увесь штат міністэрства, чаму ніхто з медыцынскіх работнікаў не выступіў ні па радыё, ні па тэлебачанні, ні ў газетах з парадамі, што трэба рабіць, каб пазбегнуць непажаданых эксцэсаў?**

●

Калісьці, у вайну, я ўжо развітваўся з роднымі мясцінамі. А можа, і цяпер з'ездзіць, развітацца? Бо што далей будзе — адзін бог ведае.

Ехаць са мной на Палессе згадзіўся Мікола Мятліцкі. Ён родам з Бабчына, які да Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі яшчэ бліжэй, чым мой Вялікі Бор. З намі згадзіўся паехаць — на нашу немалую радасць — і І. П. Шамякін: ён дэпутат Вярхоўнага Савета СССР якраз па нашай акрузе і не пабыць там, не ўбачыць усё на свае вочы ён, як прызнаўся, проста не мае права. Ды і скаргі адтуль ідуць яму, народнаму абранніку...

●

**З Мінска выехалі рана. І недзе ў добрага паўдня былі ўжо ў Гомелі. Перш чым кіравацца далей, завіталі ў абком партыі. Тут нас падрабязна пазнаёмілі з тым няшчасцем, што абрынулася на вобласць. Расказвалі і пра тое, што перажылі людзі ды і самі кіраўнікі за гэтыя дні. Рыхталіся ж да самага горшага, нават да эвакуацыі Гомеля. Зачыталі падрыхтаваны зварот да жыхароў горада — куды каму ісці, што і колькі чаго з сабою браць... Другі сакратар абкома В. А. Санчукоўскі, які непасрэдна займаўся эвакуацыяй вёсак Хойніцкага, Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў, бязвыезна правёў там некалькі тыдняў, прызнаўся: у вобласці ляжыць некалькі дзесяткаў тон забруджанага радыенуклідамі мяса.**

**— І што вы з ім робіце?**

**— Дамешваем у фаршы, у каўбасы і прадаём.**

**— ?**

**— Вучоныя кажуць, што гэта можна. Галоўнае, каб працэнт забруджанага мяса быў невысокі.**

●

Рэктар Гомельскага універсітэта, дарэчы, сам па спецыяльнасці фізік-атамнік Б. В. Бокуць паведаміў, што атрымана разнарадка пасылаць студэнтаў у забруджаныя раёны вобласці на «сельгасработы».

— І вы?

— Я сказаў начальству, што сумленне не дазваляе мне выконваць такія загады.

— А колькі радыеактыўных элементаў выпала ў Беларусі?

— Амаль усе, якія толькі ёсць.

— І што, на вашу думку, трэба было б зрабіць з тымі забруджанымі мясцінамі?

— Выселіць адтуль як мага хутчэй людзей. Спыніць усякую сельскагаспадарчую дзейнасць. І мясцовасць тую абгарадзіць калючым дротам. Не заходзіць, не заязджаць туды нікому гадоў сто, а, можа, і болей...

●

**У Хойніках у гутарцы з сакратаром райкома партыі высвятляем, куды дзяваюць забруджанае малако, садавіну, збожжа.**

●

— Са збожжа гонім спірт. Яблыкі, грушы, вішні, ягады ідуць на сок. З малака робім масла, сыры...

— І што — прадукты атрымліваюцца чыстыя?

— Не зусім, але вучоныя кажуць, што спажываць іх можна...

●

**У адной з вёсак запісваю «чорны гумар» пра радыяцыю. Вось ён:**

**Навыбіралі жанчыны вядро клубніц. А яны параслі на дзіва буйныя — кожная па курыным яйку. Выкідаць шкада, але і есці...**

**Убачылі суседа, Сцяпана.**

**— Сцяпан, можа б, ты знасіў клубніцы да салдатаў, радыяцыю памераў?**

**Сцяпан, пачухаўшы патыліцу, тут жа ўмову паставіў:**

**— А выпіць будзе?**

**У адной з жанчын была самагонка.**

**— Будзе, — паабяцала жанчына. — Толькі наперад не дам. Вось знасі клубніцы да салдатаў, памерай радыяцыю — атрымаеш сваё.**

**Сцяпан узяў вядро, пайшоў.**

**Вярнуўся праз гадзіну. Сказаў весела:**

**— Бабы, памыйце і ешце. Так сказалі там, у салдатаў, тыя вымяральшчыкі.**

**Памылі жанчыны клубніцы, селі за стол, пачалі есці. Вядома ж, шклянку Сцяпану налілі, ды і на сябе не забыліся. Апаражнілі адну міску, за другую ўзяліся. Толькі бачаць — Сцяпан гарэлку піць п'е, а да клубніц не дакранаецца.**

**— А чаму ты клубніц не ясі? — пытаюць у Сцяпана.**

**— Не люблю.**

**Ну, не хочаш, дык і не трэба. Самі жанчыны ўмалацілі вядро клубніц. Тады Сцяпан падняўся з-за стала, шапку на галаву насунуў, пытае:**

**— А ці хоць смачныя ягады былі?**

**— Вельмі смачныя, такіх яшчэ мы не елі.**

**— Ну, і добра. А то я ні да якіх салдатаў не хадзіў, ніякай радыяцыі не мераў...**

**— А дзе ж ты цэлую гадзіну быў?**

**— У цяньку пад грушай ляжаў...**

●

Расказваюць-пераказваюць гісторыю прыезду аднаго з кіраўнікоў рэспублікі ў забруджаныя радыяцыяй раёны. У Хойніках ён абедаў, але нічога з мясцовай кухні ў рот не ўзяў. Нават абрус на стол засцілалі, прывезены з Мінска. І яду еў толькі мінскую. У Брагіне, які трэба было высяляць, а ён, гэты кіраўнік, паабяцаў, што з горада зробіць самы чысты горад у Еўропе, выйшаўшы з машыны да людзей, пачаў расхвальваць дэзактывацыю — маўляў, было тут жыць небяспечна, а цяпер, пасля дэзактывацыі, ніякай небяспекі няма. Нейкі дзядзька не вытрымаў, сказаў: «Я паверу ў гэта толькі тады, калі вы тут пабудуеце дом адпачынку і прыедзеце сюды на ўсё лета са сваімі ўнукамі». Кіраўнік наліўся чырванню, закрычаў: «Как ваша фамилия?..» Заўважылі людзі і яшчэ адно: пасля таго, як садзіўся кіраўнік зноў у машыну, разуваў чаравікі, абуваў новыя, а тыя, забруджаныя, шафёр укладваў у цэлафанавы мяшэчак і нёс у багажнік... І. П. Шамякін пра таго ж кіраўніка дадаў некалькі сваіх слоў, а, дакладней, расказаў, як да яго, таго кіраўніка, прыйшла на прыём вялікая група жанчын з дзецьмі, што, адселеныя з родных мясцін, жылі пад Мінскам у санаторыі «Крыніца». Замест таго, каб прыняць іх, выслухаць, супакоіць, абнадзеіць і памагчы, ён, той кіраўнік, выклікаў міліцыю і жанчын з дзецьмі пазаганялі ў міліцэйскія машыны і адвезлі назад у санаторый. Жанчыны, абураныя, напісалі яму, І. П. Шамякіну, свайму дэпутату, скаргу...

●

**Вёска Бабчын, дзе нарадзіўся Мікола Мятліцкі і дзе нарадзілася мая маці, таксама Мятліцкая, — вялікая, прыгожая, у некалькі вуліц. Каля яе — новы, нядаўна пабудаваны свінакомплекс на некалькі тысяч галоў. З-за яго, гэтага свінакомплексу, вёску і не высялялі, хоць яна засыпана цэзіем больш за некаторыя іншыя, ужо выселеныя. Меркавалі: можа, удасца не выселіць яе, захаваць свінакомплекс, бо калі выселіць людзей, як жа са свінакомплексам быць — адразу ж упадзе працэнт вытворчасці свініны ў рэспубліцы.**

**Але вучоныя настаялі на сваім: пра людзей трэба найперш думаць, а потым ужо пра свініну. І ў Гомелі, у абкоме, нам з сумам паведамілі: Бабчын давядзецца высяляць...**

**У самім Бабчыне, калі мы туды прыехалі, пра высяленне яшчэ ніхто не ведаў. І як мурашкі працавалі — звозілі салому, касілі,граблі сена, поркаліся ў гародах... Глядзець на гэта, а потым і гаварыць з людзьмі, казаць ім праўду, было невыносна цяжка...**

●

Калодзежы абцягнуты поліэтыленавай плёнкай — браць ваду з іх нельга. Указкі на дарогах — з'езд з дарогі забаронены... І побач, на лузе, косяць, грабуць сена, пасвяцца каровы, коні, гусі. Ніхто пакуль што не ўсвядоміў небяспеку радыяцыі...

●

**Дэзактывацыя... Ля памытых спецыяльным растворам, яшчэ мокрых хат — ні дрэўца. Усё высечана, выкарчавана. Панішчана і агароджа. Ні град, ні якой бы там зеляніны. Гола, пуста. Няўжо тут зможа хто-небудзь жыць? Выбрана аж да жоўтапеску і зямля навокал...**

**За якога паўкіламетра на полі відаць і радыеактыўны могільнік — лаўжы галля, дрэў, капцы зямлі. Могільнік нічым не абгароджаны, быццам звалка. Яшчэ далей — паласаты шлагбаум: далей — «зона»... Яна ахоўваецца міліцыяй, салдатамі — маладымі дужымі хлопцамі. Хто скажа, што з імі будзе праз пяць-дзесяць гадоў? Кожны ж з іх набярэ пэўную дозу радыяцыі. Як паўплывае яна на здароўе не толькі яго самога, але і дзяцей, унукаў?..**

●

Ля магазіна — натоўп жанчын. Чакаюць, калі прывязуць хлеб.

— А як жа з іншымі прадуктамі — ці прывозяць?

— Хоць бы хлеб прывозілі. Астатняе сваё ядзім.

— Дык жа нельга, забаронена!

— А не еўшы, не піўшы хіба ж можна жыць?

— Што, зусім нічога не завозяць?

— Каму мы трэба, пенсіянеры. Хутчэй памром, дзяржаве эканомія: пенсіі не трэба будзе плаціць. Ды калі яйкі, малако і прывозяць, то яны не лепшыя за нашыя. У адной вёсцы бяруць, а ў другую возяць.

— Хто вам такое сказаў?

— Шафёры.

— Адкуль яны ведаюць?

— Дык жа яны сюды-туды возяць і тое малако, і тыя яйкі. Вядома, не па сваёй волі, а па загадах начальства...

●

**Бачыць спелыя грушы, яблыкі, слівы, ведаць іх смак — і баяцца сарваць, з'есці... Асабліва з тых дрэў, якія сам садзіў, даглядаў, паліваў, расціў...**

**Я перажыў гэта, стоячы на сваім падворку.**

●

Новы пасёлак, што збудаваны пасля аварыі для адселеных з 30-кіламетровай зоны людзей. Акуратныя драўляныя дамкі. Жыві, радуйся.

У дамку, куды я зайшоў, дзед і баба. Ляжаць на падлозе, засланай нейкімі лахманамі. Ні ложка, ні стала, ні канапы. Нават табурэта няма.

— І колькі вы тут жывяце? — павітаўшыся, спытаў я.

— Другі месяц.

— Чаму ж вы ложка сабе не купіце, канапы якой? Хіба няма за што?

— Не, грошай нам далі. Аж трыццаць тысячаў...

— То ў чым жа справа?

— А мы тутака жыць не збіраемся.

— Чаму?

— Сэрца падказвае — мы не будам тутака доўга жыць... (І праўда — у той жа год — паведамілі мне потым пра гэта — памёрлі абое: спачатку дзед, баба — на месяц пазней).

●

**У Буда-Кашалёве сакратар райкома партыі, між іншым, сама паляшучка, расказала, што самае страшнае для іх раёна адбылося не ў красавіку, а ў маі. Тады ў Буда-Кашалёву нагнала такую пылавую буру, што некалькі гадзін нельга было выйсці на вуліцу, нават транспарт быў спынены — нічога ані не было відаць.**

**Там жа, у Буда-Кашалёве, упершыню пачулі і пра хмару з радыенуклідамі, якая быццам рухалася на ўсход у напрамку да Масквы і якую расстралялі з артылерыі і авіяцыі, рассеялі па Гомельскай, Магілёўскай і Бранскай абласцях...**

●

Дзеці... Іх найбольш шкада. Асабліва, калі чуеш, як яны, бедныя, далей будуць жыць і вучыцца ў забруджаных пасля аварыі вёсках. Цэлымі днямі давядзецца не выходзіць са школы. Тут яны будуць снедаць, абедаць, вячэраць, рыхтаваць урокі, чытаць кнігі. І гуляць пад наглядам настаўнікаў толькі ў школьным двары. Не школа, з маленькі канцлагер...

●

**У вёсцы, дзе некалі жыла жонка І. П. Шамякіна, сустрэлі шафёра, — ён толькі што вярнуўся з Хойнікаў.**

**— І што ты там рабіў? — спытаў у яго Іван Пятровіч.**

**— Па камбікармы ездзіў. Там завод, і адтуль кармы развозяцца па ўсёй вобласці.**

**— Дык жа яны радыеактыўныя, — сказаў я.**

**— Ну і што? Не людзі ж іх будуць есці, а свінні...**

**— А свініну хто будзе есці! — ледзь не крыкнуў я.**

**Але што спрачацца з шафёрам? Ён жа выконвае загады. А іх, як вядома, аддае начальства...**

●

Не знаходжу слоў, як назваць тое, з чым не-не дый даводзіцца сутыкацца. Вось некалькі прыкладаў. У Буда-Кашалёўскі раён адсялілі некалькі тысяч людзей з «зоны». А ліміты на прадукты не павялічылі. І ў многіх пасёлках да перасяленцаў, асабліва на першым часе, адносіліся як да аб'ядалаў — варожа. У час паездкі сустрэлі мы жанчыну, якая расказала: яе выкідвалі з чаргі, калі яна прызнавалася, што перасяленка, з «зоны» — баяліся заразіцца, набрацца радыяцыі... Аднойчы, едучы ў электрычцы, я загаварыў з сябрам пра чарнобыльскую бяду. І нейкі тып, што сядзеў побач і слухаў нашу размову, раптам, павярнуўшыся да мяне, прашыпеў: «Калі вы не спыніце антысаветчыны, я здам вас у міліцыю». А то яшчэ — у Рэчыцы І. П. Шамякін, М. Мятліцкі і я, сустрэўшыся ў райкоме партыі з кіраўніцтвам горада, расказалі, што бачылі ў раёнах бяды. І адна асоба, жанчына, адразу ж нас асудзіла — не тое мы бачылі, што трэба было бачыць... Мала таго, гэтая жанчына — як высветлілася, загадчыца аднаго з аддзелаў райкома — праявіла пільнасць — пазваніла ў абком і выказала меркаванне, каб нас нікуды не пускалі, бо мы, маўляў, сеем сярод людзей паніку...

●

**«Навука патрабуе ахвяр, у тым ліку і чалавечых», — сказаў, выступаючы па тэлебачанні, адзін з кіраўнікоў атамнай энергетыкі. Але ж мы ўсе сталі ахвярамі, заложнікамі не навукі, а невуцтва. Дый розніца ёсць між тымі, хто свядома сам ахвяруе сваім жыццём дзеля навукі, і тымі, каго падвяргаюць небяспецы, нічога пра гэта не гаворачы, нават не папярэдзіўшы, што каго чакае. А тут, у чарнобыльскай бядзе, будуць і генетычныя анамаліі. І думаць, ох як думаць трэба, перш чым аддаваць розныя загады, распараджэнні. А ў нас... Гадамі ж дбалі пра ўсё, толькі не пра чалавека. І цяпер у некаторых кіраўнікоў асталося тое самае — выканаць любым шляхам загад зверху, выканаць даведзеныя дзяржавай планы і ўзятыя абавязацельствы, адрапартаваць, а там, як кажуць, хоць трава не расці. «Як жа мы адпусцім ці выселім людзей? А хто ж працаваць будзе?» — чулі мы і ў раёнах, і ў вобласці. Таму на прапановы з другіх краёў і рэспублік забраць і пасяліць там людзей кіраўнікі і адказвалі: маўляў, самі справімся са сваім горам, абыдземся без дапамогі суседзяў...**

**На сустрэчы ў ЦК КПБ, на сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў БССР з Рэспубліканскай камісіяй па ліквідацыі вынікаў аварыі, у якой прыняў удзел і член нацыянальнага савета Міжнароднага камітэта радыяцыйнай абароны (МКРА) прафесар В. А. Кніжнікаў, я пра многае, што мяне хвалявала, сказаў, патрабуючы як найхутчэй надрукаваць карты забруджаных мясцін, даць поўную, вычарпальную інфармацыю пра гэтую небывалую ў гісторыі чалавецтва катастрофу. Слухалі мяне з увагай,ківалі галовамі, згаджаліся. Але які будзе з гэтага вынік — невядома. У нас жа прывыклі слухаць, ківаць галовамі, згаджацца — і нічога не рабіць, спасылаючыся пры гэтым на самыя розныя прычыны. Тут жа, у дадзеным выпадку, такая прычына ўжо знойдзена — «сакрэтнасць»...**

●

Рэактар на Чарнобыльскай АЭС, які, узгарваўшыся, нарабіў столькі бяды, быццам утаймавалі, збудавалі саркафаг. Правялі адсяленне вёсак, у некаторых зрабілі дэзактывацыю. І сёй-той спрабуе пераканаць усіх, што вынікі аварыі ліквідаваны, пара на яе забываць.

А яна не забываецца. Ды і ці забудзецца хоць калі?.. Вось прыехаў з роднай вёскі, што на Магілёўшчыне, К. Кірэенка. Расказвае, як жыў усё лета ў маці, збіраў грыбы, амаль не выходзіў з лесу... А я, успомніўшы сваю вёску, кажу яму:

— А ў мяне... Адабралі вёску...

К. Кірэенка ўздыхае:

— Дык жа і Магілёўшчына засыпана радыенуклідамі. Толькі маўчаць, не прызнаюцца... Думаю вось артыкул напісаць пра гэта... Ці зрабіць дэпутацкае запытанне...

●

**Лісты ад маці... Ніколі іх так, здаецца, не чакаў, як цяпер. Што, што там, у вёсцы?.. Быццам нічога асаблівага. Піць малако не дазваляюць, есці яйкі ад сваіх курэй таксама не дазваляюць, праўда, дазволілі капаць і есці бульбу. Падвоілі зарплату, але на пенсіянераў забыліся — не набавілі ні капейкі...**

**У кожным лісце паведамленні пра смерці. То сваякоў, то суседзяў...**

●

**Пазванілі з кінастудыі, прапанавалі напісаць сцэнарый фільма пра падзеі, звязаныя з аварыяй Чарнобыльскай АЭС**

**— Вы ж гэта ведаеце, вам гэта блізка...**

**— А што б вы хацелі бачыць у кінасцэнарыі? — спытаў я асцярожна.**

**— Заданне начальства такое — больш аптымізму! А то ў апошні час чуткі розныя паўзуць...**

**Не, аптымізму ў мяне няма. Хутчэй наадварот — суцэльны чорны песімізм, асабліва, калі ўспамінаю тыя мясціны, якія сходжаны мною ўздоўж і ўпоперак...**

**Пісаць «аптымістычны» кінасцэнарый я адмовіўся...**

●

Па тэлевізары перадаюць адказы маскоўскіх вучоных на пытанні людзей, што жывуць у забруджаных радыенуклідамі раёнах. У людзей — трывога: як далей ім жыць?..

Тон і пафас выступленняў маскоўскіх вучоных аптымістычны, некаторыя выказваюць ледзь не радасць, што здарылася гэтая аварыя, маўляў, такая магчымасць для назіранняў і розных эксперыментаў з'явілася, якой не маюць вучоныя ні адной краіны свету...

●

**Як бы сёй-той затрывожыўся, зноў успомніў пра аварыю — ідзе ж, набліжаецца вясна і ці не трапяць разам з талымі водамі ў рэкі радыенукліды? Хоць і абвалоўвалі Прыпяць ды і іншыя рэкі, а ўсё ж...**

**Трывога, як пішуць газеты, дарэмная. Вада ў рэках і пасля паводкі аказалася практычна чыстай...**

**Зноў аруць, як і аралі, сеюць, як і сеялі. Пыл шлейфам паўзе па полі, людзі ў адкрытых кабінах, нават стаяць без рэспіратараў на сеялках. І гэта выдаецца ледзь не за гераізм...**

●

У майго старэйшага брата Колі, які не шанаваўся, хадзіў у лес, збіраў, нягледзячы на забарону, грыбы, — інфаркт з мінулага года. Цяпер, як паведамілі мне з вёскі, інфаркт і ў малодшага брата — Грышы: ён працаваў на падсочцы і таксама цэлымі днямі не выходзіў з лесу. А лес, як вядома, асабліва хваёвы, трымае радыяцыю найбольш...

●

**Грышу прывезлі ў Мінск, праляжаў ён тут з месяц. Здаецца, паставілі зноў на ногі. Правёў яго назад у вёску...**

●

Прыехаў разам з маці і Коля. Таксама хоча паправіць здароўе. Раю яму, як раіў і Грышу, не жыць там, у вёсцы, з'ехаць куды-небудзь.

— Каб жа я мог жыць у іншым месцы, — прызнаецца брат. — А то ж... Паеду да дачкі ці сына — тыдзень вытрымаць не магу. Дома ж хата, сад, гарод, лес... Не, нікуды не паеду, што б там ні было...

●

**Нарэшце, спынена будаўніцтва атамнай электрастанцыі пад Мінскам. Гэта — перамога здаровага чалавечага розуму. Дзіўлюся толькі, як можна было пачынаць гэтае будаўніцтва за якіх трыццаць-сорак кіламетраў ад паўтарамільённага горада. Хаця... Сцвярджаў жа прэзідэнт АН СССР, акадэмік А. П. Аляксандраў, што атамныя электрастанцыі ў нас так надзейна і бясшкодна працуюць, што іх можна будаваць у цэнтры Масквы — на Краснай плошчы...**

**Спынена і будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, якую меркавалася пабудаваць на самай мяжы з БССР...**

**(Працяг на стар 12).**

**Усё часцей на старонках друку ўзнімаецца пытанне пра лёс сучаснай беларускай драматургіі і рэалізацыі прынцыпаў двухмоўя на сцэне абласных драмтэатраў рэспублікі. Але мы амаль не звяртаем увагі на тое, што гэта не дзве розныя праблемы, а два бакі адной праблемы...**

*Тэатр*

# ТОЛЬКІ ДЛЯ ЭКЗОТЫКІ?..

Цяжка сёння сказаць, калі і з якога «блаславення» замацавалася ў тэатральных колах рэспублікі меркаванне пра тое, што беларускія драматургі вельмі рэдка пішуць вартыя п'есы. Ну, а калі ў такім літаратурным жанры тутэйшыя творцы адчуваюць сябе не надта ўпэўнена, калі з-пад іхняга пёрка выходзяць п'есы, мякка кажучы, недацягнутыя, дык не патрэбны такія і сцэне.

Крыўды і ўзаемныя папрокі паміж рэжысёрамі тэатраў і драматургамі вядуцца ўжо даўно. Першыя ў гэтых спрэчках маюць важкую перавагу, бо апошняе слова за імі: як бы драматург ні біўся, якія самыя высокія інстанцыі ні наведваў, але тэатр — гэта вотчына рэжысёра, і калі ён не захоча, аўтар п'есы хоць выцягніся, а месца ёй у рэпертуары не знойдзецца. На жаль, трэба пагадзіцца і з тым, што нашы творцы пакуль што не «закідалі» абласныя драмтэатры высокамастацкімі п'есамі. З другога боку, і гэта сёння ўжо ні для кога не сакрэт, значная частка арыгінальных п'ес не трапляе ў тэатр з-за «традыцыйнай» непавагі тэатраў, дакладней, некаторых рэжысёраў, да твораў беларускай драматургіі. За апошнія 5 гадоў колькасць спектакляў па творах нацыянальнай драматургіі ў рэпертуары абласных тэатраў склала ўсяго 13 працэнтаў!..

Чаму так? Галоўная прычына — нястача высокапрафесійных нацыянальных рэжысёрскіх і акцёрскіх кадраў. Толькі галоўны рэжысёр Гомельскага драмтэатра з'яўляецца выпускніком нашага БДТМІ, астатнія прыехалі з-за межаў рэспублікі. Зразумела, што прыезджым здалёку цяжка разабрацца ва ўсіх складанасцях развіцця беларускай нацыянальнай культуры, і стаўленне іх да нашай драматургіі часцей за ўсё абыякавае.

— Пазіцыя часовых візіцёраў зразумелая, — пагодзяцца чытачы. — Тады чаму спяць у шапку нашы беларускія рэжысёры? Куды зніклі іх патрыятычныя памкненні?

Трэба зважыць і на другі бок гэтай праблемы: спагадлівасць да беларускай драматургіі грунтуецца на любові да нацыянальнай мовы. Сёння нашы абласныя драматычныя тэатры працуюць толькі па-руску...

У апошнія гады ў рускіх абласных тэатрах рэспублікі вырашана ставіць адну п'есу беларускай драматургіі на мове арыгінала. Дамоўлена, што ў Гродзенскім абласным драмтэатры гледачы ўбачаць «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча (дарэчы, спектакль ужо пастаўлены), Брэсцкім — «Кароль — Мыльны Пухір» З. Дудзюк, Магілёўскім — «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, Гомельскім — «Янка і Ружа» У. Ягоўдзіка.

Адразу пасля прынятага ў Міністэрстве культуры рашэння пачуліся раздражнёныя галасы з тэатраў: на нацыянальнай мове спектакляў не ставіць. Гэтыя галасы падмацоўваліся ледзь не афіцыйнымі напорыстымі заявамі, якія, напрыклад, аўтару гэтых радкоў давялося выслухаць на пасяджэнні мастацкага савета Магілёўскага аблдрамтэатра:

— Хто даў права ператвараць наш тэатр у беларускі? Вы нас голымі рукамі не возьмеце...

Заканамерным зрабілася і тое, што ў калектывах для пастаноўкі на беларускай мове хітра выбіраецца самая куртаценькая п'еса з найменшай колькасцю дзейных асоб, каб заняць у ёй некалькі «пакутнікаў». Якія сімпатыі да беларускай мовы будуць адчуваць пакрыўджаныя акцёры (тыя, каго займаюць у падобных спектаклях, лічаць сябе пакрыўджанымі, не менш) і стомленыя гаротным відовішчам гледачы?

Ёсць яшчэ адзін «мудры» ход, які дазволіць тэатрам «не звязвацца» з нацыянальнаю моваю. Калі беларускамоўныя спектаклі тэатрам не патрэбны, хоць і ставяцца раз на год, дык праз 3—4 паказы спектакль здымаецца з рэпертуару — таму што, маўляў, не займеў глядацкага поспеху. І так штораз.

Ці патрэбны для «сцэнічнай экзотыкі» такія ахвяры? Ці шчыра мы жадаем ажыццявіць перабудову ў тэатральнай культуры рэспублікі? Калі шчыра, дык зробім так, як гэтага аб'ектыўна патрабуе час: спектаклі ў абласных тэатрах будзем ставіць на роднай мове. Калі няшчыра, дык усё пакінем па-старому...

Усё часцей даводзіцца чуць прапанову аб стварэнні ў кожным абласным драмтэатры рускай і беларускай трупы. Але гэта непрадуманая ідэя. Каб стварыць дзве жыццяздольныя трупы, трэба колькасць акцёраў у абласных тэатрах падвоіць — для таго, каб, ставячы паўнакроўныя драматургічныя творы, дзве трупы маглі спакойна «разыходзіцца» (каб акцёраў «хапала» на спектакль). Але гэткі шлях азначае павелічэнне фонду заработнай платы і памеру датацыі—ці лёгка ўсё гэта вырашыць? Адпаведна ўдвая павялічацца планавыя паказчыкі, асабліва па абслугоўванні гледачоў; непамерна вырасце колькасць спектакляў і рэпетыцый, а гэта ніяк не адпавядае ўмовам вытворчай дзейнасці тэатраў.

Магчыма, ёсць іншыя варыянты. Можна і не павялічваць у два разы штаты акцёраў драмтэатраў, бо нейкая частка працаўнікоў сцэны зможа іграць на дзвюх мовах: трэба сёння—калі ласка, гаворым па-беларуску, заўтра — па-руску. Але з верагоднасцю такога варыянта пагадзіцца цяжка. Са сцэны часцей за ўсё будзе чуваць звычайную «трасянку»...

Уявім сабе і наступны варыянт: колькасць акцёраў застаецца ранейшай, і ў яе межах утвараюцца руская і беларуская трупы. Які гэта будзе тэатр: рускі? беларускі? Цікава было б прааналізаваць колькі і што дадуць такія тэатры беларускай або рускай сцэне. Бо, так бы мовіць, прызначэнні рускіх і нацыянальных тэатраў адметна розняцца.

Парадаксальная сітуацыя? Але сёння ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі існуюць толькі такія «рускія» драмтэатры. (Адзіны тэатр, які недзе згубіў вызначэнне «рускі» са сваёй шыльды, аказаўся тэатр імя В. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску). І гэта—па тым часе, калі пераважная колькасць рэспубліканскага насельніцтва —беларусы. У тых самых абласцях спектаклі тэатраў лялек таксама загучалі па-руску, не пакідаючы дзецям ніякага моўнага выбару, хоць у перспектыве маленькія наведнікі тэатра, і гэта ўсім было зразумела, не збіраліся пакідаць зямлю бацькоў!

Дык што рабіць? Ці стварыць у абласных цэнтрах Беларусі сапраўды беларускія абласныя драматычныя тэатры, ці пакінуць усё, як ёсць, прыкрываючыся абяцанкамі на перспектыву? Мацаваць «традыцыю» беларускамоўных спектакляў «для экзотыкі»?

І хто, дарэчы, мусіць адказаць на ўсе гэтыя пытанні?

**Вячаслаў ЛАПЦІК.**

# ПРАЗ СПАЧУВАННЕ

**Штрыхі да творчага партрэта Леаніда Трушко**

Ён прыйшоў у тэатр у трыццаць год, за плячыма ўжо была біяграфія, хоць вышэйшай тэатральнай адукацыі не было. Акцёрам, вядома, не робяцца ў інстытуце. Але творчыя лёсы апошнім часам не багатыя на разнастайнасць: каб кім-небудзь зрабіцца, трэба... нешта скончыць...

На двары быў 1967 год. «Самадзейныя» тэатральныя поспехі Л. Трушко ў нядаўнім мінулым давалі надзею і абяцалі перспектыву. Пэўна, не кожны б рызыкнуў так крута павярнуць жыццёвую плынь, але «гульня» была вартай таго. Усяго тры гады існавалі на сцэне Палаца культуры Аршанскага льнокамбіната «Крамлёўскія куранты» ў пастаноўцы П. Малчанава, а спектакль звазілі нават у Маскву, і роля Рыбакова, якую выконваў Трушко, была адзначана дыпломам...

У дапаможны склад коласаўскага тэатра яго ўзялі без выпрабаванняў. Знакамітыя на тыя гады коласаўцы ўбачылі некалькі спектакляў з удзелам Леаніда Трушко і зараз жа парупіліся пра яго далейшы лёс. Работа, вучоба, традыцыі сцэны, узаемаадносіны, асабістыя думкі і памкненні, што спраўдзіліся і не спраўдзіліся, уяўленні пра сябе — усё змяшалася... І, пэўна, выстаяць дапамог талент.

Тэатр «жыццёвага падабенства» часта павучальны і прасталінейны. А мастацтва ёсць спосаб спазнання жыцця, праявам якога няма межаў. Жыццё, у якім няма нічога простага і якое не церпіць павучання. Як акцёру не зрабіцца простым і павучальным — нават у спектаклі «Улада цемры», у п'есе гранічна павучальнай? Трушко ў тэатры нядаўна, вопыту мінімум, драматургія нялёгкая. Дасталася роля Мікіты, які імкнецца нялюдскім шляхам выбіцца з галечы да святла. Парок не застаецца непакараным. І сапраўднае жыццё героя пачынаецца з пакаяння. Менавіта шлях да пакаяння імкнецца прасачыць Трушко...

Спектакль «Улада цемры» выклікаў дзіўную рэакцыю. Пра яго пісалі, яму радаваліся, а ў тэатры доўга не здымалі з рэпертуару. Гэты спектакль адкрыў дарогу некальківм акцёрам: для Пісаравай, Акружной, Трушко стаўся першым радком будучага «сцэнапісу». Для Труса, Шэлега, Маркінай, Шмакава — значным этапам біяграфіі, які не абмінуў ніводзін з крытыкаў. Насычаны магутным, уладарным побытам, спектакль ззяў яркай зоркай тэатральнага жыцця да тае пары, пакуль не састарэў — як і кожная жывая істота.

Вакол Мікіты ўскіпалі пагібельныя страсці, віхурылі д'ябальскія сілы, а ён, вялікі і дужы, быў малым і бездапаможным, і нічога не вырашаў у гэтай віхуры змроку і злабы.

Леанід Трушко амаль моўчкі збіраў у душы тое, што прымусіла яго героя «раптам» не вытрымаць, «раптам» скінуць уладу цемры. Відаць, з гэтага вобраза з'явілася ў творчасці акцёра свая тэма і жаданне, каб гледачы задумаліся над сваім жыццём.

Праз дзесяць гадоў у коласаўскім тэатры з'явіцца яшчэ адзін падобны спектакль — «Клеменс». Падобны па тэме, падобны па задумцы і нават знешне блізкі «Уладзе цемры». У ім Леанід Трушко сыграе ролю смаляра Аляпюмаса, нешматслоўнага і самага дужага ў вёсцы чалавека. У вёсцы гэта адзіны, хто не прадаўся ва ўладу дыктату, адзіны, хто захаваў годнасць і гонар. Розум яго інтуітыўны, ён не надта задумваецца над тым, што адбылося, ён сваю праўду ведае... Пачуццё годнасці Аляпюмаса адразу проціпастаўляецца разважлівасці персанажа, які ўмее прыстасавацца і з усяго паймець карысці. Можна было б жыць, як усе — сваім дробным клопатам, ніколі не здымаць з галавы гаршчок і ніколі не падымаць галавы. Ды шлях Аляпюмаса іншы — змаганне. І ён гэтым жыве.

Значныя і нязначныя ролі выхоўвалі ў акцёры гатоўнасць да сустрэч. Больш за 50 вобразаў стварыў Леанід Трушко — Дарафея ў «Званах Віцебска», Лапахіна ў «Вішнёвым садзе», Бажавумава ў «Трох мяшках засмечанай пшаніцы», Буслая ў «Парозе», Дзерваеда ў «Радавых», Максіма Ферапонтавіча ў «Старым доме», Пятрэнку ў «Зінулі», Кэбата ў «Каханні пад вязамі». Вызначыць яго амплуа проста: характарны акцёр. Знешнія дадзеныя — «мужыкаватасць», выразнае аблічча, упэўненая постаць. Гэта і эксплуатуецца рэжысёрамі. Акцёры на эксплуатацыю наракаюць, аднак з рэжысёрамі не пагадзіцца цяжка і зразумець іх лёгка. Але Трушко больш падпарадкуецца свайму разуменню ролі, і мудрыя рэжысёры звычайна пагаджаюцца з ім. Яго сцэнічная праца — гэта спроба даследаваць абставіны, якія «вядуць» герояў да ўчынкаў ці абыякавасці — як у «Мяшчанах» паводле п'есы М. Горкага. Акцёрам на сцэне «выпісана» новая, невядомая дасюль, не ўсімі прынятая карціна, у якой Цецераў становіцца адным з цэнтральных персанажаў, апанентам самога Ніла, фігурай трагічнай. Нікому не патрэбная, а лепей сказаць — незапатрабаваная моц душы, веліч духу зводзіцца на нішто. Чалавек задыхаецца ў адзіноце...

Леанід Трушко спачувае сваім героям — сваім трагічным героям. Ягонае акцёрскае спачуванне, чалавечае сапакутванне скіроўвае і яго самога, і гледачоў на шлях гуманізму.

**Таццяна КАТОВІЧ.**

г. Віцебск.

ГЛЕДАЧЫ многія нашы выстаўкі глядзець не жадаюць. Расчаравана пакідаюць выставачныя залы. Многія — назаўсёды. Яны ўжо не вернуцца, у іх з'явяцца іншыя звычкі, яны пакрысе назгул адвыкнуць хадзіць на вернісажы. Тым больш, што дома іх чакаюць газета, часопіс, тэлевізар, відэа...

Выяўленчае мастацтва перастала быць мастацтвам для тысяч людзей. Аб гэтым гавораць факты. Адток гледачоў з выставачных залаў павялічваецца з году ў год і расце ледзь не ў арыфметычнай прагрэсіі.

І вось — у Палацы мастацтва выстаўка Ільі Глазунова. У іншыя дні — чарга на вуліцы. Нягледзячы на вельмі дарагія білеты. Такога за ўсю гісторыю Палаца не было. У чым жа справа?

Відаць, найперш ва ўменні арганізаваць справу. Асабіста Глазуноў са сваёй умела падабранай групай таварышаў непасрэдна займаецца і прапагандай выстаўкі, і рэкламай, і экспазіцыяй, і наладжваннем непасрэдных кантактаў з гледачом, прэсай, радыё, тэлебачаннем і г. д. Глядач, нават самы недасведчаны, пра Глазунова чуў шмат. Імя ягонае легендарнае, пра яго шмат пішуць, часцей за ўсё хвалебных, апалагетычных артыкулаў, выходзяць у свет манаграфіі, альбомы, з'яўляюцца фільмы, тэлеперадачы.

Да сярэдзіны 80-ых гадоў ніводны часопіс, ніводная газета не прымалі да друку матэрыялы з крытычным разборам творчасці Глазунова. Ды і сёння негатыўным ацэнкам адразу ж процістаўляюцца хвалебныя выступленні ў цэнтральным друку. І сам мастак ахвотна дае інтэрв'ю, сутнасць якіх можна вызначыць яго ж фразай: «Я не змяняюся і не перабудоўваюся, таму, што сёння называюць перабудовай, я аддаў жыццё».

Сказана ўпэўнена і горда. Ну што ж, пагаворым пра творчасць Глазунова. І пра тую фенаменальную з'яву, якая з ім звязана...

**Явились охранители основ,**
**Поборники святой Руси великой:**
**Сам Пикуль живописи —**
**Глазунов**
**И Глазунов литературы —**
**Пикуль.**

Так Я. Аграновіч у эпіграме («Литературная газета», 19 ліпеня 1989 г.) ахарактарызаваў тое, што, на яго погляд, з'яўляецца найбольш агульным у творчых канцэпцыях мастака і пісьменніка. Шчыра кажучы, сапраўды нешта падобнае між імі ёсць: і ў незалежнасці думак, і ў шумнай папулярнасці, і ў закліках да нацыянальнай самасвядомасці, і ў высвятленні ролі некаторых гістарычных дзеячаў, што доўгія гады, вобразна кажучы, былі заціснуты ў стэрэатыпныя ціскі савецкай гістарычнай навукі (ці лжэнавукі?).

На Захадзе Ілью Глазунова называюць «самай парадаксальнай фігурай рускай культуры». На працягу апошняй чвэрці стагоддзя не сціхаюць спрэчкі вакол яго твораў. Карацей кажучы, тут сярэдзіны няма. Адны прымаюць Глазунова цалкам, называючы яго жывапіс «геніяльным», «нечуванай прыгажосці», «ачышчаючым душу», «па-сапраўднаму жыццёва праўдзівым», а самога мастака «Мікеланджэлам XX стагоддзя»... Другія абвінавачваюць яго ў стылізацыі, у наследаванні майстрам мінулага, у адсутнасці густу, называючы яго «каралём кіча», а ў ідэалагічным і этычным плане папракаючы ў «дастаеўшчыне», манархізме, рэтраградстве, рэлігійным містыцызме, нацыяналізме, нецярпімасці да чужой думкі.

Словам, любое меркаванне пра Глазунова — за ці супраць — імгненна нараджае пратэст. Чым гэта растлумачыць? Магчыма, загадкай фенаменальнага таленту? Ці ўсяго толькі элементарным ажыятажам непераборлівай публікі, падагрэтай рэкламай? Дзе рэальнасць, а дзе міф?

Праўда тое, што Глазуноў

# ПАРАДОКСЫ Ільі Глазунова



шырока вядомы ў свеце. Што на яго выстаўках — паломніцтва. Што пра яго творчасць напісаў капітальную манаграфію ў Італіі сам Паола Рычы. Што яму пазіравалі Марыя Казарэс і Федэрыка Феліні, Лукіна Вісконці і Джына Лолабрыджыда, Давід Сікейрас і Сальвадор Альендэ... Аднак Л. І. Брэжнева ён пісаў па фатаграфіі: не любіў генсек пазіраваць мастакам... Зрэшты, як і Сталін...

Праўда тое, што Глазуноў неймаверна працавіты і мабільны: шырока вядомы яго рэпартажы з самых гарачых пунктаў планеты — Чылі, В'етнама, Нікарагуа, Лаоса, а таксама «вялікай будоўлі стагоддзя» — БАМа.

Праўда тое, што мастак частку сродкаў ад правядзення сваіх выставак пераводзіць на рэстаўрацыю помнікаў айчыннага дойлідства, у Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна, у фонд дапамогі інвалідам-«афганцам», у іншыя грамадскія фонды, у тым ліку на стварэнне помніка Ф. Скарыне ў Мінску.

Чалавек няпростага лёсу, Глазуноў пачынаў свой жыццёвы шлях у блакадным Ленінградзе. Вучыўся ў інстытуце імя Рэпіна. Яшчэ студэнтам пачаў ствараць свой паэтычны гарадскі цыкл, прасякнуты водгукам блакады і разам з тым рамантычнымі надзеямі юнацтва. У экспазіцыі мы можам убачыць работы тых гадоў — «Вячэрні горад», «Фурман», «Прыцемак», «Раніца», «Сварка». Менавіта ў іх былі закладзены, на мой погляд, асновы самай арганічнай тэмы мастака — тэмы Дастаеўскага, у якой перапляліся філасофскія развагі пра чалавека і час, пра подзвіг ахвярнасці чалавека ў імя падобных сабе, пра адвечную барацьбу дабра і зла, надзеі на выратавальную пакуту, на місію красы.

На выстаўцы прадстаўлены паасобныя творы, прысвечаныя менавіта галоўнаму запавету Дастаеўскага — «шукаць чалавека ў чалавеку»: ілюстрацыі да «Братоў Карамазавых», «Злачынства і пакарання», «Ідыёта». І што характэрна — да гэтай тэмы Глазуноў звяртаецца пастаянна: апошні партрэт пісьменніка датаваны 1986 годам. І, трэба сказаць, у гэтым цыкле ёсць несумненныя адкрыцці.

Пэўна, блізкасць да духоўнага свету Дастаеўскага, Блока, Мельнікава-Пячэрскага дапамагла мастаку паглыбіцца ў складаныя калізіі рускай гісторыі і хрысціянскай міфалогіі, у вобразы сівой даўніны. Цыкл, пачаты яшчэ ў 60-ыя гады палотнамі «Княжна Тараканава», «Легенда пра царэвіча Дзмітрыя», «Князь Ігар», «Маці Манефа», працягваецца і сёння. Скажам, карціна «Галгофа» напісана шэсць гадоў назад. Што яна дае сучаснаму гледачу? Па задуме Глазунова, веру ў такія спрадвечныя духоўныя каштоўнасці, як спачуванне, дабрыня, міласэрнасць. Хрыстос нясе крыж. Ён не крыўдуе на сваю долю і вера ў яго шырока адкрытых вачах. Ідзі, глядзі, думай, разважай, гаворыць ён нам. Нічога новага? Магчыма. Мы ўсё гэта ўжо бачылі. Але не грэх яшчэ раз нагадаць пра гэтыя, даволі прызабытыя ў наш жорсткі час, духоўныя пастулаты.

Усе гэтыя пошукі «сябе» і прывялі Глазунова да тых палотнаў, якія ён сам вызначыў, як «праўда гісторыі». Ці не надта смела сказана?

**Як нарадзілася «Містэрыя XX стагоддзя»? І. Глазуноў расказвае: «Калі я быў у Парыжы, гэта было ў 1968 годзе, то ўбачыў Парыж у агні. Валілі ля Сарбоны стогадовыя ліпы, палалі вогнішчы, кідалі слёзатачывыя гранаты, неслі партрэты Троцкага, Мао Цзэдуна, Леніна, Сталіна, Чэ Гевары. Правыя сілы схамянуліся, левыя... І я падумаў тады — хто адлюстраваў наша трывожнае XX стагоддзе, хто адлюстраваў рэвалюцыю, сацыяльныя навальніцы, катастрофы? Так і нарадзілася ідэя стварэння карціны «Містэрыя XX стагоддзя». Я над ёй працаваў два гады — і калі быў за мяжой, і дома. Я хацеў паказаць у сваёй рабоце пэўныя філасофскія ідэі, якія выяўляюцца ў барацьбе пэўных гістарычных постацей, і падышоў да справы як рэжысёр...»**

У левай частцы палатна — велізарная, спадаючая зверху да нізу заслона, на фоне якой намаляваны сам аўтар. Ён абапіраецца на авал белага паліраванага металу. Мастак як бы змяшчае сучасны яму свет перад люстэркам і дэманструе яго ў сваім тэатры.

А што ж адбываецца ў гэтым тэатры? Злева ад цэнтра карціны — Ленін з узнятай рукой. Ніжэй — падзенне імперыі, заняпад рэлігіі, расхістаныя, у расколінах, храмы. Мікалай II, Распуцін, Талстой, Сталыпін... Побач — Маякоўскі, Эйнштэйн, Горкі, Свярдлоў, Троцкі, «Чорны квадрат» Малевіча, Пікасо... Затым — Вялікая Айчынная. Брандэнбургскія вароты з надпісамі савецкіх салдат-пераможцаў. Зверху — Сталін на катафалку ў кветках, бы ў крывавай пене. Над ім, нібы ў журботным каравуле, — Гітлер, побач — Мусаліні, ухмылкі Рузвельта і Чэрчыля. Вышэй — аграмаднае цёмнае неба, куды, па задуме аўтара, адыходзяць агеньчыкі — душы загубленых сталіншчынай. У арэоле ззяе багіня перамогі Ніке, лунае над светам. Справа ўнізе ад труны Сталіна — Мао (пляскае ў ладкі), Чаплін, Адэнауэр, Марцін Лютэр Кінг, Хо Шы Мін, Ф. Кастра, Кенэдзі, Сартр, Альендэ, Хрушчоў, «разбуральнікі музыкі» «Бітлзы», салдаткі-калгасніцы, якія не дачакаліся з вайны сваіх мужыкоў... Далей ідуць Насер, сфінкс, Голда Меір, Машэ Даян — сімвалы часу, этапы стварэння дзяржавы Ізраіль. У ніжнім куце — А. Салжаніцын у лагернай робе з нумарам на грудзях, побач — гераіня яго ранняга апавядання Матруна. Над імі — мухінская кампазіцыя «Рабочы і калгасніца», гіганцкі ядзерны грыб і натоўп небаскробаў, між якімі лунае белы голуб, а яшчэ вышэй—Хрыстос, што пакінуў гэтую грэшную зямлю. У правым верхнім куце—яшчэ не народжанае дзіця, эмбрыён ва ўлонні маці (крыніца—вядомы амерыканскі фотаздымак). Адсюль, праз усю карціну, працягнуты па дыяганалі калючы дрот, сімвал зла, на якім сядзіць арол нацызму,—шлях, пройдзены намі ў XX стагоддзі. «Гэты дрот,—гаворыць Глазуноў,—як нерв нашага часу, павінен нагадаць... аб незлічоных ахвярах нашых лагераў».

Можна доўга стаяць ля палатна і пазнаваць знаёмыя вобразы. Такое ўражанне, быццам мастак стараўся не забыць ніводзін вядомы твар XX стагоддзя, далучыўшы да іх... аголеную красуню, якая прадае сваё цела і прыгажосць. Вось, маўляў, якое цынічнае стагоддзе нам дасталося...

І што гэта ўсё азначае? Перш чым адказаць на гэта пытанне, зірнём на другое, такое ж грандыёзнае палатно. Яно створана Глазуновым да 1000-годдзя хрышчэння Русі, мае назву «Вечная Расія». І пабудавана па тым жа «рэжысёрскім» прынцыпе.

Зноў Сталін, толькі жывы, імчыцца на рускай птушцытройцы; побач Троцкі з царскай каронай, паднятай над галавой, гарманіст і Паўлік Марозаў, зноў ахвяры сталіншчыны... Зноў Ленін, толькі ў выглядзе скульптурнага помніка... І велізарнае распяцце Хрыста ў цэнтры карціны над адыходзячымі ў перспектыве шэрагамі гістарычных асоб. Гэтае гіганцкае шэсце, быццам хрэсны ход, бярэ пачатак ад Сафіі Канстанцінопальскай і Кіеўскай, ад Храма Пакрова на Нерлі і старажытных сцен Крамля.

Больш таго, у левай частцы Глазуноў вядзе нас яшчэ далей у глыбіню стагоддзяў, да каранёў паходжання славянскіх народаў.

Затаіўшы дыханне, глядач чытае гэты калейдаскоп: князь Уладзімір, Барыс і Глеб, Сергій Раданежскі, патрыярх Гермаген, Аляксандр Неўскі, Дзмітрый Данскі, рублеўская «Троіца», Пётр І, Багдан Хмяльніцкі, Кацярына II, Кутузаў, Пушкін, Дастаеўскі, Гогаль, Лермантаў, Чайкоўскі, Мусаргскі, зноў Сталыпін, Шаляпін, Дзягілеў... Пералічыць усіх— справа безнадзейная: персанажаў каля 300!

**Гледачу цікава. Яшчэ б — ідзе напружанае ўгадванне, своеасаблівая гульня — хто ёсць хто? Хто з кім? Чаму з гэтым, а не з тым? Чаму, скажам, Павел І аказаўся побач з Суворавым? Што, гэта новы погляд на гістарычную ролю няўдалага імператара як прагрэсіста насуперак агульнавядомым школьным стэрэатыпам? Ці проста мастацкая даніна факту існавання ў гісторыі сучасніка Суворава?**

**І яшчэ пытанні: чаму ў гістарычны шэраг Глазунова не ўпісаліся такія ключавыя для Расіі постаці, як Мендзялееў, А. Астроўскі, Цыялкоўскі, Бунін, Рахманінаў, Шастаковіч, Пракоф'еў, Пятроў-Водкін, Шолахаў, Твардоўскі, Курчатаў, Каралёў, Вавілаў, Эйзенштэйн? Можа, яны не падышлі рангам? Зрэшты, гэта асабісты клопат мастака.**

**Але ўзнікаюць іншыя пытанні, болей прынцыповыя. Напрыклад, чаму ў «Містэрыі XX стагоддзя» Хрушчоў намаляваны ў выглядзе блазна ці клоўна, які крыўляецца на ракеце з чаравікам у адной руцэ і катахамі кукурузы ў другой? Чаму Маякоўскі, быццам гангстэр з галівудскага баевіка, цэліцца ў гледача з кольта, а Эйнштэйн дражніць публіку высалапленым языком? Магчымая спасылка на фотаздымак вялікага вучонага будзе не пераканаўчай. Што азначаюць гэтыя дзіўныя знакі ў выглядзе пяціканцовых і шасціканцовых зорак на чырвоным фоне, на якім выступае Ленін? І чаму над труной Сталіна так ухмыляюцца Чэрчыль з Рузвельтам?**

Карацей кажучы, многія калажныя збудаванні ў абедзвюх карцінах ствараюць пры ўважлівым чытанні ўражанне прэтэнцыёзнасці і адкрытага кічу, быццам спецыяльна «сработанного»: з разлікам на сенсацыю, на эпатаж даверлівага і недасведчанага гледача. Няўжо ўсур'ёз можна прапаноўваць такі механічны пералік, набор вядомых падзей і імёнаў, часта скандальна-прыцягальных? Тут усё так прасякнута духам гэтага кічу, што пра сур'ёзныя, наватарскія пластычныя і кампазіцыйныя знаходкі, глыбокія псіхалагічныя даследаванні гаварыць цяжкавата.

Аднак трэба аддаць належнае смеласці Глазунова. Ён без усялякай збянтэжанасці можа ўзяцца за вырашэнне самых глабальных тэм. Добра ведаючы структуру і законы плакатнага мастацтва, ён выкарыстоўвае свой улюбёны публіцыстычны прыём у самых розных творах. І ў самым апошнім——таксама, ва «Уваскрашэнні Лазара». Я прымаю аўтарскую задуму: паказаць трывожны стан сучаснага свету, крызіс нашай зняверанай духоўнай культуры, якую неабходна ўратаваць, уваскрэсіць. Але добрая задума—гэта яшчэ не добры вынік. Не надта пераканаўчыя разумовыя плакатна-мантажныя канструкцыі, што паядноўваюць Хрыста і Лазара, Гарбачова і Рэйгана, піянера з газетай, калючы дрот і матылька на бетоннай пліце, асветленую полымем пажарышчаў пячору са старажытным мастацтвам і небаскробы...

У другой карціне «На складзе» мясная туша на круку і сякера побач з аблупленай царкоўнай фрэскай павінна, па задуме аўтара, выкрываць кашчунства XX стагоддзя. Але зноў жа—прэтэнцыёзнасць, банальнасць, падача ідэі «ў лоб» занадта кампраметуюць задуму.

У Рэрыха ёсць выраз, сэнс якога ў тым, што калі ты разбураеш стары храм, то толькі для таго, каб на яго аснове пабудаваць новы. Глазуноў у сваёй творчасці гаворыць, што сёння мы амаль разбурылі наш храм. А які будзем будаваць? Пытанне складанае. Адразу на яго не адказаць. Адно зразумела: сёння людзі расчараваліся ў ідэалах. У духоўнай культуры зеўрае пустэча. А прырода, у тым ліку і прырода грамадскага жыцця, як вядома, не церпіць пустэчы. Чым яе запоўніць? І Глазуноў запаўняе яе па-свойму: гістарычнымі і біблейскімі сюжэтамі, вобразамі прыгожых «незнаёмак», настальгічнымі пейзажамі «са значэннем», партрэтамі вядомых людзей (вельмі ўдалы партрэт В. Распуціна).

А каб яшчэ глыбей адчуць мастацкі і чалавечы вобраз Ільі Глазунова, вобраз складаны, супярэчлівы, сапраўды парадаксальны, прывяду некалькі яго асабістых выказванняў з розных нагод:

**«Я не маю ніякіх прывілей. Напрыклад, шэсць разоў мяне пракатвалі ў Акадэміі мастацтваў СССР. У мяне няма ніводнай дзяржаўнай прэміі, таму што гэта прэміі не дзяржавы, а пэўнай групы Саюза мастакоў, якая прысуджае прэміі»;**

**«Саюз мастакоў — гэта арганізацыя розных людзей, што проста ненавідзяць адзін аднаго... Ён патрэбен для тых, хто слабы, тых, хто гатовы выконваць «чего изволите», гэта значыць, служыць любой кан'юнктуры. Учора — цэнтралізму, сёння — авангардызму...»;**

**«Адраджэнне авангардызму сёння — гэта тупік... За 70 гадоў авангард даўно ўжо для многіх стаў ар'ергардам, ён адышоў у гісторыю...»;**

**«У мяне мільёнаў няма. Карціны прадаю праз салон на Смаленскай плошчы. Самая вялікая сума за партрэт — сем тысяч рублёў. Партрэт Індзіры Гандзі каштаваў шэсць тысяч...»;**

**«Я ўсё жыццё кіраваўся сваім сумленнем мастака»;**

**«Я хацеў бы, каб мастак прыносіў грамадству карысць, а не змагаўся за кавалачак пірага»;**

**«Тлумачу адсутнасць яркіх твораў злачынным імкненнем усё прывесці да чорнага квадрата Малевіча... Мы самі выклікалі раўнадушша ўсіх да таго, што ствараюць афіцыйныя і неафіцыйныя мастакі...»;**

**«...Адна паважаная газета піша, што тыя, хто не трапіў у ГУМ, ідуць на маю выстаўку. Мне хочацца задаць пытанне: чаму ў такім выпадку не ідуць на іншыя выстаўкі, іх жа многа?»;**

**«Наша крытыка — часцей за ўсё ўдар дубінкай па галаве іншадумца»;**

**«Я заўсёды быў і застаюся рускім чалавекам, савецкім грамадзянінам, патрыётам, інтэрнацыяналістам»;**

**«Пасля Сталіна, мне было 26 гадоў, першым, хто паказаў жыццё, якое яно ёсць, быў Ілья Глазуноў»;**

**«Талстой — прадстаўнік масонства. Ён экстракт буддызму»;**

**«Я люблю Сталыпіна, прэм'ер-міністра Мікалая II. Ён рабіў стаўку на моцных. Калі б яго рэформы былі праведзены, то ў Расіі не было б рэвалюцыі»;**

**«Сімвал нашай цывілізацыі Хрыстос, які пакінуў Зямлю, але невідочна прысутнічае ў імгле»;**

**«Мой родны горад — Санкт-Пецярбург»;**

**«Мая творчая пазіцыя выяўлена ў работах. На працягу 30 гадоў я заўсёды хацеў адлюстроўваць праўду, самасвядомасць народа. А ідэалам служыў высокі рэалізм. Мне чужыя абстрактная фарматворчасць, з аднаго боку, і фатаграфічны натуралізм—з другога...»**

Ну што ж, пасля таго, як глядач паглядзеў выстаўку народнага мастака СССР Ільі Глазунова, дадзім яму магчымасць самому пракаменціраваць гэтыя выказванні...

Барыс КРЭПАК.

# ЗАПіСКі
# АБ РАДЫЯЦЫі

(Пачатак на стар. 8—9).

●

Пакончыў жыццё самагубствам акадэмік Лягасаў... Чытаю яго пасмяротнае слова — артыкул у газеце «Праўда». Ён, Лягасаў, сапраўдны вучоны, працаваў усё лета на ўтаймаванні рэактара на Чарнобыльскай АЭС і, як відаць, не цярпеў дылетантаў у навуцы, псеўдавучоных. А яны праніклі і ў атамную навуку, уплывалі на будаўніцтва атамных электрастанцый, на развіццё атамнай энергетыкі. І некаторыя з іх ніякіх вывадаў не зрабілі і пасля чарнобыльскай аварыі, асталіся пры сваіх ранейшых пасадах і поглядах, трубяць, як і трубілі, пра атамную электраэнергію як самую танную. Вось каб усе выдаткі, што пайшлі, ды яшчэ і пойдуць, на ліквідацыю вынікаў аварыі Чарнобыльскай АЭС, зрабіць за кошт ведамства па атамнай энергетыцы! Тады б, можа, ўбачылі, якая танная гэтая электраэнергія...

●

**Самае страшнае, выяўляецца, не радыеактыўныя ёд, цэзій, а «гарачыя» часцінкі, што носяцца на забруджаных тэрыторыях у паветры. Калі хоць адна такая часцінка трапіць у лёгкія, чалавек памірае. І выратаваць яго ніяк нельга...**

**Як мала мы ведаем, што такое атамная энергія, гэты, як убівалі ў нашы галовы гадамі, «мірны» атам!**

●

Маці, прыехаўшы да мяне, расказвае, як здаюць у вёсцы «брудных» кароў, свіней. Калі не бяруць іх на базе ў Хойніках — вязуць у Мазыр, там не правяраюць. А хто не хоча гэта рабіць — дае ў «лапу» прыёмшчыку — ён і не мерае радыяцыі, а калі і мерае, дык на прыбор не глядзіць, падстаўляе яго да жывёлы для прыліку...

●

**Магілёўшчына засыпана радыенуклідамі не менш за Гомельшчыну. І пра гэта загаварылі ўжо на ўвесь голас. Нават газеты пачалі пісаць. Праўда, праз два гады пасля аварыі. Няўжо так ніхто і не адкажа за такую «сакрэтнасць»?..**

●

Зноў у рэспубліканскім друку — каторы ўжо раз! — вінавацяць пісьменнікаў, журналістаў, што яны «баламуцяць» людзей, падымаюць чарнобыльскую тэму. А як яе не падымаць, калі яна сама падымаецца, напамінае аб сабе. Вось што, напрыклад, піша намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкома У. Дзенісюк у сваім пісьме ў газету «Звязда»: «Мы дакладна ведаем стан кожнага дзіцяці ў раёне... Больш трэці дзяцей школьнага ўзросту маюць адхіленні ў здароўі: у 448-мі захворванні лёгкіх, у 342-х — сардэчна-сасудзістай сістэмы, у 144-х — нерваў; захворванні вуха, горла, носа — у 1236 дзяцей». Не лепшае становішча з захворваннямі дзяцей, ды і дарослых, і ў Брагінскім, Нараўлянскім раёнах, у «брудных» раёнах Магілёўскай вобласці. У бальніцах не хапае дактароў, лекаў. Кепска наладжана забеспячэнне самым неабходным, у тым ліку мылам, прадуктамі... Няма дазіметраў, мала трактароў з закрытымі кабінамі, машын для перавозкі харчавання... Няма лазняў, душавых на фермах... На сустрэчы ў Мінску ў Палацы прафсаюзаў з членамі Рэспубліканскай камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі Чарнобыльскай АЭС выявіліся і іншыя факты няўвагі і проста злачыннай абыякавасці некаторых кіраўнікоў да трагедыі народа...

●

**Дзіва дзіўнае дый годзе! На сустрэчы ў Палацы прафсаюзаў, у друку кіраўнікі розных ведамстваў пераконвалі людзей, што можна на забруджаных тэрыторыях атрымліваць практычна чыстыя прадукты. А прафесар БДУ імя Леніна Я. Пятраеў, выступаючы па радыё, аўтарытэтна сцвярджае, што гэта немагчыма нават у лабараторных умовах... Каму верыць—вучоным ці кіраўнікам?.. Пытанне надзвычай важнае для Беларусі, бо, як выявілася, засыпана радыенуклідамі пятая частка тэрыторыі рэспублікі, на якой жыве больш як паўмільёна людзей...**

●

Памёр К. Кірэенка. А я думаю — ці не паўплывала на яго здароўе тое, што ён, пайшоўшы на пенсію, падоўгу жыў у сваёй маці на засыпанай радыенуклідамі Слаўгарадчыне, хадзіў у лес, збіраў і, вядома ж, еў грыбы, ягады ды і ўсё, што там расце...

●

**Нарэшце, праз тры гады пасля аварыі, надрукавана карта, дзе і якія грыбы можна збіраць. Мае родныя мясціны ў першай зоне, куды, як сказана ў каментарыях, у лес «з кошыкам уваходзіць не трэба». Паўраспад цэзія-137 доўжыцца каля трыццаці трох гадоў... Значыцца, я больш ніколі ўжо не патрымаю ў руках, не з'ем ні баравіка, ні падасінавіка, ні грузда, ні рыжыка, ні якога іншага грыба са свайго лесу. А насіў жа іх калісьці кашалямі. І калі вучыўся ў школе, ды і потым. Бывала, падхопішся з пасцелі на досвітку, яшчэ на цямочку, — і ў лес. Ідзеш па аднаму табе вядомых сцежках, ад грыбовішча да грыбовішча. Збочыш у маладзы бярэзнік, потым — на хвойнік. Пашастаеш па ягадніку, верасу, выскачыш на дубняк — «дубіну», як у нас кажуць. І вядома ж, абтупаеш, аббяжыш граду, дзе растуць надзвычай прыгожыя, рэліктавыя баравікі з белым тоўстым коранем і чорнай, проста бархатнай шапкаю...**

**Дадому вяртаешся ў позняе снеданне. І, паставіўшы кашэль перад сабою, перабіраеш грыбы — адны сушыць, другія смажыць, трэція саліць. І зноў бачыш сябе ў лесе, успамінаеш, дзе якога грыба браў, як ён сядзеў, як ты яго шукаў...**

**Няўжо ўсяго гэтага я больш не спазнаю?..**

●

З грыбоў найбольш набіраюць радыяцыі махавік, гаварушка, масляк. З жывёльнага свету — вожык. З птушак — качка. З рыб — уюн, лінь, сом. Запісваю гэта для памяці.

●

**Новая «тэхналогія» атрымання чыстых прадуктаў... Прывозяць з забруджаных раёнаў «брудных» бычкоў, свіней, ставяць іх на чыстыя кармы месяцаў на тры — чатыры — і...**

**А ў выніку: забруджваецца тая мясцовасць, якая дагэтуль была параўнаўча чыстая, атручваемся мясам ад гэтых «чыстых» бычкоў і свіней усе мы, людзі...**

●

Супрацоўніца тэлебачання расказвае, як была яна ў Хойніках у першыя дні пасля аварыі, здымалі эвакуацыю людзей з засыпаных радыеактыўнымі часцінкамі вёсак...

— Як бы паглядзець тыя кадры? — прашу я.

— А іх няма, — апусціла вочы долу супрацоўніца. — Калі мы вярнуліся, кадры гэтыя былі ў нас забраны. Прывезлі размагнічаныя стужкі...

— Хто такі загад аддаў?

— Ды, відаць, тыя, хто забараніў гаварыць праўду пра памеры чарнобыльскай бяды, браўся без староннях дапамогі справіцца з гэтаю бядою ў Беларусі...

●

**На ліквідацыю чарнобыльскай аварыі пайшло нямала сродкаў. Але ці разумна яны выдаткаваны? Колькі патрачана грошай, ды і сіл, на дэзактывацыю тых месцаў, дзе яе не трэба было праводзіць, — нічога ж ані яна не дала, ды і даць не можа: змытыя радыеактыўныя часцінкі пераносяцца з месца на месца, само ж радыяцыйнае становішча не мяняецца. Дэзактывацыя — гэта хутчэй за ўсё чарговая паказуха. А будаўніцтва пасёлкаў, магазінаў там, дзе іх ніяк нельга было будаваць? Ды і на надбаўкі да зарплаты, якія назвалі ў народзе грабавыя, камандзіровачныя розныя, фактычна, на дадатковае апраменьванне людзей колькі страчана народных грошай і прадаўжаецца траціцца, хоць вядома ўсім, даказана вучонымі, што зямля, на якую выпалі радыеактыўныя часцінкі, не прыгодна для жыцця чалавека, а тым больш для сельскагаспадарчай дзейнасці...**

●

Памёр брат Коля. Што ж, да смярцей пачынаю прывыкаць, бо перад гэтым пахаваў бацьку і брата Паўла. Хоць і кажуць медыкі, што радыяцыя тут ні прычым, аднак жа за тры гады памерла меншая бацькава сястра, дзядзькава жонка... Няма і многіх-многіх суседзяў...

Дарога знаёмая мне. Ужо за Светлагорскам пачынае сохнуць у роце, пяршыць у горле, за Рэчыцай дзеравянее язык, быццам чужыя робяцца зубы... Напаўняецца цяжарам, баліць галава. Дзейнічае радыяцыя ці іншае што?

Развітанне з братам, провады пешкі праз усю вёску на могілкі. Апошнія словы, апошнія паклоны, пацалункі...

З могілак вяртаемся на машынах. Дома, у хаце — застолле. Багатае, вясковае. Смажанае ў печы мяса, жоўтыя, аж хрупасткія, дранікі, налеснікі, вараная капуста, крышані, студзень, розныя кашы... Есці ўсё гэта ці не?..

Суседкі, сеўшы за стол, пачынаюць расказваць, дзе і што ў каго баліць. Адна, выпіўшы чарку, прызнаецца, што была ў дачкі ў Гродне і праверылася — пацямненне ў лёгкіх і ў печані, тры язвы, хворыя ныркі... Словам, усё нутро хоць выкідай — «прапаліла» радыяцыя...

— Усе мы смяротнікі, хто тут жыве, — уздыхае жанчына.

І глядзіць на мяне, чакае, каб я сказаў што-небудзь вясёлае, абнадзеіў, супакоіў...

●

**Раней я ездзіў у сваю вёску, каб набрацца сіл, асвяжыць памяць, памаладзець душою, падужэць.**

**Цяпер пасля паездак дадому падоўгу хварэю. І фізічна, і маральна. Мілы, дарагі куточак — і яго атруцілі, так раптоўна адабралі яго ў мяне ды і ў многіх, хто нарадзіўся там, жыў...**

●

Вядома, як і большасць маіх землякоў, я сачу за ўсім, што адбываецца там, на радзіме, чытаю ўсё, што трапляе на вочы пра чарнобыльскую аварыю і звязаную з ёй бяду. Многія «прызнанні» некаторых надзеленых уладай асоб наводзяць мяне на сумны роздум. Вось хоць бы такія:

«Першая поўная карта бліжэйшага следу (да 100 км ад месца аварыі) была прадстаўлена Дзяржкамгідраметам СССР урадавай камісіі ўжо 2 мая 1986 года». А надрукавана ж карта, стала вядома грамадскасці толькі праз тры гады! І то — па цэзіі-137. А па іншых радыеактыўных элементах — а іх дзесяткі — калі будуць надрукаваны карты? Ці вось яшчэ адно «прызнанне»: «Найбольш магутныя выкіды радыеактыўных рэчываў з аварыйнага блока назіраліся ў першыя 2—3 сутак пасля аварыі ў паўночна-заходнім і паўночна-ўсходнім напрамку. Вышыня струменю 27 красавіка, паводле самалётных дадзеных, перавышала 1200 метраў». Чаму б, здавалася, тады не папярэдзіць аб гэтым людзей — маіх землякоў, каб яны не выходзілі на вуліцу, не працавалі ў полі, не загаралі? Адказны сакратар камісіі АН СССР па біясферных і экалагічных даследаваннях Я. Салаўёў пісаў у «Литературной газете» (5 ліпеня 1989 г.), што «дадзеныя па Чарнобылю, пачынаючы з моманту ўзнікнення аварыі, настойліва хаваліся ад насельніцтва. І па радыеактыўнасці, і па мерах забруджвання, і па канцэнтрацыі рэчываў». Хаваліся... А колькі чаго хаваецца і цяпер некаторымі асобамі, бо інакш не здзіўлялі б свет вучоныя мужы ад медыцыны такімі паведамленнямі, як: «у агульнай структуры захворванняў дарослага насельніцтва, якое падвергласяя радыяцыйнаму ўздзеянню, за тры гады значных змен не адбылося». Праўда, Ю. Шчарбак у «Литературной газете» сказаў, у чым тут справа: «На нядаўняй прэс-канферэнцыі ў Кіеве медыкі кляліся: былі, маўляў, звязаны па руках і нагах сакрэтнасцю. Падпіску ж давалі аб неразгалошванні дадзеных!» Не сакрэт — многае, што датычыць чарнобыльскай аварыі і звязаных з ёй падзей, і цяпер трымаецца ў сакрэце...

Не дзіўна, што ў большасці людзей, ды і ў мяне, няма ніякага даверу да афіцыйнай інфармацыі, якая датычыць чарнобыльскай бяды. Нават з'явіўся недавер і да вучоных з тытуламі, званнямі. Хоць сярод іх, вядома, ёсць і тыя, каму нельга не верыць. Вось што, напрыклад, пісаў нядаўна ў газеце «Вячэрні Мінск» народны дэпутат СССР, прафесар С. С. Шушкевіч: «Не навука, а сучасная лысенкаўшчына знайшла сваіх прадстаўнікоў з тытуламі і званнямі для выступленняў у прэсе з запэўненнямі, што жыць у забруджаных раёнах ледзь ці не лепш, чым адпачываць у здраўніцах Каўказа і Крыма. Не навука рэкамендавала будаваць новыя жылыя масівы ў зонах забруджвання і разбаўляць радыеактыўнае мяса чыстым для атрымання прымальнага ўзроўню радыеактыўнасці каўбасы...»

●

**Яшчэ адна смерць — памёр сакратар Гомельскага абкома В. А. Санчукоўскі — той самы В. А. Санчукоўскі, які займаўся адсяленнем жыхароў з 30-кіламетровай зоны — з Хойніцкага, Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў. Прычыну смерці не паведамілі... Мне аж не па сабе: седзячы ж у яго кабінеце і гледзячы на чырванашчокага каранастага здараўяка, я зайздросціў яго сіле, энергіі і такой рэдкай у наш час тактоўнасці, дапытлівасці, ветлівасці...**

**А гэта ж было ўсяго тры гады назад!..**

●

«На судзе ў Чарнобылі былі выдзелены яшчэ тры справы: адна — супраць праекціроўшчыкаў, другая — супраць тых, хто кіраваў ядзернай энергетыкай, трэцяя — супраць тых, хто не прыняў патрэбных мер па эвакуацыі і абароне насельніцтва. Ну, і дзе гэтыя справы? Яны паспяхова не адбыліся» («Аргументы и факты», 15—21 ліпеня 1989 г.).

●

**Нарэшце прызнана, што ў Беларусі не ўсё зроблена па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Групу народных дэпутатаў СССР прыняў Старшыня Савета Міністраў СССР М. І. Рыжкоў, выдзелены дадатковыя сродкі, прадукты, медыкаменты... На Першым экалагічным з'ездзе Беларусі адна кіраўнічая дама патрабавала забараніць пісаць і гаварыць пра чарнобыльскую бяду, бо, маўляў, «вопрос этот, благодаря своевременному вмешательству вышестоящих органов, полностью снят с повестки дня».**

**Як бы ўсе хацелі, каб гэтае пытанне сапраўды было знята з парадку дня. Але ж аднаго нашага жадання мала. Ёсць суровая, страшная рэчаіснасць, праўда, ад якой нікуды не дзенешся. Законы прыроды не падуладны загадам з кабінетаў начальнікаў нават самых высокіх рангаў. Трэба прывыкаць, што чарнобыльская бяда — не памяць, я хацеў сяго-таго пераканаць у сваім выступленні на З'ездзе народных дэпутатаў СССР адзін з народных дэпутатаў ад нашай рэспублікі, а боль, незагойная крывавая рана. Выпала ж на тэрыторыі рэспублікі столькі радыеактыўных рэчываў і яны так марудна распадаюцца, сеючы навокал сябе смерць, што іх хопіць і нам, і нашым дзецям, і ўнукам, праўнукам... І гэтыя рэчывы, як бы мы ні хацелі, забяруць свае ахвяры — чалавечыя жыцці. Ды ўжо часткова і забралі...**

**І найпершая, найгалоўнейшая задача — каб гэтых ахвяр было як мага менш. Да гэтага мы павінны імкнуцца, рабіць усё, што ў нашай сіле, змозе.**

1986—1989 гг.

P. S. Покрыва «сакрэтнасці», хоць і з недаравальна вялікім спазненнем, але, здаецца, знята з той бяды, якую нарабіла ў Беларусі чарнобыльская трагедыя. — Вярхоўны Савет БССР абмеркаваў гэтае пытанне на сваёй чарговай, адзінаццатай сесіі. Намечаны канкрэтныя меры, распрацавана доўгатэрміновая праграма ліквідацыі вынікаў гэтай самай страшнай у гісторыі чалавецтва аварыі. Што ж, як кажуць, з богам — у добры час! Будзем спадзявацца і верыць: з дапамогай людзей нам удасца справіцца і з гэтым яшчэ адным нялёгкім выпрабаваннем, якое выпала на долю нашага шматпакутнага народа.

Але гэта — новыя старонкі дзённіка — «Запісак аб радыяцыі».

# МЫ — НЕ ВЫКЛЮЧЭННЕ

(Пачатак на стар. 5).

**набытку чалавецтва» (Культуры, 1982, № 1—2, с. 291). Гэта ўжо даўно зразумелі людзі ў найбольш цывілізаваных краінах, дзе, як пішуць даследчыкі, узніклі новыя адносіны да моў і культур, новая этыка, якая патрабуе павагі да іншых культур і дапамогі нацыянальным меншасцям у іх барацьбе за выжыванне.**

**На жаль, гэтая новая этыка яшчэ не зрабілася ўсеагульнай у нас, пра што сведчыць і публікацыя ў газеце «Вячэрні Мінск» за 31 ліпеня 1989 г. У артыкуле «Суграмадзяне», надрукаваным на спецыяльнай «беларускай» старонцы і ў рускім варыянце газеты, заклікаанай прапагандаваць беларускую мову і культуру. Аспірант Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага С. Мацюнін, ужо не выкарыстоўваючы эўфемізм «савецкі», бласлаўляе русіфікацыю насельніцтва ў г. Мінску наступнымі словамі: «Не трэба баяцца гэтага слова — «русіфікацыя». Мы проста прывыклі ўкладваць у гэтыя словы адмоўны падтэкст, на самай жа справе яны азначаюць як аб'ектыўна існуючыя, так і тыя працэсы, што адбываюцца. А адмоўнае значэнне для насельніцтва яны набываюць у тым выпадку, калі праводзяцца насільна, супраць волі народа».**

**Гэты заклік да добраахвотнай асіміляцыі, пад які падводзіцца «навуковая» база, служыць усё той жа запаветнай мэце зліцця моў, нацый, культур, якая пярэчыць выпакутаванай чалавецтвам ідэі аб самакаштоўнасці кожнай мовы, культуры, нацыі, народа, незалежна — вялікага ці малога. Больш таго, аўтар артыкула ўпэўнены, што беларусам наканавана стаць першай добраахвотнай ахвярай на шляху дасягнення гэтай мэты, бо «беларусы з-за некаторых гістарычных, лінгвістычных прычын значна хутчэй у параўнанні з іншымі славянскімі народамі падвяргаюцца асіміляцыі».**

**Што датычыць добраахвотнасці, то тут варта прывесці выказванне выдатнага ўкраінскага і рускага моваведа А. Патабні, якое працытаваў у адным з апошніх нумароў «Литературной газеты» П. Моўчан: «Люди, по правилу добровольно не отказываются от своего языка, между прочим, в силу бессознательного страха перед опустошением сознания». Трэба думаць, што і беларусы не з'яўляюцца выключэннем з гэтага правіла. Аб тым, якія падзеі 30-х гадоў паклалі пачатак «ненасільнай» асіміляцыі ў Беларусі, аспірант С. Мацюнін з-за сваёй маладосці можа і не ведаць, аднак пазіцыя больш сталых векам рэдактараў нашых паважаных газет, якія ўзяліся на сваіх старонках падымаць прэстыж беларускай мовы і змагацца з нацыянальным нігілізмам пры дапамозе такіх публікацый, застаецца няяснай.**

**Генадзь ЦЫХУН,**
**доктар філалагічных навук.**
г. Мінск.

## Музыка

# МАСТАЦТВА НЕ ЦЕРПІЦЬ РАЎНАДУШНЫХ

ГАВОРКА будзе пра жанр пакуль што малапапулярны ў нашай краіне, жанр спецыфічны, пазначаны навізною. На яго нядаўна звярнула ўвагу Беларускае тэлебачанне, паказаўшы прэм'еру ансамбля ўдарных інструментаў, які арганізаваў артыст аркестра Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР У. Судноўскі. Удала падабраны і прапанаваны слухачам рэпертуар, мне здаецца, аднолькава мог зацікавіць як музыкантаў, так і проста аматараў. І, думаецца, чытачам «ЛіМа» цікавей будзе не падрабязны аналіз выканаўчых дэталяў, а размова з нагоды гэтага канцэрта.

Падкрэслю вялікую ўвагу і разуменне праблемы папулярызацыі ўдарных інструментаў супрацоўнікамі тэлебачання, якія падрыхтавалі перадачу. Справа ў тым, што на сённяшні дзень аб'яднанне музыкантаў-ударнікаў у самастойны выканаўчы калектыў з'ява не простая, не ардынарная. У нашай рэспубліцы нямала разнастайных ансамбляў, пераважна народных і эстрадных, таму можа ўзнікнуць пэўная блытаніна, калі новы калектыў будзе вызначаны як яшчэ адзін сярод наяўных. Ударныя інструменты да апошняга часу адносіліся выключна да аркестравых, дзе яны аб'яднаны ў адну асобную факультатыўную групу. Да 1980 года яны нават не значыліся ў «партытуры» ўсесаюзных і міжрэспубліканскіх конкурсаў. Цяпер ударныя ўключаны ў конкурсныя спаборніцтвы на роўных з іншымі, і гэта знак складанага эвалюцыйнага працэсу развіцця выканальніцтва на ўдарных інструментах.

Вось і наш новы ансамбль паказаў, што на ўдарных інструментах іграюць, а не грукаюць і барабаняць, як многія лічаць. На жаль, надзвычайная папулярнасць вялікага і малога барабанаў і талерак прыкметна зацяніла выразныя магчымасці астатніх інструментаў гэтага сямейства. Якіх? Усе пералічыць не так проста, але асноўныя, якія мы чуем і бачым у сімфанічным аркестры, можна прыгадаць. Гэта літаўры, ксілафон, вібрафон, марымба, званы, глёкі, тамтамы рознай велічыні, трохкутнік. Ёсць яшчэ шмат іншых, са сваёй назвай і асаблівым прызначэннем. Кожны, хто сур'ёзна прысвяціў сябе ігры на ўдарных, павінен аднолькава ўмела валодаць кожным з іх, што, зразумела, куды больш складана за ігру на адным вялікім барабане... Уся гэтая інфармацыя і выяўляе, і аргументуе адрозненне арганізацыі і існавання ансамбля ўдарных ад усіх астатніх суполак, — як калектыву акадэмічнага напрамку. А гэта абавязкова вымагае высокага прафесіяналізму творчай працы.

Ансамбль пад кіраўніцтвам У. Судноўскага нарадзіўся не адразу. Першы раз музыканты паспрабавалі свае сілы ў рамках Клуба сяброў оперы, калі спатрэбілася прадстаўляць інструменты сімфанічнага аркестра. Тады ж і выявілася шмат праблем. Бадай, ударнікі больш за іншых адчуваюць недахоп дыхтоўнага, класнага інструментарыя. Многія неабходныя прыстасаванні і нават асобныя дробныя інструменты яны вырабляюць самі. Не так проста, як думалася, было сабрацца разам на рэпетыцыі, на якія застаецца небагата вольнага часу пры значнай занятасці аркестрантаў нашага тэатра... І ўсё ж праграма была падрыхтавана і выдатна выканана.

Мо трэба было б больш падрабязна закрануць арганізацыйныя складанасці, каб яшчэ болей падкрэсліць значэнне ініцыятыўнай дзейнасці У. Судноўскага—без аніякай небяспекі перахваліць яго. Чамусьці як норма ўспрымаецца ў нас пасіўнасць добрых пачуццяў. Абыякавае «ну, дык што?» робіцца вельмі характэрным. Нас ўсё цяжэй чым-небудзь здзівіць. І зусім не таму, што мы ўжо ўсё ведаем. Відаць, нейкія больш глыбокія і складаныя прычыны ў тым, што не хапае многім з нас дзейснага жадання выказаць добрае слова, звярнуць увагу, падзяліцца пачуццямі...

Дык чаму я надаю такое вялікае значэнне гэтай быццам бы малапрыкметнай музычнай падзеі?

Звернемся да гісторыі ансамблевага выканальніцтва на ўдарных інструментах. Не, у бібліятэцы вы не знойдзеце адпаведнай кніжкі—яна яшчэ не напісана, але гісторыя ўжо існуе. Многія музыканты ведаюць ансамбль ударных інструментаў Вялікага тэатра СССР пад кіраўніцтвам В. Грышына. Таленавіты прафесіянал, ён на працягу доўгіх гадоў служыць гэтай новай у музычным мастацтве справе, не толькі робіць пералажэнні, аранжыроўкі, але шмат піша сам для ансамбля. Не так даўно ўтварыўся аналагічны калектыў і ў Ленінградзе. Па філарманічных канцэртах мінчане ведаюць ансамбль ударных інструментаў з Масквы пад кіраўніцтвам М. Пякарскага, які выконвае пераважна сучасныя творы і выразна дапаўняе нашы ўяўленні пра выяўленчыя, мастацкія магчымасці такіх ансамбляў. Між іншым, ансамблі ўдарных інструментаў досыць распаўсюджаныя і папулярныя за мяжой, прынамсі, у братніх сацыялістычных краінах, але ведаем мы пра іх мала.

Вось чаму варты самага добрага слова новы беларускі калектыў. Я, на жаль, не маю канкрэтнай праграмы, якая б дзейсна дапамагала дэбютантам. Але мне здаецца, што калі б прапагандзе музычных інструментаў надавалася больш увагі і была б сапраўдная зацікаўленасць у тых, хто за гэта адказвае як за частку праграмы, якую неабходна выканаць, дык... Дык за ансамбль ударных ухапіліся б абедзвюма рукамі і дапамаглі б ладзіць канцэрты, рэкламу і інш. Зберагчы, падтрымаць калектыў, узгадаваны на роднай творчай ніве, неабходна: інакш калектыў пачне гінуць. Не хацелася б трывожыць нашых музыказнаўцаў, але для вырашэння закранутых праблем выканальніцтва патрэбны не так адміністрацыйныя захады, як абгрунтаваныя прапановы. А менавіта музыказнаўцамі напісана шмат аб'ёмных навуковых прац пра развіццё беларускай музычнай творчасці і да т. п., толькі вось вынікаў грунтоўнага даследавання драматычнага становішча ў выканальніцтве нешта не адчуваецца.

Усе мы адчуваем, што нечага нам не хапае ў «музычнай вытворчасці», усё часцей гаворым пра незапоўненыя залы на сімфанічных канцэртах і оперных спектаклях, быццам баючыся прызнацца, што ёсць прыемныя «выключэнні з правіла», накшталт колішняга канцэрта вакалістаў—лаўрэатаў міжнародных конкурсаў ці канцэртаў Марыі Гулегінай, напрыклад. Успомніўшы і іншыя «выключэнні», мы абавязкова заўважаем, што залы пустуюць па прычыне недахопу жывога творчага гучання музыкі. Вядома, ёсць і іншыя аспекты гэтай праблемы, і я ні ў якім разе не хачу крыўдзіць пачуцці тых, хто аддае мастацтву ўсе свае сілы, талент. Так, амаль у кожным жанры мы маем музыкантаў высокага класа, але ж агульнае становішча выканальніцтва, як гаворыцца, не на ўзроўні. Чамусьці не надта верыцца, што вінаватыя тут аб'ектыўныя ўмовы і таму нічога нельга паправіць. Можа, каму-небудзь і лацвей, калі мы вінавацім аб'ектыўнасць. Але ці спрабавалі мы па-сапраўднаму, мэтанакіравана, усім супольна і адначасова наваліцца і ўскалыхнуць застаялае, звыклае? Я ўпэўнены, што жывая музыка, якой не хапае нашым слухачам, музыка на ўзроўні Мастацтва не церпіць людзей раўнадушных—яна гіне, калі яе акружаюць такія людзі.

Дазволю сабе дапусціць, што менавіта такія падзеі, як з'яўленне ансамбля ўдарных інструментаў, ламаюць стэрэатыпную думку, быццам высокапрафесійныя музыканты—гэта абавязкова значыць маскоўскія ці ленінградскія. На жаль, склалася завядзёнка, калі лёс таленавітага выканаўцы вырашаюць не ягоны прафесіяналізм, а розныя дэталі сацыяльнага плана: прапіска, сямейнае становішча і г. д. Пры такой завядзёнцы яшчэ ці хутка мы даможамся жаданых вынікаў у выканальніцтве? Не без шкадавання мы ўспамінаем многіх ураджэнцаў Беларусі, выканаўцаў, якія сёння паспяхова працуюць у Маскве, у Ленінградзе,—колішніх студэнтаў тамтэйшых кансерваторый, якія не захацелі вяртацца на Беларусь. Але ж У. Судноўскі музыкант такога класа, які цалкам адпавядае ўзроўню лепшых савецкіх аркестравых калектываў. Прыняты ў аркестр ДАВТа БССР яшчэ студэнтам першага курса БДК, ён вырас у сталага і сур'ёзнага прафесіянала. Наколькі ведаю, вабіла яго і сольнае выканальніцтва. Калі вучыўся ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве, ніводны канцэрт не праходзіў без яго ўдзелу. Такі ж актыўны быў у кансерваторыі, не «астыў» і пасля яе заканчэння — наадварот, здолеў зацікавіць свайго калегу па рабоце І. Аўдзеева, а таксама студэнтаў Д. Грушэўскага, С. Лазарэнку, Д. Кліменку, Б. Вальковіча. З задавальненнем удзельнічалі ў канцэрце ансамбля лаўрэат Усесаюзнага конкурсу валтарніст А. Акімаў і піяністка Т. Самойлава, якая доўгі час працуе канцэртмайстрам у класе ўдарных БДК.

Назіраючы за ўдзельнікамі ансамбля, нельга не прыкмеціць, што стараннасць ігры аздоблена нейкай найвышэйшай выканаўчай асалодай, поўнай жадання тварыць жывую музыку, жыць ёю, беражліва даносячы да слухачоў. Па ўсім відаць, што ансамблевая музыка для ўдарных — не часовае захапленне У. Судноўскага. Усе выкананыя творы ён аранжыраваў сам, без кампазітарскай дапамогі. Шматгадзінныя штодзённыя яго заняткі, якія я маю магчымасць назіраць, пацвярджаюць, што ансамбль — гэта для У. Судноўскага частка прафесіі. Застаецца пажадаць, каб збываліся творчыя мары нераўнадушных людзей, якія дораць нам чароўную жывую Музыку!

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра**
**ДАВТа БССР.**



## Мартыралог Беларусі: імёны і факты

# УСПОМНІЦЬ УСІХ

У НЕВЯЛІЧКАЙ вёсачцы Барсукі, што згубілася ў лясных масівах Лепельшчыны, у 1937 годзе пачало рабіцца штосьці незразумелае. З новага года даволі часта наведвалася ў калгас, ноччу, чорная машына і забірала калгаснікаў. Першымі ахвярамі сталі жыхары хутара Барок. Хачу пералічыць іх пайменна:

**Цяліца** Іосіф Францавіч. Калгасны конюх. У сям'і было шасцёра дзяцей. Абвінавацілі ў шкодніцтве: быццам бы набіваў цвікі ў хамуты. Рэабілітавалі ў 1938 годзе, але ж дамоў не адпусцілі. Паведамілі, што памёр у Аршанскай турме.

**Цяліца** Карл Францавіч. Працаваў у калгасе на розных работах. У сям'і было чацвёра дзяцей. Абвінавацілі ў антысавецкай прапагандзе. Ніхто не ведае, дзе загінуў. Дзеці помняць, як забіралі бацьку, як беглі за машынай і прасілі «дзядзечак» адпусціць татку.

**Цяліца** Юльян Францавіч. Пастух. Абвінавачваўся ў пераходзе граніцы. Меў траіх дзяцей. Загінуў без звестак.

**Занько** Антаніна Іосіфаўна. Працавала ў калгасе, была членам сельскага Савета. Абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі. Сыну на той час было два гады, але арышт маці запомніў на ўсё жыццё. Загінула без звестак.

**Куноўскі** Вінцэсь Лявонавіч. Працаваў у калгасе. Арыштавалі першага студзеня 1937 года. Рэабілітаваны 26 сакавіка 1959 года «за недоказанностью». Загінуў без звестак.

**Гілеўскі** Эдуард. Удзельнік грамадзянскай вайны, быў паранены. У калгас не ўступаў. Дзяцей не меў. Загінуў без звестак.

**Будрэвіч** Вікенцій Адольфавіч. Працаваў у Лепелі майстрам на цагельным заводзе. У сям'і было чацвёра дзяцей. Сасланы ў Казахстан разам з сям'ёй.

З другіх хутароў былі арыштаваны:

**Урбан** Лаўрэн Сцяпанавіч. Калгаснік. У сям'і было чацвёра дзяцей. Загінуў без звестак.

**Урбан** Гаўрыла Іванавіч. Калгаснік. Быў рэпрэсіраваны. Вярнуўся дамоў цераз паўгода.

**Прывада** Мікалай Лазаравіч. Арыштавалі замест Прывады Мікалая Міронавіча (па даносу), але ўсё роўна не адпусцілі, так і загінуў дзесьці.

**Куноўскі** Вячаслаў Лявонавіч. Працаваў у калгасе, засталося дома трое дзяцей. Жонка з гора звар'яцела, пазней загінула ад нямецкай кулі. Дзяцей гадавала родная цётка —Куноўская Эмілія Людвігаўна. Пасля вайны гадаваліся ў дзіцячым доме.

**Казлоўскі** Франц Іванавіч. Калгаснік. Арыштаваны 13 лютага 1937 года, рэабілітаваны ў 1959 годзе. Без бацькі раслі і гадаваліся шасцёра дзяцей. Загінуў без звестак.

**Будрэвіч Альжбета.** Паўтара года правяла ў Аршанскай турме.

**Буевіч Антон.** Высланы з усёй сям'ёй. Дачка Юзя збегла па дарозе, вярнулася дамоў і далей жыла пад прозвішчам і з дакументамі памёршай жонкі брата. Лёс сям'і невядомы.

**Маліноўскі Адольф.** Арыштаваны разам з сястрой-калекай Антосяй. Лёс іх невядомы.

**Закрэўскі** Браніслаў. Высланы з усёй сям'ёй (7 чалавек). Лёс іх невядомы. Казалі людзі, што з усёй сям'і засталася адна дзяўчынка.

У 1937 годзе ў калгасе імя Варашылава было каля 200 чалавек. Рэпрэсіравалі 38—18 працэнтаў ад усіх жыхароў. Большасць з іх загінулі. І зямля, застаўшыся без гаспадароў, запусцела, пад пасевамі засталося менш палавіны. Рэшта зарасла лесам, забалацілася.

Як жа склаўся лёс дзяцей бязвінна загінуўшых? Ніхто з іх не здрадзіў Радзіме, не затаіў злосці на Савецкую ўладу, нікому не помсціў. Так, сын І. Цяліцы Адольф быў кулямётчыкам у партызанскім атрадзе Керніча. Загінуў у начным баі дзесьці каля Расонаў. Сын В. Куноўскага Юзік ваяваў на фронце, быў паранены, мае баявыя ўзнагароды. Сын В. Будрэвіча Станіслаў загінуў на фронце смерцю храбрых. Такі ж лёс напаткаў сына М. Прывады Мірона і сына Л. Урбана Паўла. Сын Ф. Казлоўскага Вячаслаў малалеткам пайшоў у партызанскі атрад, потым ваяваў на фронце, мае баявыя ўзнагароды.

У сувязі з гэтым нельга не сказаць, як мала зрабілі мы для таго, каб ушанаваць памяць бязвінных ахвяр сталінізму, вярнуць хоць маленькі шматок справядлівасці.

Неяк у райкоме я даведаўся, што камісія па рэабілітацыі ахвяр сталінскага генацыду падала матэрыялы на трох чалавек — членаў партыі. У раёне ж за тыя гады загінулі сотні, а можа, і тысячы людзей. Дык чаму ж мы так марудна праводзім рэабілітацыю? Каму патрэбна расцягваць гэтую справу на доўгія вякі? Нават прапраўнукі не дачакаюцца рэабілітацыі сваіх продкаў. Прапаную да канца гэтага года зрабіць пайменныя спісы з усіх вёсак і гарадоў, пабудаваць жалобныя курганы ці стэлы на мясцовых могілках, пазначыць там імёны сталінскіх ахвяр.

Трэба правесці суд, можа, нават міжнародны, над самой сталіншчынай, кваліфікаваць сістэму сталінізму як злачынства супраць чалавецтва.

**А. ШУНЕВІЧ,**
**вучоны аграном-эканаміст.**
г. Лепель.

прынцыпе розніца — 41 тысяча ці 42?..

Паводле дакументаў Мінскага гарадского савета ветэранаў вайны і працы, зараз у Мінску налічваецца 40971 ветэран вайны.

Такім чынам, пяць крыніц — і пяць розных звестак. Прычым, адрозненні не дробязныя, размах «амплітуды ваганняў» лічбаў ашаламляльны — ад 27357 да 47820...

**Надумаўся зрабіць апошнюю спробу высветліць таямнічую лічбу — сабраць звесткі ў райваенкаматах горада. Наведаў усе дзевяць камісарыятаў. Гутарыў з ваенкомамі ці іх намеснікамі. Па іх камандах атрымаў дадзеныя і суміраваў: 31068 ветэранаў вайны цяпер у Мінску...**

**Дык якую ж лічбу прыняць за сапраўдную? Чаму такая разбежка ў паведамленнях нібыта кампетэнтных, адказных устаноў і інстанцый?**

**Як на маю думку, дык адказ на гэтыя пытанні зусім просты, будзённы — справа ў звычайнай абыякавасці адпаведных таварышаў з адпаведных устаноў да таго, чым яны займаюцца, што ім належыць рабіць і па абавязку службы, і па абавязку сумленняў. Можа, сёй-той з іх як след проста не ўяўляе, дзе працуе, што яму даверана. А можа, і маральныя крытэрыі ў сяго-таго здатныя часам хібіць, тады і пачынаецца з лёгкасцю надзвычайнай маніпуліраванне тысячамі людскіх жыццяў: пару тысяч туды, пару сюды — ну, што тут асаблівага, нічога ж не здарыцца...**

ТАК ЦІХАМІРНА год за годам плыве жыццё ў тых установах, а само сабой плыве жыццё іх, так сказаць, падапечных, людзей, якіх службоўцы павінны заўжды трымаць у сваім полі зроку. Але як ім, службоўцам, трымаць гэтых людзей у сваім полі зроку, калі яны нават не ведаюць, колькі іх было і колькі цяпер? Таму і гатовы шпурляць тысячы чалавечых адзінак то налева, то направа. Дзе ўжо тут да пэўнага людскога лёсу, да канкрэтнага небаракі-чалавека, — іх жа яшчэ вунь колькі, нават злічыць ніяк не можам...

А злічыць трэба. Абавязкова! Не акругляючы — ні сотнямі, ні дзесяткамі, ні, вядома ж, стаўшымі ўжо для сяго-таго звыклымі тысячамі. З дакладнасцю да чалавека, бо кожная ж чалавечая адзінка — чалавек! А ў дадзеным выпадку — і не вельмі звычайны: яму было наканавана прайсці праз пякельныя выпрабаванні Вялікай Айчыннай.

Іх, ветэранаў вайны, на сённяшні дзень засталося не так ужо і шмат. Вядома, што векапомная Перамога, да якой мы ішлі 1418 дзён і начэй, здабыта была надзвычай дарагой цаной. Да прыкладу, з сотні воінаў пакалення 1922—1925 гадоў дамоў вярнуліся толькі тры (гэтае пакаленне так і назвалі — загінуўшае). Ці ўсе цяпер жывенькія з той тройкі ўцалелых праз амаль чатыры з паловай дзесяткі гадоў, як скончылася вайна? Час няўмольны быў і да гэтых ледзь не самых маладзенькіх ветэранаў. Тым болей няўмольны ён быў да значна старэйшых былых воінаў — з кожным годам няшчадна знімае з іх радоў усё большую і большую даніну, неміласэрна вынішчаючы колішніх франтавікоў і партызан.

Але ж гэта — жорсткі, непадуладны нам закон жыцця, закон прыроды, супраць яго мы бездапаможныя. А ці не спрыяем мы гэтаму бязлітаснаму закону, ці міжволі не садзейнічаем яму, калі чалавеку ў вельмі шаноўных гадах то тут, то там робім непрыемнасці, псуём настрой і нервы, даводзім да стрэсавага стану, выбіваем з нармальнай жыццёвай каляіны?..

Тыя заключныя гадочкі, што лёсам адведзена пратупаць сённяшнім ветэранам вайны (у кожнага свае, але ва ўсіх не так ужо і доўгія), няхай будуць па магчымасці светлымі і шчаснымі, напоўненымі людской радасцю і дабрынёю, чалавечай цеплынёй.

Яны гэтага заслужылі.

● ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# УСЕ МЫ НАВІЧКІ Ў ШКОЛЕ ГАЛОСНАСЦІ

**Адказ невядомаму «лімаўцу» на яго рэпліку, змешчаную ў нумары за 18 жніўня («Лісты са Смаргоні, Гомеля і «Пісьмо з Прыбалтыкі»)**

Паважаны калега! Вельмі спадзяюся, што гэты адказ не згубіцца ў вашым рэдакцыйным партфелі, як пісьмо з Прыбалтыкі, якое не выклікала ў вас даверу і таму вы так і не рашыліся паставіць яго на газетную паласу. Што ж, гэта права любой рэдакцыі — публікаваць або адхіліць той ці іншы матэрыял. Але пагадзіцеся і вы, што, па-першае, для гэтага трэба мець больш-менш сур'ёзныя падставы, а па-другое, не зусім этычна — абурацца толькі тым, што гэты матэрыял надрукавалі іншыя сродкі масавай інфармацыі.

Прызнацца, сам тон пісьма з Прыбалтыкі, якое БЕЛТА, у адпаведнасці з выказанай у ім просьбай, перадало газетам, нам таксама не зусім спадабаўся. Але ж ці можна толькі за гэта пазбаўляць людзей іх права на галоснасць? Дарэчы, тон працытаванага вамі ліста з Гомеля не менш «катэгарычны, безапеляцыйны, асуджальна-выкрывальны, падчас крыклівы», чым пісьма з Прыбалтыкі. Так што, мяркуем, не ў тоне справа. Дык у чым жа?

На жаль, аргументаванага адказу на гэтае пытанне ў вашай рэпліцы няма. Не лічыць жа аргументам тое, што адпраўлена пісьмо не арыгіналам, а ксеракопіяй. Зразумела, што не толькі ў адрас «ЛіМа» і БЕЛТА той ліст адпраўляўся, а і ў іншыя сродкі масавай інфармацыі. Што датычыць Смаргоні, то ці так гэта важна — у якім горадзе апусцілі пісьмо ў паштовую скрынку? Важней, думаецца, другое — пад тым тэкстам сталі подпісы не аднаго, а ста дзесяці канкрэтных адпраўшчыкаў — амаль усе, дарэчы, з дамашнімі адрасамі. Можна было б, калі ўжо ў рэдакцыі і ўзнік недавер, з любым з іх сустрэцца, удакладніць пазіцыі.

Між іншым, менавіта так і зрабіла рэдакцыя «Советской Белоруссии» (гл. нумар за 15 жніўня), у якой, магчыма, таксама з'явіліся сумненні. Яна накіравала ў Вільнюс сваіх карэспандэнтаў, якія сустрэліся з адным са ста дзесяці беларусаў, падпісаўшых пісьмо,— работнікам гарадской тэлефоннай станцыі Міхаілам Рабаконем. Ён не толькі пацвердзіў прыведзеныя ў ім факты, але прывёў і іншыя. Так што газета, у адрозненне ад «ЛіМа», і сама пераканалася, што гэта не чарговы «белтаўскі залп», што не ў кабінеце тое пісьмо «сачынілі», і сваім чытачам аб гэтым паведаміла.

І апошняе — што вымусіла ўзяцца за гэты адказ «лімаўцу»? У школе галоснасці мы ўсе пакуль што навічкі. Але ці не здаецца вам, паважаны калега, што пара ўжо нам засвоіць першы ўрок гэтай вучобы — права на выказванне свайго погляду на тыя ці іншыя падзеі павінен мець не толькі тав. Булачкін з Гомеля, а кожны? Незалежна ад таго, спадабаецца яго пазіцыя рэдакцыі ці не.

**А. ПРАНІШНІКАЎ,**
**намеснік дырэктара БЕЛТА.**

● ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# ПАМІЖ НАМІ, ПРАФЕСІЯНАЛАМІ...

**Намесніку дырэктара БЕЛТА тав. А. Пранішнікаву**

**Паважаны калега! Ваш адказ, як бачыце, не згубіўся ў нашым рэдакцыйным партфелі. Даверымся цяпер чытачам — яны маюць магчымасць параўнаць напісанае Вамі з маёй рэплікай у мінулым нумары. І самастойна меркаваць, ці то БЕЛТА дало «залп», ці то «ЛіМ» — «асечку»...**

**Разам з тым, хацелася б адвесці адзін закід, зроблены ў вашым увогуле вельмі тактоўным лісце. Вы папракаеце нас за тое, што, не змясціўшы «Пісьмо з Прыбалтыкі», мы нібыта «пазбавілі людзей іх права на галоснасць». Выбачайце, паважаны калега, але ў дадзеным выпадку Вы яўна перабольшваеце магчымасці нашай газеты як бар'ера на шляху развіцця грамадскай думкі. Па-першае, нумар «ЛіМа» выйшаў ПАСЛЯ таго, як права на галоснасць аўтарамі «Пісьма...» было ўжо выкарыстана ў поўнай меры. Па-другое, калі Вы ўважліва чыталі маю рэпліку, то не *маглі не адзначыць, што ў ёй* галоўная думка і пафас звароту ста дзесяці вільнюскіх беларусаў пададзены без скажэнняў.**

**І апошняе — паміж намі, прафесіяналамі. У сваім адказе Вы (мабыць, незнарок) паменшылі ранг установы, якую прадстаўляеце, — урадавага інфармацыйнага агенцтва. «...БЕЛТА, у адпаведнасці з выказанай у ім (пісьме. — Л.) просьбай, перадало газетам...» Аказваецца, усё так проста...**

**А наконт урокаў «у школе галоснасці» Вы пішаце надзвычай слушна. Сапраўды, права выказаць свой погляд мае кожны, у тым ліку і чытач «ЛіМа» гамяльчанін А. Булачкін.**

**З павагай і спадзяваннямі на плённае супрацоўніцтва —**

**ЛІМАВЕЦ.**

**«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ, ЯКІ ВЫНІК**

**У нумары «ЛіМа» за 14 ліпеня ў матэрыяле «Беларуская АЭС: ці пастаўлены кропкі над «і» журналіст С. Навумчык расказаў чытачам пра тое, што жыхароў Віцебшчыны не пакідае трывожная думка пра мяркуемае будаўніцтва атамнай электрастанцыі. І хоць прынята рашэнне аб спыненні вышукальных работ, усё ж віцябчане не заспакоіліся: машыны са свідравальнай тэхнікай бачылі ў Гарадоцкім раёне, а ў раёне возера Вымна члены віцебскай экалагічнай групы выявілі свежыя свідравіны. Трывога ўзрастае яшчэ і з той прычыны, што Беларуская АЭС, гаварылася ў лісце, фігуруе ў Энергетычнай праграме СССР. «Хацелася б пачуць, якія захады збіраецца рабіць урад рэспублікі, каб забяспечыць патрэбы народнай гаспадаркі, не прыбягаючы да паслуг атамнікаў? Якія энергазберагаючыя мерапрыемствы праводзяцца?» — ставіў пытанне аўтар.**

# ШТО НАМ ПІШУЦЬ З МІНІСТЭРСТВА

**Рэдакцыя атрымала адказ намесніка старшыні Дзяржплана БССР А. А. Баршча:**

«Па даручэнні Савета Міністраў БССР ад 17.VII.89 г. Дзяржплан БССР разгледзеў артыкул С. Навумчыка.

У сувязі са значным развіццём галін народнай гаспадаркі рэспублікі і асабліва сацыяльна-культурнага прызначэння ўзрастае патрэба і ў электрычнай энергіі. Магчымым варыянтам вырашэння праблемы забеспячэння электраэнергіяй спажыўцоў Беларусі меркавалася будаўніцтва Беларускай атамнай электрастанцыі ў Віцебскай вобласці.

Аднак улічваючы пярэчанні працоўных калектываў і грамадскасці вобласці супраць размяшчэння на яе тэрыторыі АЭС, урадам рэспублікі прынята рашэнне аб спыненні праектна-вышукальных работ у Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. З мэтай забеспячэння растучых патрэб у электраэнергіі і павышэння надзейнасці энергазабеспячэння спажыўцоў рэспублікі ў перспектыўным перыядзе вядзецца работа ў саюзных органах аб будаўніцтве ў БССР новай кандэнсацыйнай электрастанцыі на арганічным паліве».

**Што ж, Савет Міністраў даручыў, Дзяржплан разгледзеў, тав. А. А. Боршч адказаў... Толькі ці з'явіліся над «і» кропкі? Што ж, урэшце, гэта за свідравальныя машыны і з якой мэтай яны вандруюць па Віцебшчыне? У адказе пра гэта—ані слова...**

**У тым жа нумары «ЛіМа» была надрукавана нататка В. Лапціка «Безаблічнасць». У ёй наш карэспандэнт узняў праблему афармлення ярлыкоў на таварах нашых беларускіх прадпрыемстваў. Іменна безаблічнасць вылучае ўсе ярлыкі, бо нідзе не ўбачыш этыкеткі, напісанай па-беларуску. А ярлык на тавар — нібы візітная картка той рэспублікі, дзе ён зроблены.**

**Публікацыя В. Лапціка выклікала нямала лістоў, аўтары якіх палічылі слушнай пастаноўку праблемы. Адгукнуліся на публікацыю і два міністэрствы — лёгкай прамысловасці і мясцовай прамысловасці БССР.**

Намеснік міністра лёгкай прамысловасці БССР В. А. Пятроў адказвае: «Артыкул «Безаблічнасць» быў разгледжаны на пасяджэнні мастацка-тэхнічнага савета галіны разам са спецыялістамі Беларускага цэнтра моды, прадпрыемстваў прамысловасці і гандлю.

Вашы прапановы будуць улічаны ў рабоце пры ажыццяўленні рэкламы тавараў і прэстыжнай рэкламы прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Беларусі».

Намеснік міністра мясцовай прамысловасці БССР А. Н. Вахцін піша ў лісце ў рэдакцыю: «Ярлыкі на прадукцыю, якая выпускаецца прадпрыемствамі Мінмясцпрома БССР, выкананы ў адпаведнасці з дзеючымі стандартамі і тэхнічнымі ўмовамі. Выпуск ярлыкоў на рускай і беларускай мовах пацягне за сабой дадатковыя выдаткі». Праўда, далей тав. Вахцін мяняе «гнеў» на «літасць»: «Разам з тым, у Мінмясцпроме БССР распрацоўваецца пытанне пра магчымую замену тэксту ярлыкоў з рускай на беларускую мову, а таксама на двухмоўнае напісанне».

**Колькі ж спатрэбіцца часу на тое, каб, нарэшце, распрацавалі «пытанне»? Адно зразумела: і тут кропак над «і» адказныя таварышы не паставілі.**

**Праўда, трапляюцца ў афіцыйнай *пошце «ЛіМа»* і іншыя прыклады. Пад рубрыкай «Чытач прыйшоў у рэдакцыю» ў нумары нашай газеты за 26 мая быў змешчаны матэрыял пад назвай «Ці толькі забаўка — цацка». Загадчыца дзіцячага сада В. Бурмістрава прапанавала стварыць рэспубліканскі цэнтр гульні і цацкі, які дапамог бы вырашыць шэраг пытанняў па распрацоўцы і выкарыстанні розных гульняў і цацак для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту, для дзяцей-інвалідаў.**

**Прапанову В. Бурмістравай падтрымалі ў Міністэрстве народнай адукацыі і ў Міністэрстве культуры БССР.**

Начальнік упраўлення МНА БССР Т. М. Карасцялёва піша: «Міністэрства народнай адукацыі БССР разам з іншымі арганізацыямі рыхтуе прапанову ў Савет Міністраў БССР аб стварэнні рэспубліканскага цэнтра гульні і цацкі».

Яе дапаўняе намеснік міністра культуры рэспублікі У. В. Мацвееў: «На нашу думку, такі цэнтр можа адыграць выключную ролю ў паляпшэнні эстэтычнага выхавання дзяцей, ён зможа аказаць і значны ўплыў на ўдасканаленне і тэматычнае ўзбагачэнне вытворчасці цацак, якія выпрабляюць на прадпрыемствах рэспублікі.

Заслугоўвае ўвагі і падтрымкі прапанова аб стварэнні ў структуры цэнтра музея.

Міністэрства гатова аказаць усялякую дапамогу ў распрацоўцы музейнай экспазіцыі, у забеспячэнні метадычнымі дапаможнікамі па народных гульнях, танцах, узорамі вырабаў народных умельцаў.

Мы лічым, што цікавае рашэнне мадэлі рэспубліканскага цэнтра распрацоўваецца Міністэрствам народнай адукацыі з удзелам ЦК ЛКСМБ і іншых грамадскіх арганізацый. Са свайго боку Міністэрства культуры БССР таксама прыме самы актыўны ўдзел у гэтай патрэбнай справе».

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ «ЛіМа».**

# А ХВАЛЯ КОЦІЦЦА, ШУМІЦЬ...

(Пачатак на стар. 2—3).

руху хунвэйбінаў у КНР. А ўжо Вандэі прысвяцілі ўга колькі месяц, хоць можна было проста сказаць, што Вандэя — гэта змова супраць рэвалюцыі, контррэвалюцыя. Не рашыліся сказаць, што калі сёння гавораць «Вандэя перабудовы», дык маюць на ўвазе тармажэнне, супраціўленне перабудове, змову супраць перабудовы, якая з'яўляецца рэвалюцыяй у нашай краіне...

А замест пустапарожняй гаварыльні і злосных нападак апублікаваць бы платформы, праграмы нефармальных аб'яднанняў, дакументы з'езда БНФ ды выступіць па іх не другарадным асобам, што хаваюць рознымі фокусамі свае сапраўдныя пасады, і нават не начальнікам канструктарскіх бюро, а самым высокім кіраўнікам рэспублікі ці хоць бы кіраўнікам ідэалагічнага фронту, якіх нідзе не відаць і не чуваць, ды пракаменціраваць і разабраць з глыбокіх марксісцка-ленінскіх пазіцый гэтыя платформы і праграмы, практычную дзейнасць гэтых аб'яднанняў. Сказаць ім дзякуй за добрыя і карысныя справы, зробленыя імі за кароткі час станаўлення. У спакойным таварыскім тоне прааналізаваць іх памылкі і пралікі, без павучання, без крыку, са спагадаю падказаць ім шляхі выпраўлення недахопаў, ды яшчэ дапамагчы і стварыць умовы для іх пленнай работы на карысць перабудовы. Гэта, не сумняваюся, неадкладна прынесла б станоўчыя вынікі, зняло б напружанасць і канфрантацыю, скіравала б нефармальны рух рэспублікі ў дзейснае рэчышча сапраўднай барацьбы за перабудову і ачышчэнне ад завалаў сталіншчыны і застойшчыны. Гэта развеяла б недаўменне людзей, якія са здзіўленнем і незадаволенасцю сочаць за мышынай валтузнёй вакол нефармальнага руху.

Трэба нарэшце зразумець, што забаронамі, каманднымі і адміністрацыйнымі мерамі нельга спыніць народны рух, народную ініцыятыву, разбуджаную перабудовай і галоснасцю. Яго можна толькі ўзначаліць, заваяваўшы аўтарытэт у масах, перабудаваўшы ўсю дзейнасць партыйных і дзяржаўных органаў, ачысціўшы іх ад усялякіх сумніцельных, безыніцыятыўных, бяздушных, карумпаваных, з нячыстым сумленнем і бруднымі рукамі элементаў, перадаўшы ўсю паўнату ўлады Саветам не на словах, а на справе. Трэба не заклікаць да дыялога, адзінства і згуртаванасці, а зрабіць першы, але шчыры, практычны крок насустрач, як гэта робіцца ў іншых рэгіёнах краіны...

**Пётр ЛЕБЕДЗЕЎ,**
**член КПСС з 1947 года,**
**ветэран вайны і працы.**

**Калектыў Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне начальніку службы абсталявання Градовічу Рыгору Маркавічу з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.**

